


«Касманаўты» з Мінскага палаца піянераў.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс
Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі
і Саюза пісьменнікаў БССР

5

МАЙ

1962.

Год выдання X.

У НУМАРЫ:

Аповесць Уладзіміра Дамашэвіча «МІЖ ДВУХ АГНЁЎ».

Вершы Івана Леткі, Юрася Свіркі, Міколы Купрэева, Анатоля Сербантовіча.

Апавяданне Анатоля Сабалеўскага «ЛІСТ ДА МАЦІ».

Артыкул Міхася Лазарука «ШЛЯХІ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ».

**У НАСТУПНЫМ НУМАРЫ:**

Аповесць Міколы Ваданосава «КВЕТКІ ЗАСТАНУЦЦА З ТАБОЙ».

Вершы Еўдакіі Лось, Рамана Тармолы,

На вокладцы мал. **Ю. Выхадцава «Першамай».**


Мастацкі рэдактар І. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 40. Тэлефон—93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7 725. Цана 40 кап.
АТ 04267. Здадзена ў набор 28.III.62 г. Падпісана да друку 28.IV.62 г. Зак. 223

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Друкарня выдавецтва «Звязда». Мінск, Ленінскі праспект, 79.



КОММУНИЗМ УТВЕРЖДАЕТ НА ЗЕМЛЕ СЧАСТЬЕ

ПРАВДА

25

Орган Центрального Комитета Коммунистической партии Советского Союза

*Коммунизм выполняет историческую миссию избавления всех людей от социального неравенства, от всех форм угнетения и эксплуатации, от ужасов войны и утверждает на земле МИР, ТРУД, СВОБОДУ, РАВЕНСТВО, БРАТСТВО и СЧАСТЬЕ всех народов.*

# *Ленінскай „Правде“ 50 год*

Масква, вуліца «Праўды», 24. Дом з бетону і шкла. Такіх у сталіцы нашай Радзімы — нямала. І разам з тым гэта не зусім звычайны дом. Здалёк на ім можна ўбачыць светлыя вялікія літары: «ПРАВДА». Ноччу яны зіхацяць яркім святлом.

Сюды, на гэты адрас, паштальёны штодзень прыносяць больш тысячы лістоў. Пішуць у «Праўду» з усіх куткоў нашай краіны. На некаторых канвертах стаяць толькі два словы: «Масква, «Правда», і ліст абавязкова дастаўляецца адрасату.

Звычайна ў рэдакцыях заўсёды бывае шумна.

А ў рэдакцыі «Праўды» пануе цішыня. Жыццё тут ідзе спакойна, без мітусні, размераным тэмпам, нават калі адбываюцца самыя вялікія, гарачыя падзеі. Такі ўжо стыль «Праўды» — усё рабіць удумліва, сур'ёзна, без лішняга шуму і трэску. Спакоем, развažлівасцю, грунтоўнасцю эканоміцца шмат часу, які патрэбен для аператыўнага асвятлення падзей.

На чацвёртым паверсе размешчана стэнаграфічнае бюро рэдакцыі. З самай раніцы да позняй ночы рэдакцыя «Праўды» вядзе размову з усім светам. Пекін і Токіо, Дэлі і Джакарта, Каір і Анкара, Парыж і Лондан, Вашынгтон і Мехіка, Прага і Варшава... Усё, што адбываецца на свеце, у той жа дзень становіцца вядома ў рэдакцыі.

Бясконца звоняць тэлефоны. Рэдакцыю выклікаюць Уладзівасток і Мінск, Ленінград і Тбілісі, Кіеў і Ташкент... Карэспандэнты «Праўды» ва ўсіх саюзных рэспубліках, у многіх абласцях Саюза ўважліва вывучаюць жыццё і перадаюць у рэдакцыю свае карэспандэнцыі, артыкулы, інфармацыі.

З вялікага патоку матэрыялаў, які імкліва цячэ ў «Праўду» і па пошце, і па тэлефоне, і па тэле-

графе, выбіраецца самае важнае, самае галоўнае, самае цікавае.

Узважваецца кожнае слова, бо голас «Праўды» — гэта голас партыі, і да яго ўважліва прыслухоўваецца ўвесь свет — і нашы сябры, і нашы ворагі. Самой назвай газеты партыя сказала, што яна будзе гаварыць народу толькі праўду — чыстую, светлую, іншы раз суровую, але праўду. Так вучыў вялікі Ленін, па задуме якога і была створана «Праўда».

Сёння, у дзень пяцідзесяцігоддзя нашай слаўнай «Праўды», варта прыгадаць, як яна стваралася, як стала газетай газет, самай аўтарытэтнай, самай масавай ва ўсім свеце.



Гэта аддзел пісем рэдакцыі «Праўды». Сюды кожны дзень паштальёны прыносяць тысячы пісем працоўных.

Нарадзілася яна на хвалі магутнага ўздыму рэвалюцыйнага руху ў Расіі. Ленскі расстрэл рабочых у 1912 годзе навальніцай уварваўся ў палітычнае жыццё краіны. Партыя, Ленін ужо тады бачылі, што нарастаючы рабочы рух неабходна ідэйна ўзброіць. Важнейшым сродкам у ажыццяўленні гэтай задачы яны лічылі стварэнне штодзённай марксісцкай рабочай газеты.

Гэтае пытанне абмяркоўвалася на Пражскай канферэнцыі РСДРП. Яна і вырашыла прыступіць да выдання ў Пецярбургу масавай штодзённай рабочай газеты. У Лейпцыгу У. І. Ленін сустрэўся з дэпутатам Думы М. Г. Палятаевым і дамовіўся аб выданні новай рабочай газеты да вясны 1912 года.

Так У. І. Ленін практычна пачаў ствараць агульнарускую баявую газету, якая павінна была стаць прапагандыстам, агітатарам і арганізатарам мас.

10 снежня 1911 года бальшавіцкая штотыднёвая газета «Звязда» пісала: «Ці не лепш за ўсё каласальную энергію накіраваць на неадкладную задачу дня: на стварэнне штодзённай рабочай газеты? Газета — не палац. Закрыюць на Выбаргскай старане, перанясем рэдакцыю на Васільеўскі востраў... Пусціце ў ход усю вашу энергію, і газета будзе створана ў самы бліжэйшы час».

І гэтая энергія партыі і рэвалюцыйных рабочых была пушчана ў ход. 15 студзеня 1912 года рабочы Павел Пагулянскі прыслаў у «Звязду» два рублі. Гэта быў першы ўзнос у фонд будучай «Праўды». Рабочыя абмяркоўвалі палітычную лінію газеты і адначасова рабілі групавыя і індывідуальныя грашовыя зборы. «Звязда» 16 красавіка пісала: «Мы, рабочыя булачнай Філіпава, вітаем ідэю стварэння штодзённай рабочай газеты, якая павінна асвятляць усе цёмныя куткі працоўнага рабочага жыцця і па свайму зместу павінна быць простая і зразумелая для рабочых. Мы думаем, што рабочая газета павінна быць марксісцкая, аднародная з напрамкам «Звязды», і на такую вось газету мы і ахвяруем сваю невялікую лепту — 4 рублі 90 капеек».



У час ленскіх падзей паступленні грашовых збораў у фонд «Праўды» ўзраслі. У студзені 1912 года групавых збораў было 14, у лютым — 18, у сакавіку — ужо 76, у красавіку — 227. Да дня выхаду «Праўды» — 22 красавіка па старому стылю (5 мая — па новаму) было сабрана 4288 рублёў 84 капейкі. Такія зборы сродкаў на сваю газету, арганізаваныя самімі рабочымі, былі небывалай да таго часу з'явай у гісторыі рабочага руху і газетнай справы ў прыватнасці.

Узнікла «Праўда» як рабочая газета. Гэта было відаць па першых яе нумарах. Штодзённа яна друкавала 40—50 пісем рабочых. На яе старонках расказвалася аб стачках і забастоўках рабочых, аб іх быце і ўмовах працы на прадпрыемствах. Такія матэрыялы выражалі думку простых людзей, аб'ядноўвалі іх вакол газеты, выхоўвалі ў іх класавую свядомасць.

Рабочыя горача любілі сваю газету і ва ўсім падтрымлівалі яе. А царскі ўрад няспынна праследаваў яе, накладваў штрафы, забараняў выданне. А яна жыла. Забаранілі «Праўду», — выйшла «Рабочая праўда», закрылі яе — пачала выходзіць «Северная правда», потым «Правда труда», за ёй — «За правду», «Пролетарская правда», «Рабочий», «Трудовая правда». Але ўсё гэта была тая ж «Праўда», з яе праграмай, з яе рабочым апаратам, з яе сталымі чытачамі і нават з ранейшым афармленнем. Слова «Праўда» ў загалоўку давалася ранейшым шрыфтам, вялікімі літарамі, так што адразу бачна было, што гэта не якая-небудзь новая газета, а ранейшая, жывая, непераможная, неўміручая «Праўда».

У рабочых чытачоў гэта выклікала захапленне. Яны верылі, што іх справа, за якую змагаецца «Праўда», — непераможная. Сваю любоў да газеты добра выказаў паэт — рабочы Чырво-



У цынкаграфіі рабочыя рыхтуюць клішэ. Каб якасць здымкаў была высокая, цынкограф В. Сіроткін уважліва правярае кожнае клішэ.



Артыкулы, карэспандэнцыі, нарысы, заметкі набіраюцца на новых фотанаборных машынах.



**Чарговы нумар «Праўды» гатовы. Галоўны рэдактар П. Сацюкаў падпісвае газету да друку.**
Фота **А. Пахомава.**

насельскай папяровай фабрыкі Іван Васільевіч Шувалаў. Ён пісаў:

С каждым днем все больше, больше
нас.
Плотней ряды, сознательней
упрямость.
Растет могучий пролетарский класс.
И путь в грядущее уже намечен
прямо...
Уж «Правда» пишет грозные слова,
Буравят трон бушующие стачки...

Рабочыя не толькі падтрымлівалі сваю газету матэрыяльна, але і самі распаўсюджвалі яе. Адзін з першых рабкораў «Праўды» Б. І. Іваноў расказвае пра свайго паплечніка, актывіста-праўдзіста Івана Воінава, які быў забіты на Шпалернай вуліцы ў Петраградзе ў 1917 годзе, калі распаўсюджваў газету «Правда»:

«У 1912—1914 годзе ён арганізаваў пастаянна дзеючы нелегальны пункт, адкуль «Праўду» забіралі дэлегаты ад заводаў Выбаргскай стараны Петраграда. Воінаў быў нелегальным, не меў сваёй кватэры, начаваў на выпадковых кватэрах знаёмых, а летам — у дрывотніку. Ваня Воінаў спаў на стосах «Праўды» і на вяроўках, якімі ён таксама гандляваў...»

Газета «Праўда», як вядома, была закрыта 8 ліпеня 1914 года. Але зерні, пасеяныя ею, выспявалі ў гушчах працоўных мас. Народ не забыў сваю любімую газету.

Адразу ж пасля Лютаўскай рэвалюцыі стварыліся ўмовы для адраджэння газеты. У нумары за 5 (18) сакавіка 1917 года «Праўда» пісала:

«Таварышы рабочыя, таварышы салдаты, таварышы сяляне, усе, хто чытаў «Праўду», сустрэнуць яе, як старога сябра. І новыя сябры пойдуць ёй насустрач... Рабочая газета «Правда» будзе служыць рабочаму класу ў дні рэвалюцыі і ў дні свабоды».

7 красавіка на старонках «Праўды» былі надрукаваны гістарычныя тэзісы даклада Уладзіміра Ільіча Леніна «Аб задачах пралетарыята ў данай рэвалюцыі» — геніяльныя Красавіцкія тэзісы, якія адыгралі велізарную ролю ў падрыхтоўцы і правядзенні Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Як і ў першыя гады існавання, «Праўда» на сваіх старонках амаль штодзённа друкавала палымяныя заклікі, натхнёныя артыкулы і прамовы У. І. Леніна, настойліва несучы ў масы вялікія ідэі рэвалюцыі.

«Пралетарыят павінен памятаць, — пісала «Правда», — што толькі са зброяй у руках ён можа замацаваць свае заваёвы і давесці справу рэвалюцыі да канца».

Буржуазны Часовы ўрад ставіўся да рабочай газеты не лепш, чым царскі. Буржуазія спрабавала заглушыць голас «Праўды». 5(18) ліпеня 1917 года яе рэдакцыя была разгромлена юнкерамі і казакамі, а выданне газеты забаронена. Але яна працягвала выходзіць пад іншымі назвамі «Листок Правды», «Рабочий и Солдат», «Пролетарий», «Рабочая газета», «Рабочий путь».

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі газета выйшла ў Петраградзе пад ранейшай сваёй назвай як орган ЦК РСДРП(б). У звароце рэдакцыі да чытачоў гаварылася: «З сённяшняга дня наша газета пачынае выходзіць пад сваім старым імем «Праўды»... З гэтага часу мы будзем прадаўжаць барацьбу пад старым сцягам «Праўды», у якой працоўныя масы даўно прывыклі бачыць выражэнне сваёй рэвалюцыйнай волі».

На працягу ўсяго свайго існавання «Праўда» заставалася вернай гэтаму слову. Яна высока нясе баявы сцяг марксізма-ленінізма. Таму і стала яна самай распаўсюджанай газетай у свеце — яе тыраж перавышае шэсць мільёнаў экземпляраў.

«Праўда» стала трыбунай народных мас, палымяным барацьбітом за камунізм, за мір і дружбу паміж народамі.

Калі гартаеш яе старонкі, нумар за нумарам, год за годам, адчуваеш дыханне часу, своеасаблівасць кожнага этапу сацыялістычнага будаўніцтва, нанава перажываеш хвалюючыя падзеі імклівага і разам з тым нялёгкага руху нашага народа да запаветнай мэты — камунізма. Са старонак газеты глядзяць на нас жывыя героі, удзельнікі першых камуністычных суботнікаў, застрэльшчыкі індустрыялізацыі, пачынальнікі метадаў высокапрадукцыйнай працы, актывісты калектывізацыі, энтузіясты пакарэння прыроды і майстры высокіх ураджаеў.

Асабліваe месца займала «Праўда» ў мабілізацыі сіл савецкага народа на разгром фашысцкіх захопнікаў, якія напалі на нашу Радзіму. Магутным набатам гучаў яе голас, да якога чуйна прыслухоўваўся савецкі народ.

Пасля вайны, у перыяд аднаў-

**Самалёт даставіў матрыцы ў Мінск. Рабочыя стэрэатыпнага цэха адлілі з іх формы. Цяпер з формаў можна друкаваць газету.**





**Вось на гэтым агрэгаце друкуецца ў Мінску газета «Праўда».**



Свежы нумар «Праўды» гатовы да рассылкі чытачам.

Фота А. Дзітлава.

лення разбуранай народнай гаспадаркі, наша народная газета заставалася на перадавых пазіцыях, падхоплівала і распаўсюджвала ўсё новае, перадавое, што нараджалася творчым геніем мас. Яна па-ранейшаму застаецца вядучай газетай краіны. Чытачы любяць яе за глыбіню тэарэтычнай думкі, за паслядоўнае і прынцыповае асвятленне міжнароднага жыцця, за непрымірымасць да рэвізіянізму ў камуністычным руху.

Друкаваныя органы брацкіх камуністычных партый абменьваюцца з «Праўдой» зменнымі палосамі. Многія відныя грамадскія і палітычныя дзеячы выступаюць з артыкуламі ў «Праўдзе».

... Ціха ў памяшканні рэдакцыі. Журналісты ўдумліва працуюць над матэрыяламі. Аддзелы, сакратарыят, рэдакцыйная калегія... Напружана пульсуе калектыўная думка, адшліфоўваецца кожная фраза. Працоўная Масква ўжо адпачывае, а дом «Праўды» яшчэ зіхаціць агнямі.

Паміж рэдакцыяй і наборным цэхам устаноўлена пнеўматычная пошта — каля чатырох кіламетраў труб. Апрацаваны, гатовы да набору матэрыял кладзецца ў спецыяльны патрон і пускаецца ў трубу. 70—75 секунд — і ён ужо ў наборным цэху.

Вялікі калектыў друкароў працуе над кожным нумарам «Праўды». Тут і старыя майстры, якія ўсё сваё сумленнае жыццё аддалі любімай газеце, і моладзь. У 118 рабочых працоўны стаж складае па 30—40 год. І старыя, і моладзь — людзі высокай кваліфікацыі. Лінатыпісты, напрыклад, выдатна валодаюць дзесяціпальцавым «сляпым» наборам.

Ратацыйны цэх «Праўды» — самы магутны ў свеце. Усе апераціі ў ім механізаваны. За дзве гадзіны тут друкуюцца два мільёны экземпляраў газеты. У многіх гарадах, у тым ліку ў Мінску, «Праўда» друкуецца з матрыц, якія на самалётах дастаўляюцца з Масквы.

На золаку абуджаецца сталіца нашай Радзімы. Што адбылося ўчора ў свеце, чым жыве ўвесь наш народ сёння, якія задачы ён будзе вырашаць? Аб усім гэтым савецкі чалавек даведаецца раніцай са старонак сваёй любімай газеты «Праўда». Гэта сімвалічна — з «Праўды» ён пачынае свой дзень. Значыць, дзень шчаслівы.

**Сяргей САКАЛОЎ.**

Іван **ЛЕТКА**

## НАШЫ РУКІ



Мы не раз узнімалі
 дужыя рукі,
«Міру — мір!» — разляталася
 рэхам.
І каціліся чыстыя,
 медныя гукі
Над прасторам лугоў
 і рэкаў.
А цяпер жа ізноў
 на трыбуне чырвонай
Гнеўны голас
 вайны ветэрана:
Па-зладзейску забіты
 патрыёт Конга —
Гэта кожнаму сэрцу рана.
Узнімаюцца гнеўныя рукі высока,
Нібы фабрык магутных трубы,
А сусед,
 што стаяў
 не заўважаны збоку,
Паднімае
 рукі абрубак.

## МАЛЕНЬКІ ГАСПАДАР



Непрыкметны, ціхі чалавек:
а ні росту,
а ні тых плячэй,
каска чорная
тырчыць на галаве.
Печ падпальвае

агеньчыкам вачэй.
Узнімае плечы
дужы цэх.
І, як чэрці,
скачуць малаты
— ён сціскае клешчы
у руцэ,
золата кладзе ім
у раты.
Стогнуць печы.
Грукат там і тут.
А вось ён—
маленькі гаспадар —
носіць у вячэрні інстытут
гэтых печаў
прагавіты жар.



Уладзімір ДАМАШЭВІЧ

# МІЖ ДВУХ АГНЁЎ

Аповесць

Мал. Ф. Бараноўскага.

## I

Чалавек па натуры сваёй — шукальнік. Цягне яго невядомае і новае, таемнае і нязведанае. А калі, да ўсяго, чалавеку мінула нядаўна дваццаць гадоў, калі ён толькі яшчэ пераступіў парог сваёй сталасці? Тады чалавеку няма спакою.

Так было і з Валяй Калейнік, якая толькі што скончыла педагагічны тэхнікум і пачала працаваць у падлясейскай школе. Дзесяцігодка для яе, яшчэ нявопытнай настаўніцы, — гэта таямніца, нязведанае: новы калектыў, вялікі, незнаёмы, новыя абавязкі, шумлівая і такая мілая дзетвара. Што можа быць даражэй для маладой настаўніцы тае работы, да якой яна ў душы даўно ўжо рыхтавалася?

Першы ўрок у сваім трэцім класе Валя запомніць на ўсё жыццё. Яна глядзела на клас і бачыла дзяцей нібы ў нейкім марыве і разумела, што гэта, мусіць, ад празмернага напружання нерваў. Яна не пазнавала свайго голасу — ён здаваўся ёй зусім чужы.

І яшчэ яна заўважыла, што не адчувае: спыніўся час ці, можа, вунь як ляцеў, — а калі ўрэшце зірнула на гадзіннік, то не паверыла вачам: урок канчаўся, а яна паспела толькі з большага пазнаёміцца з вучнямі і распытаць, як яны адпачылі за лета.

Валя не ўзрадавалася званку, бо пад канец урока адчула нейкую нязвыклую і глыбокую радасць: знікла тая скаванасць, якая так доўга не пакідала яе.

Пакрысе ўляглася трывога, памалу нараджалася ўпэўненасць, што яна справіцца.

Цяпер Валя шырэй магла глянуць на свет, азірнуцца. Хацелася хутчэй пазнаёміцца з настаўнікамі. Адны падабаліся ёй, другія не, да трэціх яна была абыякавая. Інакш, мусіць, і быць не магло. Пажылыя настаўнікі, здавалася, мала цікавіліся тым, што ў іх з'явіўся новы чалавек, маладая настаўніца.

Назаўтра Валя прыйшла ў настаўніцкую раней за ўсіх. Распрануўшыся, яна агледзела сябе перад люстэркам: папраўіла струкаватыя русыя валасы, правяла насліненымі пальцамі па тонкіх брывах, роўных, як нітачкі, тужэй завязала паясок на светлай, у рамонкі, сукенцы.

У гэты час дзверы адчыніліся, і ў пакой увайшоў рослы, з выгляду малады мужчына. Ні да кога не звяртаючыся і не гледзячы на прысутных, ён падышоў да доўгага стала, за якім звычайна сядзелі настаўнікі, і пачаў нечага шукаць.

— Ага, — мармытнуў ён сабе пад нос і з-пад кіпы сшыткаў дастаў старую тоўстую кніжку ў скураным карычневым пераплёце.

Можа ён адчуў на сабе зацікаўлены позірк незнаёмай дзяўчыны ці проста ведаў, што тут ёсць нехта чужы, — бо павёў вачыма, не падымаючы галавы, глянуў з-пад ілба на Валю. На нейкі момант рука яго з кнігай застыла, але ніхто не заўважыў гэтага. Ён паволі запхнуў кнігу ў тоўсты партфель з двума замкамі. Таксама бясшумна, як і ўвайшоў, ён зачыніў за сабою дзверы, не сказаўшы нікому ні слова.

Валю ўразіў яго безуважлівы, абыякавы выраз твару. Светлыя вочы толькі на момант ажылі, калі ён глянуў на яе. Суровая складка на ілбе, якая пачыналася над пераноссем, рассякала лоб на дзве часткі і рабіла твар гэтага чалавека занадта суровым.

Вечарам, ужо лежачы ў пасцелі, Валя ўспаміпала сустрэчу ў настаўніцкай ад пачатку да канца. Чым жа крануў яе гэты аскетычны з выгляду настаўнік? Нічога пэўнага Валя не магла сказаць, але яна адчувала ў гэтым чалавеку нешта такое, што прыцягвае да сябе, вабіць і разам з тым палохае. І яшчэ ёй здалося, што гэты чалавек нешта тоіць у сабе і не хоча ні з кім падзяліцца сваёй таямніцай.

Работа забірала ўвесь Валін час. У Валі не хапала вопыту, каб выйсці з якога-небудзь недарэчнага вадавароту, у які заводзіла жывая плынь практыкі. Валя часам траціла многа сілы там, дзе хапіла б адной нязначнай, але разумнай меры. Ды Валя цешыла сябе тым, што праца яе не прападае дарма: дзеці палюбілі яе.

Лукашыка, таго настаўніка з суровым выразам твару, яна бачыла цяпер гады ў рады: іншы раз заставала яго ў настаўніцкай, часам спатыкала на вуліцы. Жыў ён пры самай школе і амаль нікуды не хадзіў.

Быў у вёсцы свой клуб, там у святы збіралася моладзь патанцаваць, паглядзець кіно. Прыходзілі туды і настаўнікі, асабліва часта на калгасныя сходы. Час быў бурны: на захадзе бразгала зброяй Германія. Нядаўна была разгромлена панская Польшча, нямецкія войскі таптаі палі Францыі, Галандыі, Бельгіі, высаджваліся ў Скандынавіі. Пахла дымам і порахам.

Але ўсё гэта, здавалася, зусім не цікавіць Лукашыка. Што ж яго вабіць? Толькі кнігі, радыё? Казалі, што ён вельмі дасканала ведае свой прадмет — гісторыю. На яго ўроку клас сядзіць і не дыхае. Лукашык ніколі не пераказвае падручніка, а дае новае, свежае, чаго ніколі не чулі дзеці. За гэта і слыў ён сярод вучняў, ды і сярод людзей усёй вёскі, вучоным чалавекам. За гэта ж яго недалюблівалі некаторыя настаўнікі і нават смяяліся, што ён выкладвае дзецям увесь свой студэнцкі багаж.

Такі быў гэты таямнічы Лукашык, і Валя ўсё часцей і часцей пачынала думаць аб ім. Яна часта бачыла ўжо сябе жонкаю гэтага дзіўнага чалавека, уяўляла, як яна будзе даглядаць яго, любіць. Не знешнасць, не прыгожы твар, не стройная фігура Лукашыка вабілі Валю, бо гэтым Лукашык не вызначаўся, а нейкая яго ўнутраная сіла, якая не ўсім была відаць, а Валя вунь як адчувала яе. Можа гэта была нават не сіла, а нейкае затоенае ад людзей гора ці можа слабасць, якую сарамлівa хаваюць ад чужых вачэй...

Аднойчы ў нядзелю Валі заманулася добра адпачыць. Узяўшы з сабою першую кнігу «Ціхага Дона», яна загуменнямі пайшла ў лес, які пачынаўся адразу за вёскай.

Быў ласкавы асенні дзень. Па-летняму яшчэ цёплае сонца залаціла пажоўклае лісце бяроз, ветрык варушыў галіны, зрываючы паволі ліст за лістом.

Сям-там пападаліся грыбы. Вось яна чуць не наступіла на вялізны, з шакаладнаю шапкаю баравік, нагнулася, вырвала яго. Корань адразу ўвагнуўся пад пальцамі, хрупнуў,— быў чарвівы. Валя разламала шапку — і тут былі чэрві. Яна злосна шпурнула грыб аб зямлю і пайшла далей. Пад нагамі шапацела лісце, пахруствалі сухія галінкі, што ўсцілалі дол.

Яна доўга не магла знайсці сабе добрага месца: трапляўся то суцэльны цень, то пад нагамі не было травы, то вытаптаная сцежка не давала ёй прыпыніцца. Валя ішла ўсё далей і далей. Вось знаёмы дуб з двума раламі. Яна не першы раз у гэтым лесе, і памятае, што хутка павінна быць палянка з маладымі бярозкамі, дзе многа пнёў — слядоў старой парубкі.

Белы густы мох гладкім дываном усцілаў зямлю, дзе-нідзе праз яго прабіваліся пажоўклыя тонкія травінкі.

На паляне Валя развяла рукамі падатлівыя галінкі кустоў, ступіла яшчэ крок і ледзь не ўскрыкнула: на зямлі ляжаў чалавек. Ён быў голы да пояса, а твар яго закрывала кніга ў яркай чырвонай вокладцы.

Валя пастаяла хвіліну, а пасля асцярожна пачала адступаць назад. Чалавек у гэты час падскочыў, нібы яго што ўкалола, сеў, закрываючыся ад сонца. І Валя здзівілася яшчэ больш: гэта быў Лукашык.

Зблытаныя доўгія валасы ўпалі яму на твар, і ён адкінуў іх назад абедзвюма рукамі. Нязвыклае хваляванне ахапіла раптам Валю. А што, калі падысці да яго? Але што ён падумае тады пра яе? Не, не, не!!! Яе агарнуў страх, невыразны дзявочы страх...

Не разбіраючы дарогі, Валя кінулася наўцёкі.

«Далей, далей ад яго...»

Адбеглася і толькі тады суцішыла крок і паспакайнела.

Дзіва — з таго часу Лукашык перастаў цікавіць Валю. Яна не хацела нават трапляць яму на вочы, нібы ён мог ведаць пра яе думкі там, у лесе. Яна прыходзіла на ўрокі перад самым званком, калі настаўнікаў старэйшых класаў ужо не было.

Але Лукашык, як знарок, іншы раз нешта забываў у настаўніцкай, а аднойчы доўга стаяў перад новым раскладам. Ён па-ранейшаму кідаў

на яе кароткі позірк, але было ў гэтым позірку нешта нявыказанае, загадкавае, пасля чаго хацелася спытаць: «Што вы пра мяне ведаеце?»

Пазней Валя краем вуха пачула, што Лукашык быў жанаты, але дзе яго жонка і як здарылася, што ён адзін — ніхто не ведаў. І яе зноў пачынала трывожыць і вабіць яго таямнічасць.

Падлясейкі — невялікая вёска, што выцягнулася ўздоўж дарогі на якую вярсту. Прысады, саламяныя стрэхі, сям-там гонта ці чырвоная бляха, няроўная пясчаная вуліца, пасечаная трактарнымі гусеніцамі, здратаваная капытамі; крыху ўбаку — вялікі кароўнік і некалькі сціртаў неабмалочанага збожжа...

Валя ішла ў канец вёскі пасля ўрокаў, каб наведаць свайго вучня, які вось ужо трэці дзень не прыходзіў у школу. Трэба было пагаварыць з яго бацькамі. Задумаўшыся, Валя не заўважыла, што насустрач ідзе чалавек, а калі глянула — пахаладзела: гэта быў Лукашык.

Раскошны і даволі пямяты шэры гарнітур вісеў на ім, бы на калу, рукі матляліся, як чужыя; прадаўгаватая галава з прамымі русымі валасамі чуць адкінута назад, вочы хаваюцца пад навіслымі бровамі, на ілбе — складка.

Яны павіталіся холадна і стрымана, але чамусьці і ён і яна запаволілі крок, нібы збіраючыся яшчэ нешта сказаць—не проста «добры дзень»...

«Няўжо так і разыдземся, як чужыя,— думала Валя,— няўжо ў яго не хопіць смеласці зачапіць мяне?»

Валя з цяжкасцю прымусіла сябе паскорыць крок, як раптам пачула, што яе аклікнулі, і азірнулася.

Лукашык стаяў, павярнуўшыся да яе і, нібы вінаваты, чакаў ад Валі папроку за сваю недалікатнасць.

— Усё-такі нядобра з вашага боку... — пачаў ён, падыходзячы да Валі.

— Што нядобра?— спытала яна і нават не кранулася з месца.

— Ну... нядобра так няўважліва абыходзіцца са сваім калегай...— Сарамяжлівая ўсмешка з'явілася на тонкіх вуснах Лукашыка, і твар яго стаў нязвыкла ветлівы.

— Гэта мне? — здзіўлена спытала яна і засмяялася. — А вы?..

— Як вам сказаць... Таму я і хацеў паправіць свой грэх. Я так рэдка вас бачу,— і Лукашык апусціў галаву.

— Хіба гэта так важна? — яшчэ больш здзівілася Валя.

— Як вам сказаць...— зноў запнуўся Лукашык.— Для мяне — важна. Чаму — я вам зараз растлумачу... Але чаго мы стаім сярод дарогі? Куды вы ішлі? Да Цітковіча? Давайце пойдзем разам...

З таго часу яны пачалі лічыць сябе добрымі сябрамі, сяды-тады знарок ці незнарок сустракаліся то ў школе, то на вуліцы ці ў клубе.

Людзі здзіўляліся, што Лукашык стаў часцей з'яўляцца ў людных мясцінах і нават прыходзіў на танцы ў клуб, калі там была Валя. Ён чакаў яе дзе-небудзь у кутку, пакуль яна танцавала, а пасля праводзіў дадому.

Аднойчы познім суботнім вечарам дождж загнаў Валю і Лукашыка пад хату Валінага гаспадара. Яны прыцісnuліся да сцяны, ды вецер даставаў іх і там.

Валя ненарокам ўзялася за клямку ў дзвярах, але заўважыла, што ў прабоі вісіць замок. Дзе ляжыць ключ, яна ведала, і ёй прыйшло ў галаву зайсці ў хату. Лукашык, падумаўшы, згадзіўся, і яны, мінуўшы цёмную прасторную палавіну гаспадароў, апынуліся ў Валіным пакойчыку.

Валя запаліла лямпу, завесіла акно. Лукашык першы раз быў тут



і з цікавасцю стаў разглядаць пакой. Маленькі кухонны столік, які служыў і пісьмовым сталом, два крэслы, этажэрка, вузкі ложак з дзвюма невялікімі падушкамі, фіранка, дарожкі, капа, накідкі і розныя вышыўкі — усё рабіла пакой утульным і абжытым.

На сцяне вісеў партрэт правадыра, правей і ніжэй была размешчана рамка з фотакарткамі. Унізе пад адной з іх быў подпіс: «С-кі педтэхнікум, 16.04.1939 г.» На фотакартках красаваліся маладыя дзяўчаткі. Валя была ззаду, схаваўшыся за сяброўак. Лукашык прыкмеціў ужо гэтую рысу ў яе характары: не любіць выстаўляцца на паказ, хоць на выгляд яна сімпатычная і нават прыгожая: правільныя рысы твару, зграбны тонкі нос, вялікія шэрыя вочы...

Цяпер яна выглядала крыху не так, як на фатаграфіі. Не было ранейшай дзіцячай свежасці.

Тым часам Валя выйшла ў другую палавіну і хутка вярнулася адтуль, апранутая ў квяцістую паркалёвую сукенку. Яна адчувала сябе неяк няёмка, нібы баялася, што за імі нехта сочыць. «Яна губляецца са мною... Што гэта можа значыць? — пытаў сам сябе Лукашык. — Калі яна ўпусціла мяне ў хату, дзе нікога няма, значыць, яна мне або верыць, або... Трэба толькі не спалохаць, на сціпласць адказаць тым жа — і ў яе загаворыць цікаўнасць. Але і тады трэба быць стрыманым...»

— Дзе ж твае гаспадары? — міжволі спытаўся Лукашык.

— Здаецца, у горадзе. Там у іх сваякі, вось і загасціліся... — Валя асцярожна села на крэсла ля століка, нібы яна была тут госця.

— Яны не крыўдзяць, часам, цябе? — чамусьці раптам запытаў Лукашык. — Калі што, дык можна памяняць кватэру...

— Не, тут мне добра, — запярэчыла Валя. — Гаспадары не ўмешваюцца ў мае справы.

— Не дапытваюць, куды ходзіш, што робіш?

— Не... А што ты хочаш сказаць? — Валя раптам схамянулася, адчуўшы ў яго словах ні то здзек, ні то падазроную цікаўнасць.

— Нічога, я проста так, пажартаваў, — адказаў Лукашык і, падышоўшы да сцяны, пстрыкнуў пальцам па фатаграфіі. — Гэтулькі дзяўчатак... А дзе ж хлопцы?

— На нашым курсе быў толькі адзін, ды і той не прыйшоў здымацца. Вось мы і без хлопцаў...

Лукашык адчуваў сябе неяк няўпэўнена. Нешта скоўвала яго рухі. Нават гаварыць, здавалася, у яго няма пра што.

— Дождж, здаецца, перастае, пара...— Лукашык знарок загаварыў пра гэта, каб ведаць, што скажа Валя.

— Ісці? — Валя ўскочыла з крэсла, адхіліла фіранку і прыслухалася. — Дождж і не думае пераставаць. Пачакай трохі.

Гэта яму было прыемна чуць, аднак ён рабіў выгляд, што не збіраецца мяняць намеру.

— Ды што мне дождж? Пяць хвілін — і я дома. — Лукашык сабраўся ісці.

— А я не пушчу, — жартам сказала Валя і заступіла яму дарогу. — Яшчэ прастудзішся.

Лукашык доўга глядзеў на Валю, пасля абхапіў яе і асцярожна прытуліў да сябе. Яна замерла на момант, нібы раздумваючы, а пасля раптам вырвалася з яго абдымкаў. Лукашыку здалося, што вочы яе ўспыхнулі гневам, і ён адразу адступіў:

— Не крыўдуй, я незнарок.

— Першы раз дарую, — сур'ёзна адказала яна.

— А другі? — усміхнуўся Лукашык.

Можа Валі шкада стала Лукашыка ці яна падумала, што пакрыўдзіла чалавека, толькі яна падышла і пагладзіла яго па русых валасах, яны рассыпаліся на роўны прабор.

Лукашык гэты раз стрымаўся.

— Усё залежыць ад цябе, — сказала Валя, і ў Лукашыка зноў ажыла надзея.

Лепш было пагаварыць аб чым-небудзь нязначным, абы ішоў час, і Лукашык пачаў хваліць сваю гаспадыню, пачаў расказваць, як яна заўсёды пакідае яму вячэру, калі ён адлучаецца з хаты.

Раптам Валя ўспляснула рукамі і сказала, што яны могуць таксама павячэраць.

— Я толькі не ведаю, ці добра гэта — запрашаць хлопца вячэраць, тым больш...

— Тым больш галоднага, — сказаў Лукашык і падміргнуў.

Валя падумала яшчэ, пасля пачала збіраць на стол.

Лукашык кроіў хлеб тупым нажом і назіраў, як хутка і акуратна расстаўляе яна посуд на стале, як лётаюць яе ўвішныя рукі, аголеныя да плячэй, як тонкія, спрытныя пальцы раскладваюць хлеб, крышаць вяндліну, наразаюць агурок...

Калі ўсё было гатова і яны селі за стол, Лукашык спытаў:

— Скажы, Валя, а ў цябе няма часам якога-небудзь зелля?

— Зелля? — перапытала Валя. Яе рукі на момант застылі, а вочы спыніліся на Лукашыкавым твары. — Ой, праўда! Добра, што ты напомніў.

Яна нагнулася, адчыніла дзверцы ў століку, пашамацела паперамі і дастала бутэльку арабінавага віна. Пасля выняла шклянку з лыжачкай і пабегла на палавіну гаспадароў. Адтуль вярнулася ўжо з дзвюма чыстымі шклянкамі і паставіла іх на столік перад Лукашыкам.

— Ну, за што будзем піць? — спытаў ён, наліваючы віно.

— За што? Тут трэба падумаць. — Валя чамусьці стала сур'ёзнай. — За дружбу... Не! За настаўнікаў... За сапраўдных.

— Дык, выходзіць, не за нас з табой? — скрывіўся Лукашык.

— Як гэта? — не зразумела Валя.

— Ну, можа ты ўжо і лічыш сябе сапраўдным, а я ўсё ніяк не асмелюся.

— Разумею... Я таксама не лічу... Толькі да гэтага трэба імкнуцца.

— У такім разе я згодзен, — Лукашык сціснуў тонкія вусны.

Жаласна дзынкнула тонкае шкло. Дзве рукі — адна жылістая і дужая, другая далікатная — ускінулі ўгору шклянкі.

Час ішоў непрыкметна. Ходзікі з катом-маргуном наверсе паказвалі першую гадзіну ночы. Крыху захмялеўшы, Лукашык разгаварыўся. Гутарка яго была няроўная: ён то загараўся, ажываў, калі закранаў нешта блізкае сэрцу, то астываў, цягнуў манатонна і стараўся хутчэй скончыць, абрываў. Валя слухала і пазірала на яго твар, па якім, як цені, прабягалі адбіткі пачуццяў і думак. Шырокі ўпарты лоб яго то пакрываўся маршчынамі, то рабіўся гладкі, але адна папярочная складка ўсё не прападала.

Першы раз за многа год Лукашык гаварыў адкрыта і шчыра. Ён прызнаўся Валі, як на споведзі, што быў жанаты, але разышоўся, што дзяцей у яго няма, што бацькоў таксама, лічы, няма, бо ў трыццаць сёмым годзе іх выслалі ў Сібір і невядома, што з імі.

Тут Валя перабіла яго, спытаўшы.

— За што?

Лукашык паморшчыў лоб, задумаўся.



— Была адна прычэпка. У Польшчы жыў мой дзядзька, бацькаў брат. А больш не было ніякіх прычын, гэта я ведаю добра.

— І толькі за гэта? — здзівілася Валя.

— Не будзь наіўная... Хіба ты сама не чула, не бачыла? Вораг народа — і ўсё.

— Пачакай, а як жа ты... — Валя не скончыла.

— Уцалеў, ты хочаш сказаць? Я думаю, выпадкова. У той час я жыў на кватэры ў пракурора, быў жанаты з яго дачкой... Дарэчы, ты з-за далікатнасці не спытала ў мяне, чаго я разышоўся з жонкай.— Лукашык нагнуў галаву, пазіраючы ў падлогу. Відаць, яму цяжка было гаварыць. — Яна не хацела мець ад мяне дзяцей. А, каб ты ведала, гэта самая большая абраза, якую можна прыдумаць для мужчыны. Ды і бацькі яе глядзелі на мяне, як на белую варону. Я там быў чужы...

— Ой, як гэта ўсё складана, — Валя ўздыхнула. — У мяне ўсё было проста. Ніякіх нечаканасцей, ніякіх паваротаў.

— Пачакай, ты толькі пачынаеш жыццё. Ты яшчэ дзіця, — сказаў Лукашык і ўзяў яе руку.

— Я дзіця? — шчыра здзівілася Валя і прыняла руку. — Мне дваццаць год, калі хочаш ведаць.

— А памятаеш, у Талстога: «Судили мальчика двадцати лет...» Калі я прачытаў гэтыя словы, — а мне якраз было дваццаць, — я таксама пакрыўдзіўся. Як гэта? А цяпер, калі азіраюся назад, то сапраўды бачу, што ў дваццаць год чалавек яшчэ дзіця.

— Ай, перастань...— Валя замахала рукамі. — Раскажы што-небудзь цікавейшае.

— Сёння не буду. Я хачу маўчаць і глядзець толькі на цябе.

— Перастань...

— Тады я пайду дадому. І так — позна. — Лукашык зірнуў на гадзіннік.

Валя пачала ўгаворваць, каб ён пабыў, але Лукашык стаяў на сваім.

— Пабудзь, пакуль прыедуць мае гаспадары.

Лукашык зноў сеў за стол.

— Ну, добра...

— А калі не прыедуць?

— То будзеш адна... Не прыкідвайся, баяцца няма чаго, кругом людзі... Я патушу лямпу, нашто яна дыміць...— І Лукашык некалькі разоў то пабольшваў, то памяншаў агонь. Чырвонае, з вуголлямі ў сярэдзіне полымя пырснула іскрамі, лямпа раптам патухла, толькі вуголь яшчэ чырвоным вокам бліснуў у цемры.

— Што ты зрабіў, Лявон! — ускрыкнула Валя і схапіла Лукашыка за руку. У яе голасе чуваць быў сапраўдны страх.

Лукашык вызваліў сваю руку і моцна абняў Валю, тулячы яе да сябе. Валасы яе казыталі яму твар, ён чуў ля сваіх вуснаў узбуджанае Валіна дыханне. Раптам Валя сама абхапіла яго за шыю, і ён адчуў яе гарачыя вусны на сваім твары.

Ён асцярожна, як дзіця, узяў Валю на рукі і занёс на ложак. Яна не здымала рук з яго шыі, і ён задыхаўся ад хмельнага паху Валіных валасоў.

## II

Здараецца ж такое лета: дажджоў даўно не было, пагода ўсталявалася надоўга. З ранку да вечара сонца плавае ў чыстым блакіце, шчодра адорваючы зямлю ласкавымі промнямі. Людзі заняты, і ніхто не заўважае, што дзесьці на даляглядзе вырастае маленькая хмарка.



Неўпрыкмет сонца хаваецца за кучавыя воблакі, далёкая хмарка разрастаецца ў цёмна-шэрую хмару.

Яшчэ хвіліна — узнімаецца вецер, і густы косы дождж сыпле на зямлю. З дажджом падаюць рэдкія гарошыны граду. Ён гусцее, большае — і ўжо нічога не чуваць, апроч дробнага сухога стуку. Праз паўгадзіны зямля ўслана белым халодным покрывам. Пад ім загінулі нівы, прапала праца.

Як і для многіх, вайна для Валі была такім жа раптоўным і нечаканым з'явішчам.



Мабілізацыя... У панядзелак раніцой мужчыны ішлі ў ваенкамат. І кожнага хто-небудзь праводзіў — жонка, дзеці, бацькі.

Лявон Лукашык і Валя ішлі амаль што апошнія. Валя трымалася мужна, хоць ёй давалася гэта нялёгка. Яна не ўяўляла сабе, як пойдзе цяпер жыццё, што стане з людзьмі, з ёю, з яе мужам, з якім яна пражыла так мала.

— Надвор'е якое... — сумным голасам сказала яна.

Лукашык не азваўся.

— Чаму ты маўчыш, Лявон? — спытала Валя. — Няўжо ў цябе няма чаго мне сказаць?

Лукашык падняў галаву, паглядзеў на чыстае неба.

— Што тут гаварыць? Таго ўсё роўна не выкажаш, што на сэрцы. Ды і думкі невясёлыя...

— Не маўчы. Мне страшна... Што я буду рабіць адна? А дзе ты будзеш? Што вас усіх чакае?

— Рабі тое, што людзі. А думаць загадзя, што з намі стане, не варта... Пажывём далей — пабачым болей... Вайна не павінна доўга працягнуцца.

— Чаму ты так думаеш?

— Мне так здаецца...

На ўсходзе пачаў нарастаць гул. Хутка ў небе паказаліся самалёты. Яны плылі павольна, цяжка, здавалася, аж дрыжала паветра ад рэвуматораў. Усе моўчкі праводзілі іх вачыма.

Расстанне было цяжкае. Нешта каменем ляжала на Валіным сэрцы. Хмурны быў Лукашык, і абое яны не знаходзілі патрэбных слоў. Лукашыку парой хацелася пажартаваць: «Ну, цяпер ты ўздыхнеш без мяне» ці: «А я не вярнуся, бо ты мяне не будзеш чакаць», але ён разумеў, што гэта будзе не да месца.

А калі зачынялі цяжкую браму на двары ваенкамата і скрып іржавых завесаў узняўся над плачам матак і жанок, Лукашык нечакана для сябе крыкнуў здалёку Валі:

— Чакай мяне, я вярнуся...

Валя азірнулася, і Лукашык прыкмеціў на яе твары нешта падобнае на ўсмешку, — можа гэта знарок, каб не расплакацца? Яна памахала рукою, а ён усё стаяў і глядзеў праз шчыліну ў плоце, як яна нерашуча пайшла па вуліцы, прыпыняючыся і азіраючыся, нібы чакала, што брама яшчэ адчыніцца.

У Лукашыка зашчымела ў грудзях, слёзы затуманілі яму вочы. Пакуль ён працёр вочы і зноў зірнуў на дарогу, Валі ўжо не было. Лукашык праглынуў горкі камяк, цяжка ўздыхнуў і пайшоў да сваіх.

...Людзей раздзялілі на ўзводы, роты, батальёны, абмундзіравалі, выдалі новыя вінтоўкі. Ноччу цэлы эшалон салдат з поўнай выкладкай рушыў на захад.

Станцыі былі забіты цягнікамі, стаяў шум і мітусня. Спачатку ішло ўсё як след, калі не лічыць невялікіх замінак на станцыях.

На невялічкай станцыі ўпершыню трапілі пад абстрэл. Два нямецкія штурмавікі, пралятаючы нізка над самымі будынкамі, ударылі з буйнакаліберных кулямётаў.

Лежачы ў канаве ля насыпу чыгункі, Лукашык назіраў, як над ім са свістам і рэвам разварочваліся самалёты з вялізнымі крыжамі на крыллях, як ледзь прыкметнае на сонцы вырывалася са ствалоў кулямётаў бледнае полымя. Лукашык забываў, што там, у самалёце, сядзіць

жывы чалавек, з нервамі і сэрцам. Самалёт здаваўся яму жывой непадзельнай істотаю, якая пануе ў небе і бачыць усё, што трэба бачыць, бачыць і яго, распластанага на зямлі, перапалоханага, нікчэмнага, і цэліць толькі ў яго. Аглушаны рэвам матораў і траскатнёй кулямётаў, ён уціскаўся ў зямлю і кожную секунду чакаў смерці.

Урэшце Лукашык паспрабаваў паварушыцца, але рукі і ногі нібы адняліся. Ліпкія ад поту далоні сціскалі вінтоўку. Толькі цяпер ён успомніў аб ёй і падумаў, што можна страляць.

Ужо больш асмялелы, ён чакаў чарговага заходу, але гул матораў пачаў аддаляцца і хутка сціх. Лукашык узняў галаву, агледзеўся і паволі ўстаў. Ногі ў каленях дрыжалі.

Недалёка ад вакзала гарэў дом. Лукашык накіраваўся туды і ўбачыў там байцоў свайго ўзвода, якія тушылі пажар. З тэндара паравоза бралі ваду, два пажарныя рукавы білі струменямі бесперастанку. Людзі завіхаліся і з асцярогай пазіралі на неба. Хутка пажар патушылі.

З іх эшалона параніла некалькі чалавек. На чырвоных пульманаўскіх вагонах у многіх мясцінах былі прабоіны.

Абстрэл адбіўся на людзях па-рознаму. Адны былі вясёлыя і ўзбуджаныя: яны ж вытрымалі першае баявое хрышчэнне; другія, наадварот, спахмурнелі і сталі яшчэ больш маўклівыя: усё кепскае наперадзе і рана яшчэ радавацца.

На змярканні зноў рушылі наперад, хоць ніхто не спадзяваўся, што ўдасца многа праехаць. Ноччу спыніліся пасярод дарогі: быў пашкоджаны мост цераз невялікую рэчку. Ад людзей яны даведаліся, што нядаўна тут быў нямецкі дэсант — тры браневікі і некалькі матацыклаў, якія падаліся недзе на паўночны захад.

Быў дадзен загад выгружацца. Байцы з нецярпеннем чакалі, што будзе далей. Не прайшло і гадзіны, як яны пачалі займаць абарону паабапал чыгункі і шашы — тут гэтыя дзве магістралі сыходзіліся ўпрытык.

Лукашык трапіў у бакавы дазор, а хутчэй за ўсё ў разведку. Іх аддзяленне, узмоцненае ручным кулямётам, пад камандай сяржанта Букатава адправілася проста на поўнач, у кірунку невялікай вёскі, што значылася на карце і была кіламетраў пяць ад шашы.

Пачынала днець. Ранішні холад прабіраў да касцей, хоць ветру не было. Нячутна ступалі салдацкія чаравікі па росная траве. Хіліла на сон. Людзі ішлі і клявалі насамі. Уперадзе лёгка крочыў сяржант Букатаў. Цяпер ён углядаўся ў дарогу. Ужо даўно ён заўважыў сляды гумавых колаў. Раса была і на траве, прымятай калёсамі. Значыць, тут праехалі не пазней дванаццаці гадзін, інакш расу абабілі б.

Сяржант прыпыніў сваю групу, укленчыў, уважліва вывучаючы рубцы ад колаў.

— Здаецца, не нашы,—сам сабе сказаў ён і ўстаў, абабіўшы сыры пясок з каленяў. Пасля агледзеў усё аддзяленне і нечакана спытаў:

— Хто з вас жанаты, падыміце рукі.

Узнялося шэсць рук.

— А ў каго ёсць дзеці?

Адзін Лукашык апусціў руку. З усёй групы ў пяцярых былі дзеці.

— Добра, — нібы падвёў вынік сяржант. — Кныш і Валуеў! Слухайце...

Слухалі ўсе, але названыя Кныш і Валуеў, абодва яшчэ маладыя хлопцы, абодва высокія, толькі Кныш больш драбнейшы з твару і танчэйшы, выцягнуліся ў струнку. На іх тварах адбівалася прыхаваная трывога.

Выслухаўшы задачу, разведчыкі пайшлі дарогай. Сяржант Букатаў правёў іх цёплым позіркам і доўга глядзеў, як, пагойдваючыся, яны раставалі ў ранішнім тумане.

— Перакур! — аб'явіў пасля сяржант. — Курыць з рукава. Толькі не спаць!

Прыселі і закурылі амаль усе, прагна зацягваючыся і спяшаючыся, нібы баяліся, што хто адбярэ. Закурыў і Лукашык, хоць ён раней рэдка браў у рот папяросу. Цяпер ён хацеў супакоіцца. У галаве пачало злёгку шумець, як ад добрай чаркі. Левая рука, на якую ён апіраўся, вось-вось гатова была сагнуцца — так хацелася спаць. «А што цяпер робіць Валя?— падумалася яму.— Напэўна, спіць, або думае, што я тут ваюю. А я сяджу і больш за ўсё хачу спаць...» Лукашык пацягнуўся і гучна пазяхнуў.

— Канчай курыць! — падаў голас сяржант.

Лукашык раздушыў тоўсты недакурак аб падэшву мокрага чаравіка і падняўся на ногі.

І вось аддзяленне кранулася з месца. Глуха стукаюць чаравікі, часам бразне чаранок лапаткі, ударыўшыся аб вінтоўку. Усе маўчаць. Наперадзе, як і раней, ідзе сяржант Букатаў, за ім ледзь паспявае прысадзісты смуглявы Кідрыляеў з цяжкім ручным кулямётам на плячы. Следам, выцягнуўшыся ў лінію, крочаць, не разбіраючы дарогі, астатнія байцы.

Без ніякіх прыгод, не дачакаўшыся сігналу разведчыкаў, увайшлі яны ў вёску і спыніліся на двары крайняй хаты.

Дзверы ў сенях былі замкнёны. Пастукалі. Праз акно з хаты глянуў жаночы твар, пасля бразнула засаўка. Спалоханая бабка глядзела на салдат і маўчала, толькі варушыла вуснамі.

Сяржант спытаў у яе, ці ёсць тут немцы. Яна адказала, шапялявячы, што ўчора былі, а сёння — хто іх ведае, нешта не чуваць.

Сяржант падзякаваў. Ён ведаў, што верыць звесткам ад старой кабеты — тое самае, што ісці па кладцы з завязанымі вачыма. Таму яны спыталі яшчэ ў адной хаце пра немцаў, ды ім адказалі тое самае: былі, але паехалі далей, на поўнач, у бок мястэчка.

У канцы вёскі да іх далучыліся Кныш і Валуеў. Яны былі рады, што ўсё ідзе добра і што немцаў блізка не чуваць. Сяржант загадаў ім застацца ў вёсцы і сачыць за дарогай у мястэчка, на якой могуць з'явіцца немцы.

Узышло сонца, пачало хутка сушыць расу і прыграваць у плечы. Байцы ішлі па вузкай дарозе сярод палетка, засеянага яравою пшаніцай. Яна яшчэ была зеленаватая, але вусаты, як у ячменю, колас пачынаў ужо цяжэць. Як акінуць вокам, цягнулася роўнае рыжавата-зялёнае поле.

Лукашык сарваў некалькі каласоў, расцёр у далонях, выдзьмухаў асцюкі і мякіну, укінуў у рот маленькія зярняты. Калісьці, яшчэ хлапчуком, ён любіў забрацца дзе-небудзь у палетак, легчы ў разоры і лушчыць каласы, як сланечнік. Альбо ён клаў каласы ў кішэню ці запазуху і сачыў, як яны самі выбіваюцца наверх. Гэта яго заўсёды здзіўляла: чаму каласы ўмеюць поўзаць.

Нечакана пачуўся гул самалётаў. Сяржант скамандаваў — «Паветра!», і ўсе заляглі. Але гэта ляцелі нашы самалёты, ляцелі павольна, з натугай. Тры бамбавозы трымалі курс на паўднёвы захад. Байцы пазадзіралі галовы, праводзячы знаёмыя сілуэты цяжкіх машын. Раптоўна аднекуль зверху з-за воблака вынырнуў і пайшоў уніз белы

маленькі самалёт. Ніхто не паспеў што-небудзь падумаць, як ён пачаў пікіраваць проста на звяно бамбавозаў, пускаючы чаргу з кулямёта. Ён праляцеў уніз і не паспеў выйсці з піке, як адна наша машына нібы дала нырца, а з правага матора паваліў густы чорны дым. Хутка губляючы вышыню і крэнячыся, самалёт няўмольна набліжаўся да зямлі. Байцы чакалі, што вось-вось забялеюць купалы парашутаў, але іх не было. І не паспеў, здалося, самалёт дакрануцца да зямлі, як магутны выбух скалануў наваколле, ускінуўшы ўгару цэлае воблака дыму.

А ў гэты самы час варожы знішчальнік зноў набіраў вышыню. Са звонам і аглушальным рэвам ён свечкай пайшоў у неба, перавярнуўся на спіну і зноў рынуўся ўніз. Зноў адрывістая чарга з кулямёта, зноў — веер дыму ля хваста нашай машыны...

Трэці бамбавоз, не мяняючы курсу, ляцеў далей. Ён не думаў разгружацца, нібы не бачыў, што робіцца навакол.

Варожы самалёт гэты раз атакаваў яго з боку, але, відаць, з баявой рубкі бамбавоза сыпануў град куль. Самалёт на момант адстаў і зноў пачаў набіраць вышыню. Усё паўтаралася. Піке... Свіст і рэў... Доўгая чарга...

Бамбавоз пачаў зніжацца, але дыму над ім не было відаць. Немец кружыў яшчэ над ім і ўсё асыпаў яго градам куль.

З акамянелымі тварамі пазіралі байцы на гэты страшны паядынак. Балюча было глядзець, як машына, падаючы на крыллі і з цяжкасцю выраўноўваючыся, плануе да зямлі.

Немец робіць яшчэ адзін разварот, атакуе, дае чаргу, але кароценькую, у тры патроны. І больш стрэлаў не чуваць... А наш бамбавоз паволі выраўняўся і пачаў плаўна зніжацца. Вось ён зусім хаваецца за ляском. Міжвольна ўсе напружваюцца, чакаючы выбуху, але ўсё ціха. Толькі відаць яшчэ, як круціцца там варожы знішчальнік, цікуючы за сваёй недабітай ахвярай.

Ішлі далей, сумныя і насцярожаныя.

Умоўны сігнал тры стрэлы (два ўзапар і адзін — счакаўшы) прагучалі раптам у іх за плячыма. Усе сталі, як укапаныя, не чакаючы каманды. Сяржант Букатаў маўчаў: ён, задумаўшыся, ацэньваў абставіны. Дзве маршчыны сышліся ў яго над пераноссем, вочы на хвіліну патухлі.

Сяржант загадаў раздзяліцца на тры групы і спяшыць на выручку таварышаў.

Па пшаніцы, прыгінаючыся, байцы разамкнуліся ўлева і ўправа ад дарогі, па якой толькі што ішлі.

Не прайшлі яны і дваццаці крокаў, як там, дзе нядаўна прагучаў сігнал, усчалася страляніна. Да вінтовачных стрэлаў дамяшаліся аўтаматныя чэргі, пасля бухнула граната, за ёю — другая, засакатаў кулямёт.

Калі з-за горкі паказаліся стрэхі хат, сяржант загадаў спыніцца і выслаў у вёску Лукашыка і Чыжова.

... Байцы спачатку ідуць прыгнуўшыся, пасля паўзуць. Паўзці цяжка, нязручна: перашкаджае доўгая вінтоўка са штыком, сумка з гранатамі. Пот залівае вочы, спаўзае пілотка, і Лукашык увесь час ссоўвае яе на патыліцу; баляць калені і локці — поле ўсё ўсыпана каменнямі.

Глуха шастае пшаніца. Здаецца Лукашыку, што ён паўзе ўжо цэлую вечнасць — так здоўжылася яму. Побач чуваць, як цяжка дыхае таварыш — той не адстае, нібы хтосьці падганяе яго. Там у бядзе свае людзі, а хто ім паможа, на каго ім спадзявацца, як не на тых, што недзе



паблізу выконваюць сваю баявую задачу? Лукашык пілоткай выцірае пот, які градам коціцца ў яго па твары. У пшаніцы душна, як у мяшку.

Хаваючыся ў збожжы, па агародах і за будынкамі, Лукашык з Чыжовым прабраліся ў вёску да невялікай школы. І тут яны замерлі на месцы. На двары стаялі два пярэстыя браневікі і некалькі матацыклаў з калясками. Ля студні мыліся немцы, развесіўшы сваю вопратку і зброю. Дзверы ў школе былі адчынены, і адтуль выходзілі немцы. Вось яны, ворагі, іх лёгка можна ўзяць на мушку. Яны вельмі смела і нахабна паводзяць сябе тут, нібы прыйшлі на сваё... Вось адзін, укормлены прысадзісты немец без мундзіра, у шырокіх штанах-трубах са шлейкамі, выскачыў на ганак з вядром у руцэ і пусціўся да калодзежа. Са смехам і жартамі яму напоўнілі вядро, апырскалі з бочкі, і ён зноў пашыбаваў у школу, азіраючыся і скалячы зубы.

Лукашык з Чыжовым пераглянуліся. Вочы ў абодвух гарэлі гневам: перад імі былі тыя, хто, можа, нядаўна забіў Кныша і Валуева.

— Назад...— шапнуў Лукашык, і яны зноў, хаваючыся, падаліся да сваіх.

Байцы зашумелі, калі даведаліся, што ў вёсцы фашысты. Усе яшчэ ні разу не бачылі іх, і кожнаму хацелася памерацца з імі сілаю. Але сяржант, відаць, быў другой думкі. Яму і самому карцела нечаканым ударам разбіць гэты, хутчэй за ўсё, дэсант, які не падазрае, што паблізу ад яго прытаіліся савецкія байцы. Крыўдна толькі, што яны так хутка памяняліся ролямі: немцы адчуваюць сябе, як дома, а яны вось вымушаны хавацца ў пшаніцы. Сяржант Букатаў толькі сціснуў зубы ад злосці.

Асноўная перашкода — загад: выявіць праціўніка, устанавіць яго сілы, па магчымасці выведаць яго намер і паведаміць батальёну. Цяпер нічога не заставалася рабіць, як прабірацца назад. Таму сяржант Букатаў загадаў байцам збірацца ў дарогу.

— А як жа Кныш і Валуеў? — з дрыготкай у голасе спытаўся ў сяржанта Лукашык і глянуў яму ў вочы. — Прапалі без вестак?

— Не твая справа, — рэзка абарваў яго сяржант і адвёў вочы. — За іх я буду адказваць.

— Перад кім?

— Перад камандзірам, вядома... Ты што, Лукашык, лезеш не ў сваё? Нібы не я камандзір аддзялення, а ты.

— Не ў сваё? Пабачым... А перад намі хто будзе адказваць? — Лукашык абвёў вачыма байцоў.

— Ты што, жартуеш? — сяржант Букатаў пабялеў. — Не разма́ўляць! А не, я пагавару з табой інача́й...

— Не страш...— Лукашык стрымаўся, каб не сказаць што-небудзь рэзкае. — Я хачу, каб ты загадаў напасці на гэты дэсант і разбіць яго.

— О, капітан! Ваш загад будзе выкананы! — Сяржант узняў руку да пілоткі. — Толькі калі мы далучым да майго аддзялення ваш батальён.

— Твой жарт недарэчы. Там прапалі два нашы таварышы. За іх трэба адпомсціць, — настойваў Лукашык.

— Я зноў паўтараю, — строга сказаў сяржант, — што гэта не твая справа. Ясна?.. Усе гатовы? Шагам марш!

— Гэта несумленна!— закрычаў раптам Лукашык.— Ты баязлівец!

— Што? Якое ты маеш права?..— Сяржант схапіўся за вінтоўку.

Лукашыка нібы хто штурхнуў. Ён падхапіўся з зямлі, ляпнуў затворам.

Але байцы кінуліся да сяржанта і Лукашыка. Раптам з боку вёскі кулямёт паслаў доўгую чаргу. Кулі праляцелі зусім блізка, і ўсе адразу

момант і ўцячы. Мякка, як кот, ён спусціўся ў агародчык пад акном, пасля пераскочыў цераз невысокую агарожу і, прыгінаючыся, кінуўся за хату.

«Выжыць... — думаў ён. — Толькі б выжыць...»

Бяссмертны ўсё ведаў пра Валю ў той самы вечар, калі яна не вярнулася з задання: з горада прыйшоў сувязны. І Бяссмертны адразу ж папрасіў у камандзіра атрада дазволу ліквідаваць нямецкага паслугача.

Аднак, параіўшыся з камісарам, камандзір не згадзіўся задаволіць просьбу Бяссмертнага.

Праўда, пакідаючы даносчыка на волі, яны ішлі на рызыку, бо той мог знікнуць. Але магло быць і так, што першыя дні пасля таго, як Валя стала ахвярай яго даносу, Лукашык будзе хавацца, пакуль усё не ўляжацца.

Можна было яшчэ дапусціць, што ён, наогул, застанецца ў баку, палічыўшы, што пра яго данос ніхто, акрамя немцаў, не будзе ведаць.

Бяссмертны чакаў пяць дзён, і яны здаліся яму пяццю гадамі. Ён не мог дараваць сабе, што паўгода назад не паставіў да сценкі дэзерціра Лукашыка, які вось цяпер адняў у Бяссмертнага самае дарагое — Валю.

Самую лютую смерць рыхтаваў ён Лукашыку — таму самаму Лукашыку, які паўгода назад выклікаў быў у яго сэрцы спагаду тым, што не прасіўся, не поўзаў на каленях перад імі, а гаварыў, як роўны з роўнымі, хоць у іх руках была зброя. У ім тады яшчэ было нешта жывое... Так тады думаў і сам камісар, гэты багаты жыццёвым вопытам чалавек, які ўмеў разбірацца ў людзях.

Балюча перажываць, калі не спраўдзіліся надзеі; цяжка прызнацца сабе, што ты памыліўся, а яшчэ пакутлівей, калі ведаеш, што памылкі нельга паправіць, і будзе яна, як дамоклаў меч, вісець над табою да самага скону...

Ужо ў вёсцы пракрычалі другія пеўні, калі Бяссмертны з чатырма партызанамі апынуўся ў мясцінах, дзе ён быў паўгода назад марознай асенняй ноччу з камісарам. Тады Лукашык для Бяссмертнага быў чужы і незнаёмы чалавек.

Цяпер Бяссмертны ведаў Лукашыка, бачыў яго нікчэмную душу. Гэта здраднік, пігмей, які за асабістую абразу гатовы знішчыць увесь свет, за сваё няшчасце зрабіць няшчаснымі ўсіх людзей.

Вось і тая прысадзістая хата з краю сяла. Бяссмертны пазнаў яе па агародчыку перад вокнамі і студні за хатай на самай вуліцы. Яны падышлі так ціха, што не азваўся ні адзін сабака. Ці мо іх цяпер зусім не было ў вёсцы?

Хата спала, прыпаўшы да зямлі. Бяссмертны падышоў да дзвярэй, пастукаў, прыслухаўся. Ніхто не збіраўся адчыняць. Пачакаўшы колькі хвілін, ён пастукаў яшчэ.

І ў гэты час Школьнік, які быў бліжэй да вокан ад гароду, згледзеў, як мільганула нешта белае ў агародчыку і сіганула за плот у кусты бэзу. Школьнік крыкнуў і кінуўся за хату, а за ім астатнія.

— Хлопцы, не страляць, я сам! — задыхаючыся ад хвалявання, на хаду крыкнуў Бяссмертны.

Ён на хвіліну спыніўся, навёў аўтамат на белую пляму, што аддалялася ад іх. Бахнуў адзінокі стрэл. Белая пляма на момант знікла.

Бяссмертны прыпаў на калена. Рукі дрыжалі, сэрца грукала ў грудзях.



Дзе ж тая белая пляма? Вось! Бяссмертны зноў націснуў на спуск. Ірванула аўтамат, на момант асляпіла...

Бяссмертны ўскочыў на ногі і зноў кінуўся бегчы.

Пасля, спатыкнуўшыся, спыніўся, — убачыў ля ног чалавека ў белым, які ляжаў на чорнай раллі. Ляжаў нерухома, толькі рукі ў смяртэльнай сутарзе разграбалі пальцамі зляжалую за зіму зямлю.

Бяссмертны нагнуўся і перавярнуў яго дагары тварам. На белай кашулі на грудзях цямнела вялізная пляма.

— Пасвяціце...— глуха сказаў ён.

Школьнік дастаў ліхтарык. Яркі пук святла прапоўз ад ног да галавы забітага і спыніўся на твары.

Бяссмертны нагнуўся над ім, углядаючыся ў твар, і адхіснуўся назад. Аскалены ў жахлівай грымасе рот забітага быў повен зямлі, перамешанай з крывёю.

Усе маўчалі. Пасля Бяссмертны павярнуўся і ціха пакрочыў у цёмную пашчу ночы, несучы ў сэрцы нейкую незадаволенасць ад такой хуткай развязкі. Час выпрабаванняў для яго яшчэ не скончыўся. Трэба было запасацца новымі сіламі...

За імі ішоў Школьнік і партызаны.

А Лукашык ляжаў і пазіраў у далёкае неба застылымі вачыма, нібы тужыўся нешта ўспомніць, ды так і не мог.





**Юрась СВІРКА**

# КІНО Ў ЗАЕЛЬНІКУ

Кіно ў Заельніку не часта,
Кіно ў Заельніку па частках:
Ірвецца плёнка —
Хоць ты плач.
Крычаць на «кіншчыка»:
— Партач!
Прывыклі людзі тут даўно
Глядзець ваеннае кіно.
Глядзяць...
Баец смяртэльна ранен —
Ірвуцца людзі да экрана,
Каб падабраць свайго байца,
І грознай моваю свінца
Сказаць чужынцам,
Што ніхто
Не сыдзе
Са сваіх пастоў...
Дамоў разыдуцца пад раніцу,
Ідуць —
Спрачаюцца і раяцца.
А ўжо зара
Праз вокны сочыцца.
Ідуць
Даяркі, і уочтчыцы,
І трактарысты, і цялятніцы...
Пайшлі —



І дзень на ўсходзе ясніцца.
Пайшлі,
Як армія адборная —
Калгаснай вытрымкі касцяк.
Пайшлі яны —
Жыцця дазорныя
І заваёўнікі жыцця.

# ЗЯМЛІ ЗДАВАЛАСЯ...

1

Зямлі здавалася,
Што спозніцца
Адзенне чорнае змяніць.
І захацелася, як модніцы,
У белай футры пафранціць.

Начамі думалася вокрадкам,
Як лепш ёй сонцу дагадзіць,
І як яно ацэніць вопратку,
Калі на футру паглядзіць.

Зямля, як перад святам, рупіцца:
Пабеліць футру зноў і зноў...
І перад сонцам доўга круціцца,
Каб бачнай быць з усіх бакоў.

А сонца хітра усміхаецца,
Ніжэй схіляецца над ёй:
— Абноўка мне не падабаецца:
Не той фасон,
Не новы крой...

І футра кінута ў абочыну,
Тут да вясны ёй спачываць.
Спяцоўку новую,
Рабочую,
Зямля ўзялася апранаць.

2

Зямля прагнала трактары,
Каб не гудзелі ёй над вухам.
Яна не хоча нават слухаць,
Аб чым з ёй шэпчуцца вятры.

Яна баіцца варухнуцца,
І думае перад зарой:
Ці паляжаць спакойна ёй,
Ці на другі бок павярнуцца.

Але сагрэўшыся, адчула:
Пад сонцам нешта ўжо расце.

Яна паправіла пасцель
І неяк лёгка уздыхнула.

І я пакіну цёплы ложак,
Да рання не прыйду у дом,
Каб папярэдзіць першы гром,
Хай сон зямлі ён не трывожыць.

## БЯГОМЛЬ

Скасавалі мой лясны раён.
Я ж кажу —
Яго не скасавалі:
Покуль лес расце —
Жыць будзе ён,
Покуль сосны на падрубы валяць.

Можа б апраўдання не знайшоў,
Што раён мой родны скасаваны,
Каб яго не аднавілі зноў
З цёплых папялішчаў
партызаны...

Каб суседзі помнілі яго,
Каб пакінуць добрыя ўспаміны —
Лепелю адрэзаў ён лугоў
І бароў Барысаву прыкінуў.

А тады на захад падышоў
І,— хаця кавалак тут не лішні, —
Докшыцам адмераў саснякоў,
Каб ад ветру ў іх было зацішна.

Не мінуў ён баравых палян,
Падлічыў усе і пераглядзеў...
Знаў бы: дзеляць славу партызан —
Раздаваў бы і яе суседзям.

## ПРА СЯБЕ

Мяне жыццё
Не гладзіла, не песціла
І не вяло, узяўшы за руку.
Усе дарогі мне яно намеціла
І ведала —
Ад іх я не ўцяку.



Маленства
Першай іскраю з-пад крэсіва
Успыхнула
І больш — як не было.
Вайна усе забавы перакрэсліла,
Спаліла і маленства і сяло.

Зямля была асколкамі пакола̀та,
Вайна мне уяўляецца і ў сне.
І тыфам,
І блакадаю,
І голадам
Яна страляла пяць гадоў па мне.

Я латанага й зрэбнага панашваў —
Запомніцца на доўгія гады.
Да восені
На лузе я выкашваў
Балючыя блакадныя сляды.

Мяне вайна і сёння не пакінула:
Знайшла у лёгкіх шчылінку адну...
Тады скажу я, што вайна загінула,
Калі грудзьмі здаровымі ўздыхну.

## САННАЯ ДАРОГА

Кусты ядлоўцу вечарамі,
Калі спяваюць палазы,
Сваімі кволымі рукамі
Скубуць спадыспаду вазы.

І сена сцелюць ля абочын,
Так,
Каб здалёк было відаць:
Сюды прыходзяць зайцы ўночы
Атаву мяккую шукаць.

А месяц,
Як ліхтар двухрогі,
Глядзець на досвітку пайшоў,
Як корміць санная дарога
Лясных пужлівых жыхароў...

* * *

Многа ты мне крыўднага сказала,
Ты — мая любоў, мая бяда.
Мусіць, сувязь недзе перарвала:
Голас твой прапаў у правадах.

Зноў на сэрцы горыч і пакута,
Гэта, мусіць, у апошні раз...
Як я рад,
Што ў гэтую мінуту
Сотні вуліц раздзяляюць нас.

Я выходжу з тэлефоннай будкі,
Бо размова скончана мая.
І шыпіць прывязаная трубка —
Чорная грымучая змяя.

## ВЕЦЕР ЖАЛЬБУ ПАЧУЎ...

Бор нібыта застыў
І сумуе без ветру.
Разамлелі ігліцы —
Будуць трэскацца пні.
Бор, напоўнены мяккім
Смалістым паветрам.
Не шуміць,
Не пяе,
Не звініць...

Хлопцы кінулі ў цень
Рукзакі і сарочкі,
І ўпіваюцца ў сосны
Стальныя разцы.
На ствалах засталіся
Рубцы ад падсочкі.
Знаю: соснам нядоўга
Шумець і расці.

Уздрыгнуліся сосны,
І трасуцца ігліцы.
(А яны ж не чакалі,
Што сталь іх кране.)
Лейкі цягнуць з-пад лубу
Густую жывіцу.
І, здаецца, ствалы
Пачынаюць танець.

Жальбу сосен пачуў
Вецер нават здалёку,
Прыляцеў і заенчыў
У лесе старым:
Дзе ж ён будзе хавацца
Ад дажджоў і ад спёкі,
З кім параіцца ён
На пяску баравым!



Анатоль САБАЛЕЎСКІ

# ЛІСТ ДА МАЦІ

### Апавяданне

Мал. У. Рамейкі.

Дарагая мая мама.

Раней я вам толькі тое і пісаў, што жыў-здароў. Усё не ставала неяк часу, ды, па-праўдзе кажучы, не надта ведаў, што вам і напісаць. Цяпер адзін сяджу ў пакоі і думаю, думаю... Прыціхае вулічны гул — яго амаль ужо і нячутна, хіба час ад часу ўводдалі празвініць трамвай. У шматпавярховым доме, што цераз вуліцу якраз насупраць майго акна, толькі дзе-нідзе гараць яшчэ агні... Позна. А мне ўсё не спіцца і, мусіць, цяжка будзе сёння заснуць. І я першы раз у жыцці парашыў пісаць вам доўга і многа...

Сёння, гартаючы старыя паперы, я знайшоў даўнюю сваю фатаграфію. Яна якраз яшчэ з тых часоў, калі ўпершыню абуджалася мая свядомасць, і памяць стала збіраць для сябе ўсё, нават самыя дробязі.

Як цяпер, бачу таго каранастага і трохі паўнаватага для сваіх гадоў фатографа, які прыехаў здымаць на пяцімінуткі жыхароў нашай вёскі. Гаварылі, што людзям, якія жылі пры граніцы, меліся абменьваць пашпарты, і ім пільна патрэбны былі карткі. Усе пасыходзіліся ў адно месца, і фатограф, не спяшаючыся, па чарзе саджаў кожнага на зэдлік, загадваў сядзець спакойна і, накрыўшы чорнай посцілкай галаву, поркаўся ў сваім апараце.



Калі, нарэшце, сфатаграфаваліся ўсе дарослыя, вы папрасілі таго каранастага чалавека зняць на картачку і мяне. Ён пасадзіў мяне на зэдлік і доўга прымушаў сядзець спакойна і глядзець толькі ў апарат. Мне, урэшце, надакучыла ўсё гэта, і я закапрызнічаў.

Такі я і выйшаў на першай фатаграфіі, і яна, усё роўна як і мой тады настрой, была цёмнай і змрочнай. Але нехта пасля насмяшыў мяне, паказаў два пальцы, і я тут жа развесяліўся. Напрактыкаваны фатограф, мабыць, толькі чакаў гэтага моманту — адразу пстрыкнуў апаратам.

Першая фатаграфія не ўцалела, недзе згубілася. Мабыць, так і трэба было.

Затое застаўся другі здымак... На ім я нейкі асабліва светлы, з крышку раскрытым ад дзіцячай цікаўнасці ротам. І нават пры гальштуку, які яшчэ доўга насіў я пасля ў маладосці.

Паглядзеў сёння на гэты здымак, і павеяла на мяне з тых далёкіх часоў нечым блізкім і дарагім.

Цяпер многа што перамянілася. Там, дзе раслі густыя каноплі, у якія некалі любіў я хавацца, пабудавалі новыя дамы мае аднагодкі. І сцежак тых, па якіх я часта бегаў на луг і на рэчку, не засталося. Людзі не заўсёды хочуць хадзіць старымі сцежкамі. Ды толькі нічога з таго не забылася. Нават у сне разам з новым маім побытам, разам з новымі знаёмымі і сябрамі не-не, ды і мільгне маё радаснае маленства. Яно ўплятаецца ў сон, як уплятаюцца ў вянкі розныя кветкі.

Светлыя, бестурботныя гады маленства! Не будзе больш вас... На адно магу толькі яшчэ спадзявацца. Можа, праз колькі часу сын мой будзе вось такі, якім я застаўся на фота, і тады ён мне паможа яшчэ раз перажыць радасныя, непаўторныя хвіліны... Тады, можа, і я, гледзячы на яго, гэтак жа проста і адкрыта, як некалі, буду радавацца сонцу, вясне, кветкам.

Даўняя, далёкая мая фатаграфія! Яна ўзрушыла сёння ўсяго мяне, і патрывожаная памяць чапляецца і чапляецца за перажытае.

Памятаю, у тыя дні я ладзіў невялікую каляску. А вы, шчаслівая, жартам гаварылі суседкам:

— От і добра, што будзе загадзя гатовая, не трэба будзе клапаціцца пасля.

Я добра запомніў, мама, гэтыя вашыя словы, хоць сэнсу тады яшчэ і не ведаў. Ды дзе мне было ў той час ведаць, што праз колькі часу ў хаце паявіцца мой меншы брат.

Дзівоснае, радаснае жыццё — маленства!

Хіба вы ці хто-небудзь з нас быў вінаваты, што яно так скора і так неспадзеўна абарвалася. Свет скаланула вайна. Пажары засцілі сонца, і ў гэтым пекле ўжо не было чуваць птушыных спеваў.





Каляска так і засталася валяцца недамайстраванай.

За дарогай, што выцягнула сваю доўгую натруджаную спіну за нашай вёскай, расло жыта. Яно нядаўна адкрасавала, і пачалі налівацца каласы. Лёгкія павевы ветру, асабліва надвячоркам, неслі ў наш двор і хату прыемны, свежы пах зялёнага жыта. Пасля з'явіліся немцы, і ўжо не стала жытнёвага паху. З дарогі патыхала на нас потам — немцы спяшаліся на Маскву. Ім было ўжо мала адной нашай дарогі, яны таптaлі жыта.

Па другі бок вёскі пачынаўся хмызняк, а далей за ім — балоты і лясы. Тудою адступалі нашы. Кожную ноч над намі са свістам пранасіліся снарады. А нярэдка пачыналіся блізкія баі, кулі, здаралася, білі вокны ў нашай хаце. Мы падалі на падлогу, і вы ўкрывалі мяне мяккай падушкай і гаварылі, што куля можа не прабіць яе, засесці ў пуху.

Бяда ішла за бядою. Ведаю, як пакутаваў у першыя дні вайны бацька, што ў яго слабы зрок і яго не ўзялі ў армію. А потым ён хадзіў паказваць нашым салдатам найбольш зручныя мясціны, каб салдаты не заселі ў балоце ці знячэўку не натрапілі на немцаў.

Калі бацька аднойчы вяртаўся дадому і падышоў ужо амаль пад самы склеп, дзе хаваўся я з вамі, немцы сустрэлі яго чаргой з аўтамата. Так і паваліўся бацька на зялёную мураву. Ён яшчэ жыў, змагаўся са смерцю. Можа, калі б была якая дапамога... А куды кінуцца шукаць яе, калі ўсюды, дзе ні паткніся, фашысты? І, помніце, мама, мы пайшлі да іх, на гасцінец, пайшлі прасіць доктара.

Мусіць, і сярод немцаў былі людзі, бо некаторыя нават спачувалі нашаму гору. Але нічым яны не памаглі. Помніце, мама, як нейкі іхні начальнік штурхануў вас ботам... Як мне хацелася тады адпомсціць за вас, перагрызці гэтаму вылюдку горла. Але што я мог тады зрабіць, калі бацьку вельмі патрэбна была дапамога і калі ў таго немца былі такія цяжкія і такія вялікія боты?

І толькі прыдарожныя белыя каліны аплаквалі сваімі чыстымі пялёсткамі смерць бацькі і маё занадта ранняе сіроцтва.

Потым згарэў і наш дом. Мы перабраліся ў чужы, хоць жыць і ў ім давялося мала. Неўзабаве ўсе туляліся па скляпах. Ведаю, што вам ужо не страшная была вайна, адно вам хацелася зберагчы маё жыццё.

Пазней, калі немцы адышлі некуды далей і калі можна ўжо было хадзіць не крадком, вы пайшлі ў мястэчка. Нейкім чынам данеслася ў вёску, што ў мястэчку фашысты трымаюць многа нашых палонных і што тых, каго мясцовыя людзі прызнаюць за сваіх, яны адпускаюць на волю. І вы, папрасіўшы суседзяў пaглядзець мяне, выправіліся за пятнаццаць вёрст у мястэчка. Там спачатку аднаго прызналі за свайго мужа, дабіліся яго вызвалення, а пасля такім чынам і другога. Вы хацелі вызваліць ну хоць бы яшчэ са двух чалавек, але ў нямецкай камендатуры вас прыкмецілі.

У мястэчку жыла адна знаёмая жанчына, і вы кінуліся да яе пазычыць на час капоты і хусткі, каб, хоць трохі змяніўшы выгляд, зноў ісці ў камендатуру. А яна не дала вам вопраткі, пабаялася.

Вы і назаўтра хадзілі ў тое мястэчка, але ўжо было позна — яшчэ на досвітку палонных вывезлі некуды ў Нямеччыну.

Пазней немцы забілі мужа гэтай жанчыны толькі за тое, што ён яўрэй. Яна і сама таксама спазнала нямала гора.

А тыя два незнаёмыя вам мужчыны засталіся на волі. Яны пайшлі ў партызаны. Наведваліся пасля і да нас, як свае, блізкія.

Вы ж тым часам былі ўжо заняты новымі клопатамі. Трэба было неяк жыць. Вы пачалі будаваць зямлянку. Патроху памаглі вам добрыя людзі. Рабілі вы і самі — трэба было спяшацца. Недзе яшчэ днём, памятаю, вы разам з іншымі падцягвалі бервянцо, а пад вечар ужо нарадзілі мне маленькага браціка Колю.

Як я іншы раз зайздросціў, што ён быў такі малы і нічагусенькі яшчэ не разумеў, не ведаў, што людзі кладуцца спаць і прачынаюцца ў вялікай трывозе, што па свеце ідзе крывавая вайна.

Але хутка вайна ўварвалася і ў яго зусім бязвіннае жыццё... Як і ўсе людзі, вы, мама, і недаядалі, і недасыпалі, бо і яду і сон у вас адбірала вайна. Адбірала яна і здароўе... Колю хутка вам не было чым карміць. Ён усё часцей і даўжэй стаў хварэць, і хто мог тады прыдумаць, як лепш зберагчы яго жыццё.

Пэўна, вы надта перапалохаліся, калі аднойчы немцы наляцелі на нашу вёску. Яны хацелі напасці на сляды партызан. А хто гэта будзе іх паказваць? І тады фашысты пачалі сваё... Вас яны прыставілі да сцяны. Вы трымалі на руках Колю і хацелі глядзець толькі яму ў твар. Але ж на вас былі настаўлены вінтоўкі...

З таго часу ў Колі пачаліся канвульсіі. Яго трэба было ратаваць. Мы ўсё пакінулі і выправіліся ў свет шукаць ратунку. Вы неслі Колю на сваіх руках, я ішоў побач. І гэтак доўга-доўга. Мы абышлі многія вёскі, але апроч шаптух, нічога тады не маглі знайсці. Да фашыстаў прасіць помачы болей не пайшлі, бо добра ведалі, што не ў іх нам шукаць яе.



Коля ў дарозе два разы абміраў, і я калаціў яго, я не хацеў, каб ён пакідаў нас. Жыццё ягонае трымалася на валаску. Коля ўжо нават перастаў плакаць, ён толькі дыхаў. А мы ж так хацелі яго выхадзіць...

Нарэшце, мы вярнуліся дадому. Я нават помню, як мне тады страшэнна хацелася спаць.

Прахапіўся я на досвітку ў трывозе. Усюды было яшчэ ціха-ціха, і гэтак жа ціха назаўсёды адыходзіў ад нас Коля, наш маленькі Коля. Па старому звычаю ў хаце гарэла свечка; раз-поразу чулася яе патрэскванне.

Коля памёр, а свечка ўсё гарэла, усё яшчэ разлівалася яе дрыготкае халоднае святло. Калі ж на ўсходзе на ўсё неба запалала ружовая зара, свечка пагасла. Пачынаўся новы дзень. Ён браўся быць пагодлівы, цёплы.

І праўда, у той дзень неба было глыбокае і сіняе-сіняе, без ніводнага воблачка. Але слёзы мне засцілі вочы...

Пад вечар побач з магілай бацькі, якая пачала пакрывацца травою і скочкамі, вырасла з жоўтага жвіру новая — магілка майго брата. Я прыпаў да яе і нікуды не хацеў ісці.

Тады мне ўжо хацелася быць не з вамі, а з Колем. Вы, як маглі, суцяшалі мяне. Вы плакалі толькі па начах, калі ні я і ніхто іншы не чуў і не бачыў. Мусіць, адны заўчасныя маршчыны на твары ды без пары пасівелыя валасы маглі гаварыць пра ваша вялікае гора...

Нам абавязкова трэба жыць... Гэта вы, мама, не аднойчы гаварылі мне такія словы. Я помню, добра помню іх і цяпер. І, мабыць, заўсёды буду помніць, якія б ні напаткалі мяне цяжкасці. Вы мяне навучылі гэтаму сваім жыццём.

Я ведаю, што рукі ў вас апускаліся самі, што цяжка было вам



узяцца за якую работу. А вы маглі перадужаць самае цяжкае гора і зноў узяліся за работу.

Людзям не ставала хлеба, здаралася, нават дзецям не было чаго даць. А вы заўсёды ўмелі знаходзіць мне кавалак хлеба. На папарышчы рана выспявала грэчка-самасейка. Яе вы рвалі, за ноч падсушвалі на печы, а раніцай, абабіўшы зярняты, малолі іх у жорнах і пяклі praснакі. Пазней спела жыта...

Вам прыходзілася працаваць ад цямна да цямна. Якой толькі работы вы не рабілі — аралі, баранавалі, сеялі, касілі, жалі, малацілі. Трэба было гадаваць мяне і памагаць харчамі партызанам. Трэба было жыць.

Аб адным я цяпер шкадую. У тыя гады не навучыўся быць з вамі ласкавы і пяшчотны. Жыццё вучыла зацятасці, чэрствасці, дзе ўжо тут было да ласкі і пяшчоты. А потым трохі пасталеў, і неяк нават пачаў саромецца гэтага... Цяпер, калі надоўга развітваюся, я падаю вам толькі руку і не цалую вашу, ад працы маршчыністую і натруджаную. А яе я павінен цалаваць.

Вайна вельмі рана прыгнула мяне да работы. Я хоць чым-небудзь хацеў памагчы вам, і вы навучылі мяне араць, касіць, сеяць...

Калі я цяпер прыязджаю ў вёску, нярэдка бачу, як дзеці гуляюць у розныя гульні. Свайму трохгадоваму стрыечнаму пляменніку я нядаўна купіў машыну. Ён любіць гуляць з машынамі, кажа, што, як вырасце, стане шафёрам. А маё маленства ў тыя пякельныя дні вайны зусім было забылася, што ёсць на свеце мірныя гульні і што можна спакойна ў іх гуляць...

Маё дзяцінства прызвычаілася зусім да іншага, жудаснага і страшнага...

У Мінску, а гэта недалёка ад нас, людзі хацелі набраць з ракі вады, а калі праламалі лёд, то ўбачылі, што вада была чырвоная ад чалавечай крыві...

У адной вёсцы немцы засталі партызан, і за гэта ўсіх мужчын і дзяцей сагналі ў адну хату, расстралялі і пасля падпалілі будыніну... Колькі жахлівых навін амаль кожны дзень прыходзіла ў вёску!

Не раз над нашымі галовамі праляталі кулі, і мы нават прывыклі да іх. Нас ужо трывожыла цішыня, ад якой мы пачалі адвыкаць.

Дзе ўжо мне і такім жа, як я, хлапчукам было ведаць, што ёсць на свеце для нашага ўзросту шмат гульняў. Мы гулялі ў вайну,— мабыць, тыя гады ведалі толькі адну гэтую гульню. І самым вялікім нашым жаданнем было адолець і выгнаць немцаў.

Маленства і маладосць скарэй загойваюць свае раны. Вам жа, мама, многа трудней, чым мне. Прайшло вось ужо каля дваццаці год, а вы ўсё яшчэ і цяпер баіцёся голасна смяяцца.

Ведаю, што непакоіцеся не за сябе. Вы баіцёся, што калі-небудзь зноў можа здарыцца нешта страшнае, мяне забяруць на вайну, а майго малога сына можа напаткаць такі ж лёс, які некалі напаткаў і мяне.

Не бойцеся, мама. Я прыпамінаю ўсё гэта пережытае зусім не для таго, каб лішні раз патрывожыць ваша сэрца. Мы ўсе многае тады перанеслі і перацярпелі. І ўсё гэта добра помнім і не дазволім нікому паўтарыць зноў старое.

Вось толькі я часта сумую, што далёка ад дому, і вы жывяцё не пры мне. А вы ж усё-ўсё аддавалі і аддаяце мне. Помню, як пад канец вайны да вас сватаўся нейкі ўдавец. Я зашыўся на печ, у самы кут, увесь сцяўся і доўга сядзеў, не зварухнуўшыся. Мне было так балюча, так балюча... Не ведаю, як бы я абыходзіўся з тым чалавекам, калі б ён прыйшоў жыць да нас, як глядзеў бы вам пасля таго ў вочы.



І вы адмовілі таму чалавеку, вы ведалі, што дзіцячае сэрца не хоча нікога чужога.

Так і засталіся вы назаўсёды адна. Хацелі аддаваць сваё жыццё толькі сыну — мне. А я не заўсёды цаніў гэта, я іншы раз проста забываўся.

Аднойчы я паехаў у горад, каб сёе-тое прадаць і купіць сабе новыя чаравікі. Але калі я з грашыма выходзіў з базара, ля агарожы ўбачыў дзядзькоў, якія гулялі ў карты. Адзін з іх усім прайграваў. Другія дзядзькі падвучылі і мяне, каб я таксама паспытаў шчасця. Нічыіх грошай я не выйграў, але прайграў свае.

Я вярнуўся дадому з пустымі рукамі. Вам жа сказаў, што я купіў чаравікі, а як садзіўся ў поезд, нехта выцягнуў у мяне. Пабаяўся ва ўсім прызнацца і схлусіў. Ведаю, што вы ўсё роўна на мяне не сварыліся б і не ўпікалі б, толькі было б вам больш крыўдна і цяжка.

Назаўтра мне трэба было ісці ў школу і, управіўшыся з хатняй работай і паклаўшы мяне спаць, вы заселі латаць і падшываць старыя чаравікі. А пасля на світанні зноў уставалі, каб прыгатаваць мне што з сабой — школа была далёка і вы ніколі не выпраўлялі мяне з дому, не паклаўшы чаго-небудзь у кішэню.

Тады я хоць часцей бываў разам з вамі. А потым паступіў вучыцца ў горад, і вы заставаліся зусім адны. Шкада было праводзіць мяне надоўга з дому, але вам вельмі хацелася вывесці мяне ў людзі. І яшчэ гаварылі вы:

— Кожнай матцы шкада выпраўляць у свет дзіця, але што зробіш. Яно ж патрэбна не толькі ёй адной.

Па вечарах, калі па дварах хадзіў паштальён, вы заўсёды чакалі ад мяне весткі. Вы ведалі, што ў мяне мала часу, і, выпраўляючы ў дарогу, заўсёды прасілі аб адным і тым жа:

— Ты мне, сынок, многа не пішы. Ты толькі дай знаць, што жыў-здароў, і мне будзе лягчэй на сэрцы.

А я іншы раз нават забываўся пра гэта: я ж жыў у вялікім горадзе, і там у мяне знайшлося шмат сяброў.

Нялёгка вам было і ў тыя часы.

На вашых руках аставалася ўся дамашняя гаспадарка. Працаваць прыходзілася нямала — дагледзець скаціну, агарод і рабіць у калгасе.

Пра сябе вы мала дбалі, але трэба было адзець і пракарміць мяне. Пазней ужо прызналіся мне, што гаварылі вам тады на вёсцы людзі:

— От вы, Баршчэўская, задумалі свайго сынка зрабіць вучоным. Але дзе ж вы выстранчыце, у адной трохі сіл малавата...

Нічога вы не гаварылі ў адказ, хіба што паціху самі сабе ўсміхаліся. Толькі вы адны тады ведалі, дзе знайсці сродкі і сілы, каб вывесці мяне ў людзі.

Мабыць, забыўся пра гэта я толькі тады, калі скончыў сваю вучобу і паступіў на работу. Выходзіць, што я яшчэ тады разумеў! Мне думалася: жыццё стане іншае, вясёлае і зусім бестурботнае. Я стаў зусім рэдка бываць дома. А калі і прыязджаў, то з вялікім гонарам, на машыне. Яна была не мая, я браў з сабой у госці за гэта цэлую кампанію сваіх знаёмых. Вы рады былі і ім і, як маглі, частавалі, бо разам з кампаніяй прыязджаў і я. Вы ані не крыўдзіліся на мяне, наадварот,



радаваліся, што жыву я весела. І нічога ад мяне не хацелі, нават гаварылі, што і цяпер будзеце старацца, каб яшчэ і мне памагаць. Толькі адзін раз, калі я ўжо збіраўся ад'язджаць, крыху патаптаўшыся ў парозе, нясмела і неяк сарамліва сказалі:



— Можа і дадому калі прышлеш колькі рублёў. Мне ад людзей будзе прыгажэй.

Па вёсцы балбатлівыя бабы тады разносілі:

— Глядзіце, Баршчэўская вучыла-вучыла Васіля, а якая карысць? Мы са сваімі невучонымі сынамі яшчэ і лепш жывём, чым яна.

А калі я прывозіў ці перасылаў дадому гасцінцы, вы раздавалі іх дзецям. Вы ж ведаеце, што дзеці любяць гасцінцы.

Помню яшчэ, колькі было ў вас клопату і неспакою — і ўсё з-за мяне. Вы так хацелі, каб у мяне ўсё ішло добра і каб быў я толькі шчаслівы... Я захапіўся адной прыгожай артысткай... Вы нічога не хацелі казаць мне насуперак, толькі неяк паскардзіліся суседкам:

— А жонка будзе у майго сына... Артыстка... Ці захоча яна нарадзіць мне ўнука?

Я здагадваўся, што вы не адабраеце мой выбар, і нічога не мог зрабіць з сабою. Мы і не размаўлялі шмат пра гэта. Усё роўна, як саромеліся адзін другога. Пра ўсё даносілі людзі: у вёсках жа любяць абгаворваць усялякія навіны.

Не ведаю, што б я рабіў далей, каб вы аднойчы не сказалі мне:

— У суседняй вёсцы гасціў нейкі чалавек. Жонка ў яго не абы-хто — артыстка. Яна ўсім спадабалася. Людзі кажуць, што гэта вялікі гонар для мужа.

Так, здаецца, вы і далі мне сваё мацярынскае блаславенне.

Маладосць мая ўжо адшумела сваімі юначымі парывамі, часам бестурботнымі і бяздумнымі. Цяпер па начах салаўі спяваюць для іншых. У мяне спіць сын. Я ўжо не маю права на лёгкадумныя ўчынкі, прайшла пара. Час пра многае добра падумаць.

Некалі я быў у вас, цяпер трэба ведаць, што і вы ў мяне ёсць.

Аднойчы я наважыўся зрабіць вам палёгку.

Гэта было летам. Не ўсё было згрэбена і высушана на лузе сена. Кукуруза, ну, проста сама прасілася, каб яшчэ раз яе прапалолі. А тым часам на полі лапінамі выспела жыта, яго трэба было жаць і малаціць.

А я думаў, што вам ужо надакучыла кожны год рабіць адну і тую ж работу, што вы ад яе стаміліся. Я пачаў настойваць, каб вы забыліся пра свае жыццёвыя клопаты і паехалі жыць са мной у горад. А там каб ні аб чым не клапаціліся... Я ж хацеў забяспечыць вам бестурботную старасць і тым самым пакрыўдзіў вас.

Толькі пазней, ужо зімою, калі вы паслізнуліся і моцна выцяліся аб лёд, і думалася, што ўжо ніколі не здолееце ўзяцца за работу, толькі тады я па-сапраўднаму ўбачыў, спазнаў, якая гэта для вас кара. Нікчэмны хлапчук, што я раней ведаў! А я ж павінен быў ведаць, што вы ўвесь свой век працавалі, і што не хочаце нічога іншага, што жыццё для вас — гэта работа.

І як бы мне хацелася стаць цяпер перад вамі на калені і за ўсё, за ўсё прасіць прабачэння. Дык вы ж ні за што не крыўдзіцеся на мяне.

Мусіць, нічога і не памятаеце з таго, што я вам учыніў благога. У вас жа памяць толькі на добрае. І хіба што патрывожаная даўняй фатаграфіяй мая памяць усё не дае мне спакою. Цяжка часам бывае заставацца адзін на адзін са сваім сумленнем...

Мабыць, мінае ўжо ноч, хутка настане новы дзень. Я гэта мяркую па тым, што стаў часцей сюды даносіцца перазвон трамваяў, а ў доме, што цераз вуліцу насупроць майго акна, адзін за адным пачалі ўспыхваць агеньчыкі.

Так і ёсць — зачынаецца новы дзень, Я ўключыў рэпрадуктар, і голас дыктара зычыць людзям добрай раніцы. Напэўна, вы ўжо ўсталі і ў вас новыя клопаты. Можа таксама ўключылі радыё і слухаеце апошнія паведамленні. Вас жа так трывожыць, што ўсё яшчэ неспакойна на свеце, што не ўсе яшчэ людзі на зямлі навучыліся жыць мірам.

Калі я ўключаю радыё, часта думаю: можа і вы дзе-небудзь у гэты час слухаеце тую ж самую перадачу. І хто ведае, можа думаем мы адну думу. І тады я адчуваю, што блізка з вамі, вельмі блізка, і неяк на душы становіцца цяплей і радасней.

Вы не раз мне казалі:

— Цяпер ужо, дзетка, я нічога не магу табе парадзіць. Ты ж больш усюды бываеш на свеце, табе відней.

А на мяне заўсёды ад вашых слоў зыходзіў душэўны спакой, вы на дзіва ўмееце разважыць, адвесці ўсе непаладкі. І калі здараюцца цяжкасці і пакуты, мне б толькі бачыць вас, мне б толькі адчуць цеплыню вашых маршчыністых, агрубелых ад натруды рук. Гэтая цеплыня для мяне больш гаючая за ўсялякія лекі, за ўсялякіх дактароў. І я адчуваю сябе ніякавата, што рукі мае ў параўнанні з вашымі вельмі белыя і кволыя. Ды дзіва што: мае ж рукі так мала знаюцца з мазалямі, хіба што толькі пад час летняга адпачынку.

Ды і то вы як мага аберагалі іх ад мазалёў. Калі я раніцою збіраўся скасіць паўмежкі, то нават і тут вы мяне апярэджвалі. Вы ўставалі яшчэ на досвітку і падкошвалі іх самі. А потым ціхенька, каб не разбудзіць, гатавалі мне снеданне. Вы ж ведаеце, як люблю я раніцай спаць, і ніколі не хацелі трывожыць мае сны.

Так і пачынаў я свой дзень са снедання...

Учора жонка на мой рабочы стол паставіла букет свежага бэзу. Ці то ад прыемнага паху, роднага мне з маленства, ці то ад вясновай прахалоды, якая ўлівалася праз расчыненае акно, я можа на колькі хвілін задрамаў над кнігай. І здалося ў сне, што вы, мама, падышлі да мяне і гэтак жа, як і некалі, асцярожна пагладзілі па галаве і ціхаватым голасам сказалі:



— Вася, Вася...

Я хацеў нешта адказаць вам, але так і не паспеў. Жонка разбудзіла — час быў ісці на работу...

Гады няўмольна адлічваюць сваё. І я з горыччу пачынаю задумвацца, што ніколі ўжо не здолею вам аддзякаваць.

Мама, любая мая мама! Вы ўсё зрабілі, каб не абмінала мяне шчасце. Аб адным яшчэ толькі прашу. Навучыце і мяне быць такім чалавечным, шчодрым, навучыце і мяне так жыць, як гэта ўмееце вы самі... Можа, я некалі здолею навучыць таму і свайго сына, і хіба толькі гэтым аддзякую вам за ўсё-ўсё. За вашае жыццё, мама.



*Мікола Купрэеў нарадзіўся ў 1937 годзе ў в. Ямнае на Рагачоўшчыне. Цяпер працуе настаўнікам у Пранчакоўскай сярэдняй школе Ляхавіцкага раёна і вучыцца завочна на V курсе факультэта мовы і літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута.*

*З вершамі ў рэспубліканскім друку выступае ўпершыню.*

**Мікола КУПРЭЕЎ**

# ТАБЕ



Ішоў я па беразе Чорнага, каля Алушты.
Думаў, спаткаю.
Ля сіняй вады, пад скалой у ружах,
думаў, спаткаю.

Ішоў па Дняпроўскіх горках, сярод акацый.
Думаў, спаткаю.
На сцяжынцы крутой, у блакітным плацці,
думаў, спаткаю.

Ішоў я па беразе Волгі вячэрняй, ля Горкага.
Думаў, спаткаю.
Нібы ў той песні, пад яснымі зоркамі,
думаў, спаткаю.

Па Рыжскаму ўзмор'ю ішоў я, па ранішніх дзюнах.
Думаў, спаткаю.
Светлавалосай рыбачкай юнай,
думаў, спаткаю.

Надакучыла ездзіць па свеце,
блукаць і шукаць усё недзе —
прыехаў дамоў на Палессе.

Каб сена касіць у лузе,
каб жыта расціць у полі,
каб сцежкі таптаць Беларусі,
каб дыхаць зялёнаю воляй, —
прыехаў дамоў на Палессе.

Давялося тым летам, тым ціхім ранкам
спаткаць на пракосах
ля вузенькай чыстай рэчкі Начанкі
русыя косы.

Ты ваду мне нясла напіцца.
Я стаяў і чакаў.
І што можа так раптам сэрца забіцца —
я не чакаў.

Вочы цёплыя-цёплыя, сінія-сінія
ты мне нясла.
Тыя, што я шукаў!
І ўсмешку, і губы, і рукі мілыя-мілыя
ты мне нясла.
Тыя, што я шукаў!

* * *

Не прыедзеш дадому ніколі,
не прыедзеш, не прыляціш,
не пабяжыш на світанні ў поле,
душу не расчыніш вясенняй волі —
пад калінаю дваццаць гадоў маўчыш.

Назбіраць не паспеў для каханай кветак,
«кахаю» сказаць не паспеў,
і песня ў гаі не дапета,
караблі і ветразі юнага свету
ў труне патанулі, збітай наспех.

А ў яго было ўсё, у твайго аднагодка:
Берлін і дарога да родных бяроз,
спатканні, расстанні, гарачыя пяцігодкі,
параходы на Волзе, на Свіцязі лодкі
і вечары ля дзявочых кос.

А ў цябе — толькі куля ў сэрцы...
Але кожнай вясною з далёкіх дарог
прыходзіць ён, той другі, да цябе, да
смерці,
ад усяго, што жыццём завецца,
што забітым юнацтвам сваім ты збярог.

* * *

Мабыць, зямля тут у нас такая.
Мабыць, вятры к нам ляцяць такія —
тысяч кветак насенне вясной прарастае,
заліваючы квеценню летам палеткі лясныя,



узмежкі палёў,
прыдарожжы,
ля рэк задуменных лугі.

І таму так здорава, здорава жыць,
калі, ідучы па дарогах Палесся,
чуеш: да зорак плывуць ціхай песняй
прапахлыя мёдам стагі.

## ЖУРАВЫ НЕ ПРАЛЯТАЮЦЬ МІМА

Збіраліся доўга.
Блукалі.
Шукалі.
Ляцелі над ветрамі.

Моклі ў дажджах.

І раптам убачылі ўнізе зялёныя хвалі,
між хваляў — палянкі,
у чаротах блакітную стужку Начанкі,
мурожныя травы на паплавах.

Апусціліся ніжэй і ўбачылі росы —
свежыя кроплі на голлях лясоў.
Б'ецца птушынае сэрца:
здалося,
між траў пасохлае пер'е іхніх крылатых бацькоў.

І нешта прапелі у ранніх абшарах,
і ўранілі на гнёзды старыя пух.
Развярнуліся ў небе,
застылі на вялізных хмарах
і, усхвалявана курлыкнуўшы,
селі на луг.

...Успомніў — і стала цяжка:
праехаў міма...
Роднае
за вагонным акном адплыло...
О, каб сэрца ў мяне было жураўлінае
ці, як у тых журавоў, чалавечае сэрца было!

Сцяпан АЛЕКСАНДРОВІЧ

# ПА ДАРОЗЕ Ў ЦІМКАВІЧЫ

**Дзе прайшло маленства, там пачынаецца Радзіма. Блізасць і замілаванне да роднай прыроды, да роднай зямлі, да самага важнага—да свайго народа пачынаецца з маладых гадоў.**

**Кузьма Чорны.**

Калі ехаць са Слуцка шашою на захад, кіламетраў дваццаць пяць абапал дарогі цягнецца роўнядзь. Як кінуць вокам, праглядваецца Слуцкая раўніна. Густа раскіданы вёскі і вёсачкі, толькі далёка-далёка сінее смуга лясоў. Чым далей на захад, тым бліжэй падступаюць лясы да дарогі, тым больш мяняецца краявід: справа часцей паказваюцца ўзгоркі, а злева — лясы і балоты. Там, дзе драбналессе падыходзіць амаль да самай шашы, пачынаецца вялікае скрыжаванне.

«Некалькі палявых дарог, крывых і вузкіх, крыжуюцца тут. Тут крыжуецца з шашою і вялікі грунтавы шлях з Палесся. На поўдзень ад шашы ён ідзе на Вызну, Морач, Страхінь і Орлік і ўваходзіць у самыя Агаркаўскія балоты. На поўнач жа ад шашы, пасля свайго перакрыжавання з ёю шлях ідзе на Лешню, Цімкавічы, Капыль, Старыцу, Перавоз, Самахвалавічы і такім парадкам кіруецца на Мінск»,— пісаў пра гэтыя мясціны Кузьма Чорны.

Вялікае скрыжаванне пісьменнік не раз упамінае ў сваіх творах. Гэта не выпадкова. Тут усе мясціны яму добра знаёмыя. Гэта маляўнічы закутак Случчыны — край маленства Кузьмы Чорнага.

Кіламетры два-тры ад вялікага скрыжавання, злева ад шашы, знаходзіцца маленькая вёсачка Боркі-Бялевічы * —радзіма пісьменніка. Недалёка адсюль і мястэчка Цімкавічы, адкуль родам бацька Кузьмы Чорнага — Карл Раманоўскі.

Летам 1899 года цімкаўскі цясляр Карл Раманоўскі ажаніўся са сваёй зямлячкай Гліцэраю—дачкой славутага ткача-сурвэтніка Міхала

* Боркі-Бялевічы цяпер Жыліхаўскага сельсавета Капыльскага раёна.



Парыбака-Чорнага. Маладыя адразу пайшлі на свой хлеб: Карл Раманоўскі яшчэ вясной перасыпаў хату ў Жабчаве і апытаў сабе месца ў маёнтку пана Эдварда Вайніловіча — Боркі.

У полі, крыху на водшыбе ад Борак, стаяла старая хата на дзве палавіны і вялікае панскае гумно. Адну палавіну хаты займаў парабак сілезец Леапольд Ешка, у другой пасяліўся Карл Раманоўскі.

Пан Эдвард Вайніловіч гаспадарыў па-новаму. Парабкі ў яго маёнтках не толькі абраблялі зямлю, але і гадавалі жывёлу. Леапольд Ешка даглядаў некалькі тысяч мерыносавых авечак, а Карлу Раманоўскаму даручылі зімой карміць кароў. Летам ён араў, касіў, вазіў снапы,— ці мала якой працы знойдзецца ў маёнтку для парабка! Была работа і для Гліцэры: яна хадзіла жаць, даіць кароў, выбіраць бульбу...

У хатцы, што стаяла ў Борках на водшыбе, ва ўрочышчы Лапацічы 24 чэрвеня 1900 года нарадзіўся Мікалай Раманоўскі—Кузьма Чорны.

Маленькі Коля рос на прыволлі. Праўда, на стале ў парабка Раманоўскага не было вялікіх прысмакаў: ёсць кавалак хлеба —і добра. Затое якая раскоша ўлетку, калі выйдзеш з хаты. Паветра, як шафран. Да самага агароду падыходзіць лава канюшыны, ля дарогі хвойнік, дзе растуць сакаўныя суніцы. За хвойнікам жытні палетак ўпіраецца ў лужок. Там густы арэшнік і маладзенькія бярозкі. Яшчэ крыху далей, ля Вінцэнтава, драбналессе пераходзіць у густы стары бор...

Весела было і зімою. Маці прала кудзелю і расказвала казкі. Пра дзедаву і бабіну ўнучку. Пра лісіцу і цецерука. Пра храбрага пеўня. І яшчэ многа-многа іншых казак... Або, сукаючы нітку, яна ціхенька спявала:

Не кліч мяне, татка,
Не пайду за табою:
Мне й ночка не зорна,
І дарожка не торна,
І на сэрцайку чорна...

Бацька звычайна што-небудзь майстраваў, завіхаўся з сякераю ці гэблікам. Прыходзіў сусед Леапольд Ешка, памагаў Карлу або, пасадзіўшы Колю на калені, курыў люльку і ўспамінаў жыццё ў далёкай Сілезіі.

Часам сярод зімы прыязджаў з Цімкавіч дзед Міхал. Тады ў хаце ставілі варштат, і славуты цімкаўскі ткач прымаў заказы на сурвэты і абрусы ад боркаўскіх, жыліхаўскіх і бялевіцкіх сялянак. Дзед Міхал быў вялікі майстар свае справы, ён ткаў сурвэты рознай шырыні і ўсякіх колераў. Паглядзець яго адмысловую работу, мудрагелістыя «павучковыя» дасэні *, складзеныя на аснове народнага арнаменту, формы кветак і розных завіткоў прыходзілі цёткі з усяе ваколіцы...

Ішлі гады. Колю споўнілася шэсць год, і маці ўзялася вучыць яго чытаць і пісаць. Неяк бацька быў у Слуцку, купіў там кнігу «Добрые семена» і грыфельную дошку. Навука тады пайшла спраўней...

У 1907 годзе пан Вайніловіч перавёў працавітага і паслухмянага парабка Карла Раманоўскага ў фальварак Вінцэнтава, які знаходзіўся недалёка ад Борак у густым лесе.

Тут Колю, яго малодшым братам і сёстрам адкрыўся новы дзівосны свет. Малыя ўвесь дзень бегалі па лесе, слухалі птушыныя спевы, збіралі ягады, грыбы. Зімою знаёмыя мясціны, зацярушаныя снегам і асветленыя месяцам, выглядалі загадкава і нават страшна. У лютыя маразы, калі вераб'і, сініцы і снегіры жаласна ціўкалі пад вокнамі, Коля выбягаў на двор і пасыпаў бедным птушачкам ячмень, крошкі хлеба.

Аднойчы ў Вінцэнтава заглянуў вандроўны гандляр. Ён прывёз соль, запалкі, розную гаспадарскую дробязь, абразы і нават кнігі. Маці, каб парадаваць Колю, купіла яму ў гандляра кнігу Яршова «Канёк-Гарбунок». Сын быў на сёмым небе ад шчасця! Жартачкі—у яго ёсць свая

* «Павучковы» дасэнь—складаны ўзор, якім ткалася сурвэтка ці абрус.

кніга!!. Ды якая! З малюнкамі, каляровай вокладкай. А як хораша ў ёй апавядаецца пра сялянскае жыццё:

За горами, за лесами,
За широкими морями,
Не на небе — на земле
Жил старик в одном селе.
Старший умный был детина,
Средний сын и так и сяк,
Младший вовсе был дурак.
Братья сеяли пшеницу
Да возили в град-столицу.
Знать, столица та была
Недалече от села.

Прачытаў хлопчык казку раз, другі... Потым некалькі разоў чытаў яшчэ братам і сёстрам. Вывучыў амаль усю яе на памяць. Пачуў дзед Міхал, як унук расказвае, ды кажа:

— Знаеш, Карусь, што я табе скажу?.. Трэба мне забраць твайго Колю ў Цімкавічы. Няхай у школу ходзіць... Няўжо і яму ў парабках векаваць, як табе?

— Мы ўжо аб гэтым думалі, — адказала маці. — Але, бач, тут нідзе школы блізка няма.

— Хто яго ведае, — прамовіў Карл Раманоўскі. — Можа, нам усім прыйдзецца дамоў вярнуцца. Вельмі бо надаела шапкаваць перад панам. Як ні ўгаджай — усё роўна кепска. То яму не так, гэта — не гэтак. Якога ражна яму трэба... Прыйдзецца кінуць-рынуць усё і перабрацца ў Цімкавічы...

У 1908 годзе пасля жніва боркаўскі парабак сабраў свае манаткі і пераехаў у роднае мястэчка да бацькі Фелікса Раманоўскага, які жыў на Капыльскай вуліцы. У бацькавай хаце было цеснавата, і Карл з Гліцэрай пачалі думаць аб тым, каб неяк агарадзь сваё аселішча. Купілі ў Комсічах хлевушок, далі пару новых вянцоў. Усю зіму пратупаў Карл Раманоўскі ля свае хаты, сам зрабіў усю сталярку, а на вясну яго сям'я мела свой кут на пляцы дзеда Фелікса пад старой грушай-дзічкай...

Пасля гэтага бацька са спакойным сэрцам узяўся за старое рамяство: рабіў людзям хаты, правіў ветракі і вадзяныя млыны, капаў калодзежы. Працаваў ён старанна і цегавіта, часам на некалькі тыдняў адлучаўся з дому. Засумаваўшы па дзецях, ён прыходзіў у Цімкавічы, забаўляўся з малымі, расказваў ім казкі.

Маці цалюткімі днямі праседжвала за кроснамі. Ткала палатно, коўдры-перабіранкі — усё што прыйдзецца.

Коля хадзіў у Цімкавіцкае народнае вучылішча. Быў ён шчупленькі, невысокі ростам, бялявы тварык яго, здаецца, прасвечваўся. Але да навукі хлопчык быў здатны. Настаўнік пра яго казаў:

— Хоць маленькі, ды ўдаленькі.

Народнае вучылішча Мікалай Раманоўскі закончыў паспяхова і дзве зімы рыхтаваўся дома. Ён надумаўся паступіць у Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, дзе вучылася некалькі цімкаўцаў.

У жніўні 1916 года ён паехаў здаваць уступныя экзамены. Нясвіж быў паўнютка набіты салдатамі, у семінарскім інтэрнаце размясціўся гашпіталь — немцы стаялі на Шчары, ля самых Ляхавіч.

Вучыцца ў семінарыі было нялёгка. Жыў семінарыст Мікалай Раманоўскі на прыватнай кватэры. Недалёка кватаравалі хлопцы з Мікалаеўшчыны. Яны расказвалі пра жыццё плытнікаў, ведалі цікавыя вершы:

Смачна спіць Лукаш на печы,
Ў сцену ўпёршыся нагой,
Парыць спіну, грэе плечы,
Грае носам, як дудой...

— Гэта наш мікалаевец Кастусь Міцкевіч іх складае, — тлумачыў



Пятрусь Маляўка. — Падпісвае свае вершы — Якуб Колас. Некалі ў Нясвіжскай семінарыі вучыўся. Гэта ён напісаў:

Ярка на камінку
Смольны корч палае,
Бацька на калодцы
Лапці выплятае.

Так Мікалай Раманоўскі ўпершыню пачуў пра Якуба Коласа.

Першы год вучобы ў семінарыі прайшоў хутка. А другі год прынёс многа навін. Рэвалюцыя. У Нясвіжы ўстаноўлена савецкая ўлада. Прыехаў новы дырэктар. Раптам зімою 1918 года прыйшлі ў горад немцы, а праз год — белапалякі, якія зусім закрылі семінарыю.

Мікалай вярнуўся ў Цімкавічы, скінуў семінарскую вопратку. Прыйшлося ўзяць сякеру ў рукі і пайсці з бацькам на заработкі. Цеслярам у тыя гады работы было многа: улада мянялася часта, сяляне секлі панскі лес. Абход у іх быў вялікі: траплялі аж ў Сейлавічы, Пацейкі, Паненскі Вялешын, часам рабілі зруб за шашою — каля Бучаціна ці Жываглодавіч.

Якія толькі не траплялiся людзі! Якія ў іх розныя характары і погляды на жыццё! Адны кампанавалі з польскімі ўладамі, другія прыслухоўваліся, што чуваць на ўсходзе, і чакалі Саветаў, якія дзялілі зямлю... Мікола ўважліва прыглядаўся да людзей, да іх паводзін, прыслухоўваўся да іхняй гаворкі. Ён зрабіў для сябе адкрыццё, што кожны чалавек быў непадобны на другога не толькі аблічам, а нечым больш важным і істотным. У кожнага была свая пастава, свая манера гаварыць, сваё любімае слоўца. У аднаго неяк смешна перасмыкаўся твар, другі пацепваў плячыма, трэці пагладжваў вусы. А колькі непаўторнага было ў абліччы і паводзінах якога-небудзь чарнагубаўскага шляхцюка ці сцяпурскага багатыра!

Аднойчы здарылася Мікалаю з бацькам жыць у адной хаце са старым вандроўным краўцом-кажушнікам з Капыля — фацэтным, гаваркім чалавекам. Ну і наслухаўся Мікалай розных гісторый! Былі там смешныя і сумныя, праўдзівыя і прыдуманыя, доўгія, што не хапала аднаго вечара, і кароценькія, усяго некалькі слоў — але якіх! Колькі ў гэтых гісторыях было дасціпнага народнага гумару і перцу, трапных параўнанняў, удалых прыказак. Слухаеш — не наслухаешся!

Раненька, калі гаспадыня ставіла на стол чыгун бульбы ў мундзірах, міску кіслага малака і міску шаткаванкі, кравец гаварыў:

— Гэ, па малаку я і ног не павалаку.

Стары кажушнік вымаў з галяніішча пляскатую бутэлечку з «божымі» кроплямі, рабіў некалькі глыткоў, потым з крэктам выціраў вусы, даставаў з торбачкі сала, частаваў усіх тоненькім скрылёчкам:

— Не абы-якое сала... Капыльскае, мой пане! Вазьмі на зуб! Што, ласне кепскае скажаш? Браток ты мой, у Капылі ўсё хітра, мудра і нядорага. Там і зямля такая тлустая, што хоць бліны падмазвай...

Шмат цікавага пабачыў і наслухаўся Мікалай за гады вандроўкі з бацькам па Капыльшчыне.

Восенню 1920 года ён пайшоў на службу ў Цімкавіцкі валасны рэўком. Адну зіму працаваў настаўнікам у школе. 25 мая 1923 года ў газеце «Савецкая Беларусь» з'явілася яго першае апавяданне «На граніцы». Так пачалася літаратурная дарога Кузьмы Чорнага.

Бадай што творчасць ні аднаго беларускага пісьменніка не была так цесна звязана з роднымі мясцінамі, як творчасць Кузьмы Чорнага. Дзеянне ва ўсіх яго раманах адбываецца на невялікім пятачку беларускай зямлі, там, дзе «паблізу чутны ў людской гаворцы гарады Нясвіж і Слуцак» — недзе каля Цімкавіч і Капыля.

Толькі ў рамане «Вялікі дзень» не раз упамінаюцца Слуцк, Нясвіж, Качановічы, Цімкавічы, Семежава, Лешня, Філіпавічы, Крыжы, Селіц-

кія хутары, Вызна* і іншыя паселішчы Случчыны. Важна яшчэ і тое, што гэта не проста адвольна ўзятыя геаграфічныя назвы. Апісанне краявідаў гэтых мясцін адпавядае сапраўднасці. Малюнак невялічкага мястэчка з двухпавярховымі дамамі з кругляка, з высокім комінам і заводскімі сценамі з чырвонай цэглы, раскіданымі зводдалеку мураванымі дамамі, які па-рознаму паўтараецца ў творы, — гэта не што іншае, як Цімкавічы. Маленькі гарадок, апісаны ў раманах «Бацькаўшчына» і «Трыццаць год», бясспрэчна, Нясвіж...

Дзесьці на Капыльшчыне, непадалёку ад вялікага скрыжавання дарог, што вядуць з усходу на захад і з поўначы на поўдзень, адбываюцца падзеі, апісаныя ў рамане «Пошукі будучыні». Апрача Слуцка, Нясвіжа і Цімкавіч, тут сустракаюцца Капыль, Старыца, Орлік, Морач, Кукавічы, Цапра, Балвань, Клецк, Гулевічы, Сіняўка, Лядныя, Пузава, Малібашкава гара. Ёсць у творы дакладныя апісанні некаторых тутэйшых мясцін: «Паміж Сумлічамі (назва ўмоўная — **С. А.**) і Нясвіжам па гасцінцы ёсць яшчэ некалькі мястэчак і апошняе з іх к Нясвіжу — Цімкавічы. На сярэдзіне ж дарогі паміж гэтым мястэчкам і Нясвіжам стаяла тады старая карчма, як і належыць ёй, са стадолай і прасторнай хатай з бакоўкамі. Карчма стаяла пры самым гасцінцы на ўездзе ў сяло Кукавічы і называлася «Кукавіцкая карчма». У першыя месяцы пасля міру з Польшчай (зімою 1920 і 1921 гг.), пакуль не вызначана была і не адзначана цвёрдая лінія граніцы з Польшчай, гэтая карчма была тым пунктам, на які арыентаваўся кожны, хто хацеў цвёрда дазнацца, дзе Савецкая зямля, а дзе ўладанні Польскай дзяржавы. Хтосьці, начуючы ў Кукавіцкай карчме, напісаў у ёй на сцяне, як бы на ўспамін тутэйшым людзям, сваё прозвішча і слова радасці, што варочаецца ў родны кут да блізкіх і родных».

Але не толькі дзеянне ў творах К. Чорнага адбываецца дзесьці ля Цімкавіч, героі іх — землякі пісьменніка, знаёмыя цімкаўцы, якія, як ён казаў, яму хапіла б апісваць на ўсё жыццё. Праўда, выдатны беларускі мастак слова ніколі не пераносіў бачанае жыўцом, у сырым выглядзе ў раман. Ён сам гаварыў што сапраўдная творчасць — гэта не проста «ўмелая падача гатовага матэрыялу», а «ператварэнне матэрыялу ў новыя якасці». Назіральнае вока пісьменніка ўмела адбіраць з багацця фактаў самае характэрнае, самае істотнае, такія яркія мастацкія дэталі, што многія героі, з жывымі прататыпамі якіх К. Чорны сустракаўся ў родным мястэчку ці яго ваколіцах, набывалі новыя рысы, станавіліся сплавам рэальнасці і творчага домыслу.

Таму Леапольд Гушка — гэты боркаўскі сусед сілезец Леапольд Ешка і адначасова зусім іншы чалавек па свайму характару і імкненнях. А Максім Астаповіч — гэта цясляр Карл Раманоўскі і ў той жа час тыповы вобраз чалавека, для якога праца — паэтычнае натхненне, жыццёвая неабходнасць: «Было падобна, што існуе на свеце нейкі невядомы і магутны майстар, а Астаповіч толькі наймаецца ў яго на чорную работу». У каларытных фігурах Ксавэра Блецькі і Скуратовіча, Сурвілы і Хурса, краўца і Сабастыяна Рамашкі, Тварыцкага і Прыбыткоўскага, Нявады і Шымхі лёгка угадваюцца жывыя людзі, якіх сустракаў семінарыст, а пасля цясляр Мікалай Раманоўскі ў Цімкавічах, Нясвіжы і на сваіх вандроўных дарогах. Вядома, назіранні і ўражанні маленства і юнацкіх год тут узбагачаны пісьменнікам Кузьмою Чорным — выдатным знаўцам чалавечай душы, прапушчаны праз яго творчую лабараторыю, дзе рысы многіх асоб пераўтвараліся і злучаліся ў адзінае цэлае, каб стаць пад пяром мастака глыбокім роздумам над жыццём чалавека, лёсам народа і краіны...

Кожны буйны твор Кузьмы Чорнага быў своеасаблівым падарожжам пісьменніка ў сваё маленства, у роднае мястэчка і яго ваколіцы. Але па дарозе ў Цімкавічы ён не толькі паказваў чытачу маляўнічыя прасторы Случчыны, а быў перш за ўсё адкрывальнікам новага ў свядомасці, характары і сэрцы чалавека.

---

* Вызна — цяпер Чырвоная Слабада.

**Анатоль СЕРБАНТОВІЧ**

* * *

З

наю,
Прыйдзе к табе тэлеграма,
Нейдзе словы ужо бягуць:
«Грошай слаць мне не трэба, мама,
Я навечна ў цябе ў даўгу».

І вячэра твая астыне.
Волю даўшы сваім слязам,
Будзеш ціха казаць пра сына:
«Вось і стаў ты на ногі сам».

А мяне, ці сяджу ў пакоі,
Ці надоўга пакіну дом,
Кожнай ноччу і днём непакоіць
Неаплатны сыноўні доўг.

Мо трывога таму і спаткала
І таму ён мне так карціць,
Што нат веку майго замала,
Каб я змог гэты доўг аплаціць.

* * *

Т

ут магіла...
Ні камня, ні даты...
Лісце-вушы трыпутнік тапырыць...
Маці, мабыць, павестку ў хату
Нёс дзядок, пасівелы ад пылу.

А старая чытаць не ўмела.
Прарастала ў грудзях трывога,

І яна перайшла нясмела
Да суседскага дома дарогу.

Паўставала ў вачах павестка,
Як нядобры сусед тлумачыў:
— Раз прапаў ён на фронце без весткі,
Значыць, здаўся ў палон — няйначай.

А не ведала тая маці,
Што вясновым пявучым ранкам
Спатыкнуўся
і ўжо ўзняцца
Сын не змог ля варожага танка!..

## На арбіту камунізма



Салігорск.

Уладзімір НОВІК

# ШАХЦЁРСКАЯ ЛЯМПА

Нарыс

### СОЛЬ

За якую гадзіну да перазменкі ён прыйшоў у нарадную. Важна сеў за стол і запрасіў:

— Налятай, хто ахвотнік!

Ахвотнікаў забіць «казла» шукаць не трэба. Праз хвілін колькі шахцёры з забіяцкім прыстукам клалі ў радок даміно.

— Шанцуе табе, Глеб, — азваўся электрык Уладзімір Зіневіч.

Брыгадзір усміхнуўся, паказаўшы белыя, бы часнок, зубы. Ён любіў, каб яго верх быў усюды.

— Гэта мы яшчэ пабачым, — быццам незнарок, уставіў Іван Акалелаў.

Глеб Кажэўнікаў гнеўна бліснуў вачамі на таварыша і глуха кінуў:

— Ты гэта пра што?

— Сам ведаеш, калі не забыў...

Брыгадзір устаў, насупіўся і адышоў да акна. Адсюль ён бачыў дашчатыя тратуарчыкі, па якіх кожны дзень праходзіў у раздзявалку, а з яе спаважна ступаў да доміка з маленькім акенцам. Там Марыя Давідовіч падавала яму шахцёрскую лямпу. Падыходзілі таварышы. У шахцёрскім адзенні

яны выглядалі волатамі. Да капра ішлі моўчкі. Уперадзе кожны раз крочыў ён, Глеб Кажэўнікаў.

«Што цяпер будзе? — свідравала мозг неадчэпная думка. — Няўжо расстацца давядзецца?» Кажэўнікаў смаліў папяросу за папяросай і стараўся рабіць як мага глыбейшыя зацяжкі.

— Перажывае брыгадзір, — перашэптваліся шахцёры. Ім было няёмка перад таварышам, бо тут была і іх доля віны.

— Можа, забыў аддаць каманду? — спрабавалі апраўдаць брыгадзіра адны.

— Проста нядбайнасць, — рэзка гаварылі другія. — Яго ж папярэджваў механік — не паслухаў.

Іван Акалелаў слухаў-слухаў і не стрымаў сябе:

— А вы што, у кусты? Кашу заварылі разам, разам і расхлёбваць будзем, чаго тут!..

Кажэўнікаў чуў гэта і думаў: «Якія розныя бываюць людзі: адны апраўдваюць, другія асуджаюць. Можа ў гэтым і мая віна: не мог сцэментаваць калектыў, каб усе былі заадно».

Прыйшоў механік Ванюшкін. Яго спаткалі насцярожанымі позіркамі. Той падышоў да Кажэўнікава і працягнуў лісток паперы.

— Вось акт. За трубы вылічым з брыгады. Падпішы!..

Стала так ціха, што чуваць было, як за дашчатай перагародкай у пакойчыку рудкома чэкаюць ходзікі. Шахцёры апусцілі галовы, чакалі, што скажа брыгадзір.

— Не выйдзе! — ускіпеў Кажэўнікаў. — Парві акт, інакш папомніш мяне...

Ванюшкін не стаў слухаць, што далей скажа разгневаны брыгадзір. Яго глыбока пакрыўдзіла пагроза. «Дык вось які ты! — думаў ён. — І яны ўсе таксама... Маўчаць, як вады ў рот набраўшы. За сваю капейку калоцяцца...»

Начальнік горнакапітальнага ўчастка Віктар Мікалаевіч Шлепаў пастараўся, як умеў, супакоіць Ванюшкіна. Папрасіў сесці і ўсё расказаць па парадку.

— Брыгада Кажэўнікава рыхтавалася зрабіць узрыў у кверш-лагу, — пачаў механік. — Я сказаў Кажэўнікаву, што трэба зняць вентыляцыйныя трубы: іх можна пашкодзіць выбухам. «Некалі нам іх здымаць, — абарваў мяне Кажэўнікаў. — Будуць цэлыя твае трубы».

І вось складзены акт: брыгада павінна заплаціць за папсаваныя трубы. Тут Кажэўнікаў і ўзгарэўся...

— А шахцёры што? — спакойна спытаў Шлепаў.

— Пакінуў іх. Не ведаю, што там цяпер робіцца...

— Гэтага якраз рабіць і не трэба было. Не думаю, каб усе яны падтрымалі брыгадзіра, — Шлепаў устаў, але позірку з Ванюшкіна не спускаў. — Абмяркуем на вытворчым сходзе. Там усё стане ясна.

На сход Кажэўнікаў прыйшоў з цвёрдым перакананнем, што яго падтрымае калі не ўся брыгада, то большасць — напэўна. Норму перавыконвалі, зараблялі добра. Што ім яшчэ трэба? А што ён супраць гэтага акта, дык гэта ж толькі ў іх інтарэсах...

— А пра інтарэсы рудніка, інтарэсы дзяржавы Кажэўнікаў якраз і не падумаў, — загрымеў Генадзь Карабаеў. — Яму абы капейка...

— Нельга даравацъ Кажэўнікаву яго віны, — услед за Карабаевым сказаў Віктар Гушча. — Цярпець у нашым калектыве грубіяна і самавольніка мы не можам! І не хочам...

Гарачым вуголлем пяклі гэтыя словы Кажэўнікава. «Усе супраць мяне, — думаў ён. — Згаварыліся...»

— Якое будзе рашэнне, таварышы? — чуе Кажэўнікаў голас начальніка рудніка Уладзіміра Пятровіча Фаміна.

— Мая думка: зняць з брыгадзіраў.

Сказаў гэта Ванюшкін ціха, але цвёрда. А Кажэўнікаву здалося, што тыя словы прагрымелі, як гром. Падумаць толькі: яго, перадавога брыгадзіра, і ў радавыя! Можа ён недачуў?..

— Стаўлю на галасаванне, — спакойна гаворыць Фамін.

Усе ўзнімаюць рукі супраць аднаго. «Вось як... Чужы я ім...», — кіпіць у грудзях у Кажэўнікава. І, каб шахцёры не бачылі слёз, ён выбег на двор.

Міма, цяжка стогнучы, праходзілі самазвалы, нагружаныя чырвоным сільвінітам. Маладзенькі шафёр прывітальна памахаў з кабіны рукавіцай і ўсміхнуўся. Глеб адвярнуўся, мацней сцяў сківіцы. «Паеду адсюль, каб вочы ім не мазоліць...»

Толькі ці лёгка пакінуць тое, што пабудавана тваімі рукамі, развітацца са сваімі хлопцамі?

Глеб у душы адчуваў, што ён вінаваты, што яго заслужана пакаралі, але гордасць не дазваляла прызнацца ў гэтым.

Ён доўга блукаў па вуліцы і не заўважыў, як сутыкнуўся твар у твар з інжынерам Яўгенам Паўлавічам Жэўжыкам.

— Усё бядуеш? — у яго словах Глеб улавіў ноткі дакору, а паглядзеў у вочы і ўбачыў, што яны, як заўсёды, **добрыя.**

— Больш мне нічога не застаецца, Яўген Паўлавіч, — голас у Глеба задрыжэў, і ён ледзь чутна прамовіў: — Паеду адсюль. Хлопцаў сорамна і вас...

— Сорамна, кажаш... А грубіяніць ты, нябось, не саромеўся. А самавольнічаць таксама не саромеўся? Дык не саромся ж і памылкі свае выправіць, аўтарытэт вярнуць.

— Цяжка мне...

— Нічога. Папрацуеш пакуль бурыльшчыкам, а далейшае будзе ад самога залежаць. Калі не ўцячэш...

Доўга яшчэ адчуваў Глеб моцны поціск рукі Яўгена Жэўжыка. «Калі не ўцячэш...» Не, трусам ён не будзе і таварышаў не кіне!

Кажэўнікаў зрабіў так, як параіў Яўген Паўлавіч, бо, як і ўсе гарнякі, паважаў камсамольскага важака. Няхай сабе ён яшчэ малады, але затое прынцыповы. Праўду ў вочы рэжа, а за сваіх хлопцаў гарой стаіць.

Давялося Глебу ісці пад каманду Генадзя Карабаева. Гэта — бывалы гарняк і чулы таварыш. Ён сам любіць паказаць добры прыклад, дасканала валодае спе-



Бурыльшчык Эліас Берген у забоі.
Фота Р. Дубоўскага.

цыяльнасцю скрэперыста, бурыльшчыка і падрыўніка.

Карабаеў добра адчуваў душэўны стан Кажэўнікава і, калі трэба было, умела і непрыкметна прыходзіў хлопцу на дапамогу.

«А я і не ведаў, які ён чалавек, — думаў Кажэўнікаў. — Цікавіўся толькі, каб была норма. А яго, глядзі ты, выбралі брыгадзірам».

То былі напружаныя дні барацьбы за сільвініт. Чоткі рытм работы адчуваўся на зямлі і пад зямлёй. Кажэўнікаў не шкадаваў сябе. Хутка авалодаў абавязкамі бурыльшчыка, кожную змену перавыконваў заданні, але на душы не было спакою.

Прызнацца, ён зайздросціў тым, што пажадалі стаць ударнікамі камуністычнай працы. Хацеў і сам далучыцца, але адкрыта сказаць пра гэта не адважваўся. Так і насіў гэтую мару ў душы. Пакуль на сходзе брыгады Карабаеў не спытаў:

— Хто жадае ўключыцца ў спаборніцтва за званне ўдарніка камуністычнай працы?

Наступіла маўчанне. І першы у цішыні пачуўся голас Кажэўнікава:

— Я.

Усе павярнулі галовы ў яго бок. Былі позіркі і адабральныя, і скептычныя. Глеб гэта заўважыў і, мабыць, ад таго ўстаў. Голасам цвёрдым, як некалі, дадаў:

— Слова шахцёра!

Зацягнуўся ў той вечар сход. Глеб слухаў і адчуваў, як добра быць у калектыве. Правінішся — пакараюць, спатыкнешся — пада-

дуць руку, каб не ўпаў, а ўпаў — памогуць стаць на ногі.

Назаўтра, падаючы Глебу лямпу, табельшчыца ўсміхнулася. У яе ўсмешцы шахцёр прачытаў: «Шчаслiва!»

І Глеб мацней сціснуў лямпу-шахцёрку.

### У ПЛАСТАХ СОЛІ...

Бодня, мякка гушкануўшыся, панеслася ўверх. У святле ад шахцёрскіх лямпаў мільгалі кольцы цюбінгаў, пакрытыя нарастамі солі. Імжыла. Часам капалі буйныя кроплі. Цокаючыся аб шахцёрскія каскі, яны рассыпаліся ў пырскі...

Леанід зажмурыў вочы, пастаяў з хвіліну, каб прывыкнуць да святла, і пакрочыў у раздзявалку. Зняў з сябе шахцёрскую вопратку і пайшоў у душавую.

У нараднай перакідваўся з хлопцамі жартамі, смяяўся, але адна думка не давала яму спакою. Леаніда Булгака, брыгадзіра і машыніста камбайна № 2, за жывое закранула тое, што камсамольска-маладзёжны экіпаж Анатоля Андросава за суткі прайшоў 25 метраў пласту і паабяцаў — трыццаць.

Леанід добра ведаў Анатоля, кожны дзень бачыўся з ім. Няма-ла чуў добрага пра яго. Анатоль — звычайны шахцёр. Ні ростам, ні сілай не вылучаўся сярод іншых машыністаў-камбайнераў. Хударлявы, з дробным, па-юнацку свежым тварам і заўсёды ласкавым позіркам, ён падабаўся многім. Андросава выбралі рэдактарам насценнай газеты.

Пачаў Леанід больш пільна прыглядацца да Андросава і заўважыў, што той нібы заважнічаў. «Ёсць ад чаго, — падумаў Леанід. — Нябось, кожны, даўшы такую выпрацоўку, насіў бы галаву высока».

Леаніду карцела, абагнаць Андросава. Адкрыта ж заявіць аб гэтым таварышам ён не адважваўся. Ён ведаў, што такое дваццаць пяць пагонных метраў штрэка ў суткі! Каб дасягнуць такога, патрэбна, як кажуць гарнякі, «выціснуць з камбайна ўсе сокі». Гарачыня небывалая. Як толькі матор трывае!

І ўсё ж Леаніда не пакідала думка — апярэдзіць Андросава. А тут яшчэ больш ахвоты паддаў скрэперыст Павел Бардок:

— Не святыя ж гаршкі лепяць!..

— Гарачы ты, як я бачу, — прагаварыў Леанід.

Паўла падтрымаў і Барыс Жалязінскі. Ён у Леаніда Булгака за памочніка. Тады машыніст адчуў, што сілы ў яго прыбавілася, і рашыў ісці ў наступленне.

Назаўтра булгакаўцы рынуліся ў наступ. Уздрыгнуў і запрацаваў на поўную сілу камбайн. Стальныя зубы грызуць каменную сцяну. На транспарцёр сыплюцца драбкі калію. Саляны паток імклі-ва нясецца да галоўнага транспарцёра, а адтуль — да ствала. Напор на каменную сцяну ўсё нарастае, камбайн прыкметна падаецца ўперад, адваёўваючы метр за метрам. Ззаду застаецца адшліфаваны штрэк.

Саляны пыл асядае на губах, прыпудрывае вопратку. Электрыкі ўважліва сочаць за кабелем. Леанід, натомлены, аддаў рычагі Жалязінскаму. Машына быццам адчула свежую сілу чалавека і запрацавала на павялічаных абаротах.

Падышоў начальнік рудніка, пастаяў, паглядзеў і, нічога не сказаўшы, падаўся туды, дзе працаваў камбайн Пінчука.

«Не хоча адрываць ад работы, — падумаў Леанід. — Так, можа, і лепей!»

У канцы змены замералі праходку — 9 пагонных метраў. За тры змены — 27. Вынік лепшы, чым у андросаўцаў. Але хто гэта хоча заставацца ззаду? Назаўтра экіпаж Андросава за змену прайшоў дзесяць метраў. Спаборніцтва ахапіла ўсе экіпажы, у змаганне за першынство ўключыліся ўсе брыгады.

Перамога пакуль што заставалася за экіпажам Андросава. Але булгакаўцы, як і кочатаўцы, не думалі здаваць пазіцыі. Яны ўпарта ішлі наперад, наступаючы перадавіку на пяткі. Андросаву такое не падабалася, і ён заважнічаў яшчэ больш.

— Чаму, Анатоль, не вучышся? — запытаў аднойчы ў яго камсорг Жэўжык. — У цябе ж якіх класаў восем усяго.

— Паспею, — адмахнуўся той. — Вось адхаплю Залатую Зорку і гайда ў інстытут.

Пачуўшы такое, Жэўжык аж з твару перамяніўся. Глядзі ты, як загаварыў — ціхоня! Але стрымаў сябе і запытаў далей:

— А дома чаму выкідваеш «конікі»?

— Хто можа гэта даказаць? — голас у Андросава металічны і сухі.

— Учора жонка твая прыходзіла ў камітэт, сама ўсё расказала.

У вачах Андросава блiснулі ільдзінкі, твар пабялеў.

«Трусаваты», — заключыў Жэўжык, а ўголас сказаў:

— Падумай і зрабі вывад...

«Падумаеш! — супакоіў сам сябе Андросаў. — Не гэтакіх бачылі».

Нездарма кажуць, што, каб чалавека раскусіць, трэба з'есці з ім не адзін пуд солі. Пярун стрэльнуў сярод яснага неба. Аднойчы ўбачылі шахцёры, як Толік Андросаў стаяў на базары і гандляваў вінаградам, які яму нібыта прывёз брат з Малдавіі. Убачылі і здзівіліся, як яны дагэтуль не разгадалі гэтага чалавека. Не заўважалі, што ў Андросава балячка завялася ўжо даўно і яе ўбачылі толькі тады, калі яна выхапілася на паверхні.

Толькі цяпер на ўсе вочы шахцёры разгледзелі, які Анатоль Андросаў. Стаў задавакам. Любіў, каб поспех усяго калектыву прыпісвалі яму аднаму. Ад таго і задзіраў высока нос, думаў, што яму ўсё можна. Нельга дапускаць такое, бо чалавек, пачаўшы з маленькага, пяройдзе на большае. Хвароба пачне ўскладняцца, калі яе не выкараніць у зародку.

Камсамольцы строга асудзілі ўчынак свайго таварыша, які зазнаўся. Яго знялі з пасады брыгадзіра. І далі магчымасць выправіць сваю памылку. Яны ўпэўнены, што ў працы, у змаганні за соль перакуецца і адшліфуецца характар і такога хлопца, як Толік Андросаў.

### СТАРОГА СТАРОБІНА ЎНУКІ

Начальнік горнакапітальнага ўчастка Віктар Міхайлавіч Шлепаў пазваніў у шахту, папрасіў да тэлефона Сцяпана Герасімавіча, каб суправаджаў нас, газетчыкаў, пад зямлёй.

І вось мы зноў у шахце. Чамусьці думалася, што Сцяпан Герасімавіч — вусаты дзядзька, шыракаплечы, з добрымі шэрымі вачыма. Нас жа сустрэў хлопец у шахцёрскай робе.



**Памочнік начальніка ўчастка Сцяпан Вераб'ёў.**

— Памочнік начальніка ўчастка Вераб'ёў, — адрэкамендаваўся ён і моцна пацiснуў рукі. — Што вас цікавіць?

— Усё.

— Тады падрыхтуйцеся. Ісці давядзецца не адзін кіламетр.

Мы пераглянуліся. Такому праважатаму можна было толькі радавацца.

Галоўны квершлаг. Прастор. Да столі прывешаны гірлянды лямпачак. Ланцужок іх губляецца

недзе далёка-далёка. Насустрач па транспарцёру імкліва плыве чырванаваты сільвініт. Людзей амаль не відно.

Пазіраючы на ўсё гэта, мімаволі прыгадваеш казкі аб цудоўным падземным царстве, дзе столькі багацця, што яго не вычарпаць за вякі. Праўда, гаспадарацъ тут не казачныя героі, а звычайныя людзі — шахцёры.

Трапляем у бакавы штрэк. Прыслухоўваемся. Дзесьці аж у канцы яго чуваць прыглушаны гул. Гэта камбайн. Ідзем бліжэй. На ім відзён пераходны чырвоны вымпел — знак таго, што камбайн перадавы. За рычагамі Міхаіл Пінчук. Яшчэ нядаўна ён працаваў памочнікам у Леаніда Булгака, таго самага, што напорыста ішоў да перамогі над Андросавым. І свайго дабіўся. Булгакаўцы брыгадай за месяц прайшлі 397 пагонных метраў штрэка. За гэты **рубеж яшчэ пакуль** ніхто з машыністаў на камбінаце не ступіў.

Сёння Міхаіл Пінчук працуе машыністам. Памочнікам у яго Васіль Раманоўскі, скрэпершчыкам Міхаіл Фігельман. Работа ў экіпажы спорыцца. Гэта мы бачым і самі, гэта пацвярджае і наш спадарожнік Сцяпан Герасімавіч.

У экіпажы Пінчука ўсе хлопцы працуюць так, што ў любы час могуць замяніць адзін аднаго, бо яны авалодалі сумежнымі прафесіямі. Скрэперыста можа з поспехам замяніць машыніст, а машыніста — скрэперыст. Гэта аблягчае працу, згуртоўвае хлопцаў.

Калі камбайн становіцца на рамонт, адзін з членаў экіпажа бярэцца за бурэнне. Мы бачылі ў той дзень, як памочнік машыніста з экіпажа Андросава Эліас Берген бурыў шчыліны для гарлавін. Закладваецца чарговы запас узрывчаткі, і гулкае рэха нясецца па штрэку. Глыбы сільвініту потым дробяць і грузяць на транспарцёр. Праз колькі дзён у гарлавіну заходзіць камбайн, і пачынаецца праходка штрэка.

Мы налічылі сем такіх гарлавін. Значыць, сем камбайнаў прыступіць да пракладкі штрэкаў. Узрывы не змаўкаюць і па начах. За мінулы год пад зямлёй машынамі пройдзена пяць тысяч метраў. Шахцёры сёлета падмеліся зрабіць удвая больш. Фронт работы пашыраецца з кожным днём. Павялічаны аб'ём бодняў, паскорана іх хуткасць. Але гэтага мала. Нездарма шахцёры падганялі мантажнікаў Іосіфа Сцефановіча.

— Капёр хутчэй давайце, хлопцы!

І не было мантажнікам спакою ні ўдзень, ні ўночы. Працавалі, як кажуць, адзін за дваіх, а двое за чацвярых, пакуль не настаў той дзень, калі капёр узняўся над шахтай.

Гэта быў урачысты момант. Прыйшлі рабочыя, інжынеры: усе хацелі сваімі вачыма бачыць, як першы ў Беларусі пастаянны шахтавы капёр стане на сваё месца. Былі тут і будаўнікі, і шахтапраходчыкі, і шахцёры-калійнікі.

Спакойна, увішна працавалі мантажнікі. Яны ўсё прадугледзелі. Металічную канструкцыю падперазалі тросы, перакінутыя цераз чатыры статонныя паліспасты. Высока стаяць дзве пяцідзесяціметровыя мачты.

Вось Іосіф Сцефановіч узняў руку:

— Падрыхтавацца!

Праходзіць секунда, другая. Зашалясцелі тросы, напяліся, бы струны. Стадваццацітонная аграмадзіна капра ажыла, пачала непрыкметна ўзнімацца ўгару.

Пархімчык, Сакалоў, Ісаеня, Кажадуб і Бранавіцкі пільна сочаць за рухам стальной махіны, зманціраванай іхнімі рукамі. Яны сёння трымаюць першы экзамен перад землякамі, а іх навакол сабралася многа.

Капёр павольна ўзнімаецца ўсё вышэй і вышэй і, нарэшце, — стоп! Магутныя трактары выроўніваюць канструкцыю. І зноў запрацавалі лябёдкі.

Больш як дзве гадзіны цягнуўся пад'ём. Гэта быў на дзіва кароткі тэрмін. Саракасяміметровая канструкцыя прыняла вертыкальнае становішча. Велізарныя балты змацоўваюць яе з падмуркам. Адразу ж апрабавалі клець; пайшлі сваёй чаргой вагонкі з сільвінітам...

Шахцёрам больш не давядзецца крыўдаваць на пад'ёмнікі. Паспявай толькі нагружаць вагонкі. Клеці імгненна выхопліваюць іх «нагара». На загрузцы клецяў працуе Уладзімір Кароткі, які тры гады назад прыйшоў на будоўлю рознарабочым, потым стаў мулярам. Яго пацягнула ў шахту. Неўзабаве яго мара збылася.

Уладзімір, як і ўсе шахцёры, ганарыцца сваёй спецыяльнасцю. Па выхадных днях бывае ў маці ў Старобіне і з ахвотай расказвае пра шахту сваім аднагодкам.

— Вось і нам бы туды... — зайздросцяць сябры. — Памажы, братка, калі можаш.

Уладзімір усміхаецца. Раіць хлопцам паступіць у горнамеханічны тэхнікум. Адтуль у шахту трапіць вельмі проста.

Памочнік начальніка ўчастка Сцяпан Вераб'ёў цёпла развітваецца з Уладзімірам і ідзе да камбайна Мікалая Мацюшына, таго, што замяніў Андросава. Чарнявы, з дапытлівым позіркам цыганскіх вачэй, Мікалай на першы погляд робіць уражанне суровага чалавека. Але гэта так толькі здаецца. Варта загаварыць з ім, як вы пераконваецеся, якой шчырай душы гэты чалавек.

Мацюшын і раней у экіпажы Андросава быў за памочніка машыніста. Цяпер камбайн даручылі Мікалаю. Балюча перажываў гэта Андросаў, але рашэння калектыву змяніць не мог.

— Ты сам вінаваты, — гаварыў Андросаву яго брат Віктар. — На хлопцаў крыўдаваць няма чаго...

— Ведаю, але з сабой цяжка саўладаць.

— А ты вазьмі сваю волю ў рукі. У рабоце ўсякая рана загоіцца.

Лёгка сказаць «загоіцца». Андросаў нікому ні слова не сказаў, што яму прыйшлося перажыць. Зрабіў для сябе вывады — і ўсё. Цвёрда рашыў адно: нікуды адсюль не ехаць. Сам зрабіў памылку, сам і выпраўляць яе будзе.

А Мікалай Мацюшын? Чым ён заслужыў давер'е калектыву? Сваёй сціпласцю і шчырасцю. Што ведае — падзеліцца з таварышамі. У экіпажа не меншая выпрацоўка, чым раней, пры Андросаве. Шахцёры берагуць камбайн, дружаць між сабой.

— Добрыя хлопцы, — гаворыць пра мацюшынцаў памочнік начальніка ўчастка Сцяпан Вераб'ёў. — З імі лёгка працаваць. З імі і перакоўваць такіх, як Андросаў, можна!..

— Гэй, дарогу!

Цяснімся да сцяны, каб прапусціць «каляску». Яна — незвычайная, на чатырох моцных колах, з шырокай пляцоўкай, на якой ляжаць груваcткія дэталі. З іх будзе зманціраваны сёмы камбайн.

— Грыша, здароў! — фатакор

**Камсамольска-маладзёжная брыгада горнапраходчага камбайна, якой кіруе Мікалай Мацюшын.**

Фота **У. Дагаева.**



газеты Дубоўскі ледзь не абдымаецца з шахцёрам.

Грыша Лопан, высокі, шыракаплечы, павольна паварочваецца на голас, і твар яго асвятляецца ўсмешкай.

— Здароў, дэзерцір, — і падае сваю «лапішчу».

Лопан і Дубоўскі — тутэйшыя, старобінцы. Разам закончылі горны тэхнікум, працавалі на шахце ў Данбасе. Але што зробіш, пацягнула іх у родны кут. Лопан адразу падаўся ў шахту, а Дубоўскі — у газету. Таму і жартуе сябар, называючы яго «дэзерцірам».

— Збірай хутчэй камбайн і мяне бяры ў памочнікі, — Дубоўскі гаворыць ні то жартам, ні то сур'ёзна.

— А сваіх хлопцаў куды дзену? Думаеш, яны горшыя за цябе? — І ўжо сур'ёзна: — Прабач, няма калі, пасля пагаворым...

Колькі крокаў ідзём моўчкі. Потым Дубоўскі ціха гаворыць:

— Рукі просяцца, а здароўе не дазваляе. Можа, пазней...

Вераб'ёў кладзе Дубоўскаму руку на плячо, прыцішвае крок:

— У нас, сам бачыш, не тое, што ў Данбасе. Чыста, цёпла, свежасць. Метро, адным словам!..

— Тры гады працаваў на шахтах, — гаворыць Дубоўскі, — а плакаты на чырвоных палотнішчах убачыў толькі тут. Не раўняючы, як у добрым доме культуры.

— Праз год не такое можна будзе ўбачыць. Так што не марудзь, гайда да нас! Свой хлопец — прымем...

... Наверсе нас асляпіла сонца. Да капра ішлі талакой гарнякі. У шахцёрскай напратцы ўсе аднолькава выглядалі волатамі. Такім усё па плячу! Міжволі прыпамінаюцца словы паэта-земляка:

Старога Старобіна ўнукі
Гісторыю новую пішуць.

Яны ўжо напісалі нямала слаўных старонак. А колькі яшчэ напішуць!

**Сцяпан КУХАРАЎ**

# РОЗДУМ КАЛГАСНАГА ЭКАНАМІСТА

### З сельскага дзённіка

У кабінет старшыні калгаса, дзе мы гутарылі з сакратаром парткома Леанідам Чыжом, увайшоў русавалосы малады чалавек. Павітаўшыся, ён сціпла сказаў:

— Я вам патрэбен?... Калі ласка. З чаго пачнем?..

Гэта — Мікола Марціновіч, калгасны эканаміст. Нядаўні выпускнік Мінскага інстытута народнай гаспадаркі. Яму дваццаць чатыры гады — узрост камсамольскі, і Міколу вясковыя камсамольцы выбралі сваім важаком. Згадзіўся ён узначаліць і народную дружыну ў калгасе імя Леніна.

Па звычцы я выцягнуў з кішэні блакнот, але глянуў на Міколу і схаваў. На яго твары нібы было напісана: «І носіць жа вас нячысцік, якраз работы па горла...»

— Можа вы цяпер заняты, дык увечары сустрэліся б...

— Так, вельмі заняты, — павесялеў Мікола. — Заканчваю гадавыя вытворчыя заданні брыгадам. Потым жа заўтра маецца ў Капылі быць нарада старшынь. Мне прапанавалі прачытаць даклад, дык трэба тэзісы накідаць... Па гаспадарчаму разліку... А ўвечары — калі ласка. Камфорту асаблівага не абяцаю, але ложак у мяне вольны ёсць. І бульбы гаспадыня насмажыць...

Мікола ўсміхнуўся — ціха, стрымана, але ў задуменных, строгіх вачах бліснулі цёплыя, шчырыя агенькі. І адразу выйшаў, відаць, на сваё рабочае месца.

Потым было пасяджэнне праўлення. Мікола сядзеў моўчкі, насуплены, толькі з-пад нахмураных броваў паблісквалі вялікія шэрыя вочы. Аднак адчувалася, што міма яго ўвагі не праходзіла ні адна дробязь з таго, пра што ішла гаворка на гэтым пасяджэнні.

Ужо ў хатах даўно гарэлі вячэрнія агні, калі мы зайшлі да калгасніка Пятра Цвіркі, дзе Мікола займае другую палавіну хаты — прасторны пакой. Мікола ўключыў электрычнае святло, прыглушыў радыёдынамік. Усаджваючы мяне да стала, які быў завалены кніжкамі і газетамі, Мікола зноў пажартаваў:

— Я ж казаў, што не абяцаю камфорту...

І зноў напомніў, што яму трэба яшчэ будзе папрацаваць гадзінку-другую... То, маўляў, трэба не траціць часу...

Спачатку, як звычайна, гаварылі пра тое, хто адкуль ды як жывецца тут, на новым месцы. Гаворка не надта каб клеілася. Але з першай сустрэчы адчувалася, што Мікола — шчыры, таварыскі хлопец.

Я ўжо ведаў, што Мікола прыехаў у калгас з горада. У Мінску ў яго бацькі свой дом. Закончыўшы інстытут на выдатна, Мікола мог бы ўладкавацца планавіком на прадпрыемстве. Але з Капыля, з калгаса імя Леніна, прыехаў старшыня Іван Мацвеевіч Лаўруковіч, у якога былі Міколавы сябры-аднакурснікі на практыцы і хвалілі калгас, — і Мікола даў згоду. Знаў я ўжо і пра тое, што ў Міколы часам узнікае думка-злосніца: «Кідай вёску, не век табе тут жыць. І выхад ёсць законны: у аспірантуру запрашаюць». Ды і бацька прыязджаў, упрошваў старшыню: «Я сам хворы чалавек. А дома няма каму быць за гаспадара...»

— Але ж работа, — Мікола задумліва цярэбіць абедзвюма рукамі жорсткую, густую чупрыну. — Цікавая работа, якая і мне па душы, і во як патрэбна людзям. Вясковым людзям, якіх я паспеў палюбіць гэтак жа, як і сваю першую ў самастойным жыцці работу!..

Мікола ажывіўся, з юнацкім захапленнем пачаў расказваць пра сваю працу эканаміста. Часам ён папярэджваў: глядзіце, гэта не запісвайце ў блакнот, гэта не параблытайце... А потым, разгаварыўшыся, не турбаваўся пра тое, што з яго расказа трапіць у друк. Яму, відаць, прыемна было ад таго, што яго ўважліва слухаюць, і ён гаварыў і гаварыў.

— Гаспадарчы разлік, — натхніўшыся, расказваў Мікола, — гэта тое новае, што цяпер прынесла жыццё ў калгасы. Раней лічылася, што ў калгасе нельга ўвесці гаспадарчы разлік, таму што ў гаспадарцы заўсёды былі страты, нерэнтабельнасць, мноства цэн... Цяпер цэны ў нас адзіныя, прынцып самаакупляемасці становіцца законам гаспадарання па-новаму....

Прыехаўшы ў калгас, Мікола адразу пачаў знаёміцца з гаспадаркай. Яго па брыгадах вазіў сам старшыня. Заадно вучыў сваёй хватцы: «Ты, браток не саромейся. Калі што якое, бярыся смела, дзейнічай цвёрда — і ўсё: інакш заклююць, не паглядзяць, што ты — эканаміст!»

Малады спецыяліст, на першым жа часе адчуў, што ў яго не хапае ведаў, якія яму патрэбны для практычнай работы. У інстытуце

яго вучылі, як планаваць гаспадарку ў межах вобласці, рэспублікі, краіны. А такой, здаецца, простай рэчы, як скласці вытворчае заданне для паляводчай брыгады, не навучылі. Прыйшлося зноў засесці за кнігі і за даведнікі.

Але адна справа спланаваць, зрабіць патрэбныя разлікі, і другая — даць гэтым планам жыццё, дамагчыся, каб яны сталі законам працы па-новаму. Першае, што з'явілася перашкодай на шляху ўкаранення гаспадарчага разліку — прымітыўны ўлік, які вёўся ў калгасе.

Пачалі з учотчыкаў. Для вядзення ўліку працы ў брыгадах, на фермах падабралі ініцыятыўных, пісьменных людзей з ліку камсамольцаў з сярэдняй адукацыяй. Эканаміст пасадзіў іх і пачаў вучыць, як правільна весці ўлік. А былі і такія, што нават не ўмелі як след карыстацца лічыльнікамі.

Потым на парадак дня сталі нормы выпрацоўкі. Колькі тут давялося папрацаваць, пакуль усё ўвайшло, як кажуць, у каляіну. І, напэўна, яшчэ зроблена не ўсё. Мне прыгадаліся спрэчкі на гэтым жа пасяджэнні. Абмяркоўваліся новыя нормы аплаты працы кавалям. Усё ішло добра, пакуль не загаварылі пра хвалюючае. Старшыня сказаў, што настала неабходнасць змяніць парадак аплаты працы кавалям, і тут жа заварушыўся адзін з членаў праўлення: «Тады няхай іншыя працуюць. Мне лепей тады ў возчыкі». Гэта, аказваецца, быў каваль з трэцяй брыгады Іван Гурыновіч. Ён і заяву падрыхтаваў, на ўсякі выпадак, каб пастрашыць праўленцаў. Але яны былі цвёрдыя: «Эканаміст падлічыў. Яго прапанова абгрунтаваная». Новы парадак аплаты быў прыняты. І, між іншым, змянілі нормы не толькі кавалям, але і конюхам, і даяркам, і свінаркам...

— Аплата працы, укараненне правільных норм выпрацоўкі — самае хвалюючае пытанне, — прыпаліўшы папяросу, гаварыў Мікола. — І на сакавіцкім Пленуме ЦК КПСС падкрэслівалася думка, якую не адзін раз выказваў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, што за лепшую працу павінна быць і лепшая плата. Мы робім усё, каб праца людзей была своечасова і правільна ўлічана і каб аплата з'яўлялася стымулам, належнай узнагародай чалавеку за яго працу.

Іншы раз і сёння ў калгасе можна пачуць дакорлівае: «Эканаміст зрэзаў». Бывае, часам, і старшыня калгаса, каб адмахнуцца ад «пакрыўджанага», няўцям кіне: «Гэта ж не я, гэта эканаміст». Але Мікола ўпэўнены, што і старшыня, і камуністы, і камсамольцы, і ўсе сумленныя калгаснікі падтрымаюць яго, як падтрымлівалі і дагэтуль. Усім становіцца ясна, што ўзровень заработнай платы не павінен перавышаць узровень прадукцыйнасці працы.

А эканаміст, калі спатрэбіцца, будзе стаяць з гадзіннікам у руках ля новай машыны, сядзе з трактарыстам на трактар, не палічыцца з часам, не спалохаецца дакорлівых позіркаў, каб толькі людзі, з якімі ён працуе, пераканаліся, што ў новых умовах нельга гаспадарку весці як папала.

Два гады як у калгасе дзейнічае гаспадарчы разлік. Што гэта дало?

Мікола коратка пералічвае:

— Павысілася прадукцыйнасць працы. Знізіліся затраты на адзінку прадукцыі. Палепшылася рэнтабельнасць, таварнасць гаспадаркі...

Перагортваючы лісткі-тэзісы свайго новага даклада, з якім ён выступіць у раёне перад старшынямі калгасаў, Мікола паказвае табліцу, якая характарызуе рост эканомікі гаспадаркі:

— Звярніце ўвагу, — падкрэслівае эканаміст, — што ўжо ў 1961 годзе ў нас усе віды прадукцыі рэнтабельныя. Скажам, на адзін цэнтнер збожжа ў 1958 годзе было затрачана 3,6 працадня, а ў 1961 годзе — 0,9; на адзін цэнтнер кукурузнага сіласу — адпаведна: 1, 2 і 0,2; на адзін цэнтнер малака — адпаведна: 9,3 і 2,3 працадня; мясаялавічыны — адпаведна: 74,1 і 24. У параўнанні з 1958 годам значна знізіўся сабекошт прадукцыі. Страты цярпім пакуль што ад свініны. Адзін цэнтнер свініны ў мінулым годзе каштаваў 101 рубель. Гэта вышэй, чым было прадугледжана планам. Аднак калі параўнаць з 1958 годам, то і яе сабекошт зменшыўся на 65 рублёў 30 капеек. З гэтага бачна, што галоўная мэта гаспадарчага разліку — выявіць усе рэзервы калгаснай вытворчасці — ажыццяўляецца і перамажа. Абавязкова пераможа!..

Ужо каторы раз гаспадыня адчыняла дзверы: бульба стыне! Але Мікола, разгаварыўшыся, махаў рукою: потым! Ён узяў з пачка новую папяросу, зацягнуўся моцна, з узрушанасцю. Адчувалася, што на душы ў яго ёсць нешта набалелае, якое нельга не выказаць. Але нешта чалавека стрымлівала. Напэўна, звычайнае пры нечаканым знаёмстве пачуццё: «Ці варта гаварыць пра ўсё чалавеку з першай сустрэчы?» Памаўчаўшы, нібы збіраючыся з думкамі, Мікола працягваў:

— Хачу вам нарэшце сказаць наогул пра эканаміста ў калгасе, бо такая адзінка з'явілася нядаўна. Хаця непасрэдна пра яго не ўспаміналі на апошнім, сакавіцкім Пленуме ЦК КПСС, але ва ўсіх матэрыялах пленума чырвонай ніткай праходзіць думка: навучыцца гаспадарнічаць, умець лічыць калгасную капейку, дамагчыся найбольшай колькасці прадукцыі на кожным гектары пры найменшых затратах. А хто гэта ўсё сплануе, падлічыць? Канешне, эканаміст! Вазьміце, да прыкладу, мяне. Два гады я раблю ў калгасе і, калі шчыра сказаць, не ведаю дакладна свае абавязкі. Ніхто эканамістаў не вучыць, не збірае, каб абмяняліся вопытам. Скажам, мы ў сваім калгасе навучыліся планаваць вытворчыя заданні брыгадам. Планаваць умеем — гэта добра. Але калгасны ўлік вядзецца па-старому. І кадры, асабліва брыгадзіры, яшчэ не падрыхтаваны да таго, каб справіцца з тымі новымі, адказнымі задачамі, якія цяпер ускладзены на гэтае звяно арганізатараў арцельнай вытворчасці. І выходзіць, што практычна мы не можам дакладна падлічыць сабекошт прадукцыі ў брыгадзе. Працуем, а падлічыць не ўсё ўдаецца, таму што не ўсюды ў брыгадах вядзецца ўлік затрат па культурах, па відах работ. Трэба, каб усё гэта ведалі і бухгалтары, каб яны вялі ўлік па-новаму. А яны не ўмеюць. Усе спецыялісты павінны быць зацікаўлены ў вядзенні гаспадаркі на навуковай аснове. У нас жа ўсё гэта спіхваюць на аднаго: «Ёсць эканаміст — і няхай улічвае». Эканаміст часта робіць тое, што павінен рабіць кожны ўчотчык. Пачалі прыходаваць кармы — ідзі, эканаміст; абмяраюць бурты сіласу — зноў жа яго пасылаюць. Гэтай «цякучкі» столькі, што няма часу падумаць, прааналізаваць будні гаспадаркі, планы яе развіцця, кінуць позірк на колькі гадоў наперад. А як жа інакш?.. Эканаміст — не просты рахункавод. Ён — творчы работнік!

Мікола ўстаў, прайшоўся па пакоі, затушыў папяросу, кінуў у попельніцу.

— Я ніколі не згадзіўся б, каб эканаміст быў проста — рахункавод ці бухгалтар, — і тут жа, спахапіўшыся, дадаў: — Але ж і засядзеліся мы. Сапраўды, бульба там недзе стыне. Можа, павячэраем?..

Пасля вячэры мы яшчэ доўга гаварылі.

— Я вам сказаў пра рэзервы, — перабіраючы нейкія свае запісы, пачаў Мікола. — І ў нашым калгасе ёсць яны. І яшчэ якія! Вазьміце механізацыю. Скажам, у жывёлагадоўлі. Вось вам самы свежы прыклад. На ферме ў Сунаях, дзе даяркі, нядаўнія дзесяцікласніцы, ужо заваявалі званне калектыву камуністычнай працы, перайшлі на механічнае даенне. Сабекошт малака знізіўся ў два разы. Вызваліліся людзі, якія пайшлі на іншыя важныя работы. Але ж на іншых фермах даенне вядзецца яшчэ ўручную — трэба і тут у бліжэйшы час пусціць даільныя ўстаноўкі. Поўнасцю будзе механізавана падача і прыгатаванне корму. Усё гэта — дадатковыя магчымасці вялікага

малака. Не сумняваюся, што ўзятыя абавязацельствы — па надою малака 390 цэнтнераў і мяса 70 цэнтнераў на 100 гектараў ворнай зямлі — будуць выкананы. І сабекошт прадукцыі, упэўнены, будзе ніжэй, чым у мінулым годзе. Нашы сацыялістычныя абавязацельствы — рэальныя, яны грунтуюцца на дакладным, грунтоўным падліку. Мы бярэм, як і раіў М. С. Хрушчоў на нарадзе перадавікоў сельскай гаспадаркі ў Мінску і ў дакладзе на Пленуме ЦК КПСС, стаўку на кукурузу, цукровыя буракі, гарох і салодкі лубін. Яны дадуць магчымасць ужо ў гэтым годзе мець дастаткова разнастайных кармоў, бо маюць найбольшую колькасць кармавых адзінак. Кармы ў нас па сабекошту ўжо ў 1961 годзе былі не дарагія, а сёлета будуць яшчэ дзешавейшыя. Калі будуць кармы, будзе мяса і малако. Якім чынам нам удасца падзешавіць свініну? Папершае, далейшай спецыялізацыяй свінагадоўлі; па-другое, зніжэннем сабекошту кармоў. Разлікі паказваюць, што мы ўжо сёлета будзем мець два кормнікі на тры гектары ворыва — гэта значыць, мы адкормім звыш 1700 свіней. За гэтую справу ўзялася камсамолка Соф'я Мяцяж. Думаю, што дзяўчына справіцца. Нашы ўсе камсамольцы — працавітыя, настойлівыя. Задачы, пастаўленыя партыяй перад сельскай гаспадаркай, ім па сіле.

Мікола ўзяў у рукі газету з рашэннямі сакавіцкага Пленума ЦК КПСС, сеў бліжэй да святла.

— Вось паслухайце, — прагаварыў ён, — што напісана ў пастанове Пленума ЦК наконт таго, як трэба весці гаспадарку, — і ўголас, з роздумам прачытаў: — «Пленум Цэнтральнага Камітэта заклікае кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі, брыгадзіраў, загадчыкаў ферм весці гаспадарку беражліва, эканамічна. Трэба правільна падбіраць культуры па іх кармавых вартасцях, лічыць, колькі кармавых адзінак дае тая ці іншая культура на гектар ворнай зямлі і на ўкладзеную працу. Толькі пры такім падыходзе можна разумна весці гаспадарку, забяспечваць няспынны рост вытворчасці прадукцыі, бачыць перспектыву развіцця калгаса і саўгаса».

— Якраз не ў брыво, а ў вока эканамісту?..

— Правільна, — ад нечаканасці збянтэжыўся Мікола і тут жа разважліва дадаў: — Я лічу, што гэтыя словы сапраўды звернуты і да эканамістаў. Яны не павінны калупацца ў дробязях і «цякучцы», а глядзець наперад, бачыць перспектыву развіцця гаспадаркі. Чытаючы матэрыялы Пленума ЦК КПСС, я цяпер усё больш задумваюся над тым, якім будзе наш калгас імя Леніна праз два-тры гады, к канцу сямігодкі. І не проста думаю, а саджуся за стол і пачынаю лічыць. За лічбамі, якія паўстаюць перада мной, бачны наш заўтрашні дзень, дастатак у дамах калгаснікаў, урадлівыя палі, добраўпарадкаваныя фермы, сады і агароды!..

Мікола зноў устаў, прыпаліў папяросу, нечакана сказаў:

— Хочаце, заўтра я пакажу вам свае разлікі, над якімі цяпер корпаюся...

— А як жа горад?.. Бацькі цябе, Мікола, дадому просяць...

— Глядзіце! — насцярожыўся Мікола, — вось дзіўна было б: моладзь цяпер па закліку партыі едзе ў вёску, у калгасы, а я — назад, з вёскі... Не, гэта не ў маім характары!..

... Было ўжо за поўнач, а на стале ў Міколы свяцілася лямпагрыбок. Ён дапісваў свой даклад пра гаспадарчы разлік у калгасах.

**Калгас імя Леніна Капыльскага раёна.**

## *Слаўны юбілей піянерыі*

## *1922 — 1962*



Выдатніца вучобы Людміла Прыганава.

# ПРА ЛЮДУ, НАТАШУ, ВОВУ І ІХ ТАВАРЫШАЎ

У настаўніцкую заглянула дзяўчынка. Яна шукала сваю настаўніцу.

— Гэта Наташа Голышава, — сказала завуч, — старшыня савета атрада чацвёртага «А» класа. Цікавы чалавек.

Міжволі падумалася: «Зусім жа яшчэ дзіця, гэта Наташа, а глядзі ты — ужо цікавы чалавек!»

— Наташа — добры таварыш, шчыры і патрабавальны. Загляньце ў яе клас, — параіла завуч.

На высокіх белых дзвярах — сціплая таблічка: «Тут вучыцца атрад «Спадарожнік сямігодкі».

... У класе сядзіць некалькі вучняў, а Наташа стаіць з крэйдай у руцэ ля вялікай, амаль на ўсю сцяну, чорнай дошкі і звонкім голасам тлумачыць рабятам, якія памылкі яны дапусцілі, рашаючы задачу. Слухаюць яе ўважліва.

Вову Сакаеву «цяжка даецца» мова. І вось побач з ім, разгарнуўшы сшытак, сядзіць Люда Сянкевіч. Трымаючы ў руцэ вуч-



**Ініцыятары новага руху спадарожнікаў сямігодкі.**

нёўскую ручку з надгрызеным, як у многіх, кончыкам, яна ўважліва чытае тэкст. Людзе радасна, што Вова напісаў дыктоўку лепш, чым на ўроку ў школе. Значыць, дапамога яе пайшла на карысць.

У класе шмат кветак. На вокнах беласнежныя фіранкі. Парадак і чысціня стала для рабят з атрада «Спадарожнік сямігодкі» такой жа неабходнасцю, як, скажам, вучыцца без дрэнных і пасрэдных адзнак.

Мы застаемся ў прасторным сонечным класе з Наташай і Людай. Дзяўчынкі расказалі шмат цікавага пра справы свайго атрада, які змагаецца за званне «Спадарожніка сямігодкі».

Наташа паказала тоўсты сшытак — «Летапіс класа». У гэтым «летапісе» расказваецца, як піянеры чацвёртага «А» ў гонар з'езда сабралі без малога паўтоны металалому, шмат макулатуры. У класе створаны куток прыроды. Ёсць свая самадзейнасць. Рабяты з хваляваннем рыхтуюцца паказаць сваю праграму...

На наступнай старонцы расказана пра акцябрат. Малышам паказвалі канцэрт і гэтым вельмі іх парадавалі. Перад Новым годам піянеры прыйшлі да малышоў і разам майстравалі ёлачныя цацкі. Думаеце, дрэнныя атрымаліся цацкі? Не горшыя за фабрычныя.

На адной з перадапошніх старонак «Летапісу» расказваецца пра вынікі работы класа за тры чвэрці навучальнага года. Чацвёрты год сямігодкі — год вялікіх здзяйсненняў. У чацвёртым «А» няма адстаючых вучняў. Растуць рады круглых выдатнікаў. Наперадзе іх Люда Сянькевіч, Жана Мажэйка, Наташа Голышава, Вова Шустаў.

**М. САВІЧ**

г. Мінск
10-я сярэдняя школа.



**Тася Пуроўская чытае сябрам расказы аб Леніне.**
Фота **С. Чырэшкіна.**



# ПЕРШЫ ВАЖАТЫ

Гэта было ўлетку 1922 года. У мястэчка Журавічы на канікулы прыехала некалькі студэнтаў. Сярод іх былі камсамольцы. Гуляючы па ціхіх местачковых вулічках, яны горача і ажыўлена расказвалі аб справах сваіх ячэек. Хтосьці загаварыў пра піянераў. Студэнт, які прыехаў з Масквы, выбег уперад і падняў рукі, маўляў: «Стойце!»

— Хто-небудзь з вас бачыў піянераў?!

Сябры маўчалі.

— Гэта цудоўнае відовішча! Уявіце сабе: крочыць па вуліцы піянерскі атрад пад барабанны пошчак... Гучыць песня... У дзяцей чоткі роўны крок, высока ўзнятыя галовы. Слова гонару, — гэта трэба бачыць...

У той жа дзень на пасяджэнні мясцовай камсамольскай ячэйкі з удзелам студэнтаў было вырашана: стварыць у Журавічах піянерскі атрад. Даручылі гэтую справу студэнту Іосіфу Кароткіну.

Атрад ствараўся не школьны, а агульнаместачковы. Іосіфу, якога прызначылі важатым будучага атрада, і яго таварышам прыйшлося нялёгка. Многія бацькі не дазвалялі дзецям уступаць у піянеры. Камсамольцы хадзілі па хатах, угаворвалі іх: «Гэта ж робіцца для вашых дзяцей. Вы павінны радавацца, а не пярэчыць». Некаторых удалося пераканаць. Калі атрад пачаў ствараца, заварушыліся і ўзнялі галовы багатыя крамнікі і рэлігійныя фанатыкі. Яны праклінáлі камсамольцаў, пагражалі піянерам і іх бацькам.

Нягледзячы на цяжкасці, піянерскі атрад, адзін з першых у краіне, быў створаны. У яго ўступіла трыццаць хлопчыкаў і дзяўчынак. Не было ні сцяга, ні барабана, ні горна. Праўда, барабан быў хутка «знойдзены». Дасталі рэшата, абабілі яго з двух бакоў фанерай, выстругалі палачкі. І хутка гулкі барабанны пошчак



**Нямала гадоў прайшло з таго часу, як Іосіф Ісаевіч працаваў першым важатым. Цяпер ён — вучоны.**
Фота **М. Малішэўскага.**

разбудзіў цішыню мястэчка — па вуліцы крочыў піянерскі атрад.

Першыя зборы піянеры праводзілі ў невялікім сасновым ляску. Распальвалі кастры, развучвалі песні. Часта шчыльным кружком збіраліся ля важатага і прасілі: «Раскажыце нам што-небудзь». Іосіф расказваў. Пра рэвалюцыю. Пра герояў грамадзянскай вайны. Пра будаўніцтва новага жыцця ў краіне. Асабліва любілі слухаць малыя расказ важатага пра тое, як яму ў 1919 годзе пашчаслівілася бачыць Уладзіміра Ільіча Леніна ў час святкавання другой гадавіны Кастрычніка, на Краснай плошчы ў Маскве.

Ішоў час. Міналі гады і дзесяцігоддзі. А што калі напісаць гісторыю дружыны? — задумаліся піянеры Журавіцкай школы.

Мала-памалу ўдалося знайсці некалькі былых піянераў. Ад іх даведаліся, што піянерская арганізацыя ў Журавічах — ледзь не самая старэйшая на Рагачоўшчыне, што першыя зборы піянерскага атрада праводзіліся пад кіраўніцтвам студэнта-камсамольца ў сасновым ляску за мястэчкам. А дзе ж ён, той лясок? Яго знішчылі немцы ў час вайны. А як склаўся лёс тых, хто ствараў

піянерскі атрад? Лёс першага важатага? Дзе ён цяпер?

Піянерам пашанцавала. Два гады таму назад у школу, на імя савета піянерскай дружыны, прыйшло пісьмо з ленінградскім штэмпелем. Аўтарам яго быў не хто іншы, як былы важаты першых журавіцкіх піянераў Іосіф Ісаевіч Кароткін.

«Дарагія піянеры! — пісаў ён. — Сёлета, калі спаўняецца дзевяноста гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна, будзе асабліва ўрачыста адзначацца гадавіна стварэння піянерскай арганізацыі. Таму я і рашыў расказаць вам, калі і як узнікла журавіцкая піянерская арганізацыя, якая з'яўляецца адной са старэйшых у нашай краіне...

Былыя піянеры — цяпер пажылыя людзі. Сярод іх ёсць спецыялісты, якія працуюць у розных галінах народнай гаспадаркі. Некаторых я сустракаю ў Ленінградзе.



Ёсць аб чым рапартаваць былому першаму важатаму.

Усе мы з задавальненнем успамінаем лета 1922 года і свой піянерскі атрад.

Я да 1925 года вёў піянерскую работу ў Ленінградзе. Пасля меў ужо камсамольскія, а затым — партыйныя даручэнні.

Вас, пэўна, цікавіць, кім стаў першы важаты Журавіцкага піянерскага атрада. Адразу ж адкажу. Цяпер я старшы навуковы супрацоўнік Інстытута фізіялогіі імя акадэміка Івана Пятровіча Паўлава, у лабараторыях якога я пачаў працаваць яшчэ пры жыцці вялікага рускага фізіёлага...»

Разам з пісьмом вучні атрымалі кнігу, прысвечаную гісторыі горада-героя, горада, які быў калыскай Кастрычніцкай рэвалюцыі. «Можа быць, — пісаў аўтар пісьма, — дзеці захочуць яе вывучыць і падзяліцца сваімі ўражаннямі на зборах атрада». Пісьмо заканчвалася піянерскім заклікам: «Да барацьбы за справу Леніна будзьце гатовы!»

Піянеры напісалі пісьмо свайму першаму піянерважатаму пра сваю вучобу, пра тое, як працуюць у школьнай вытворчай брыгадзе, як шэфствуюць над дзіцячым садам і домам інвалідаў, як удзельнічаюць у конкурсе на лепшы верш і лепшы дзіцячы малюнак. Гэты чыстасардэчны расказ дзяцей парадаваў Іосіфа Ісаевіча. Яму, аднаму з першых камсамольцаў і першаму важатаму атрада, цяпер камуністу і савецкаму вучонаму, вельмі хочацца ведаць, кім растуць, як нясуць эстафету пакаленняў сённяшнія журавіцкія піянеры.

«Вашы прывітанні і добрыя пажаданні, — звяртаецца Іосіф Ісаевіч да дзяцей у наступным пісьме, — вельмі парадавалі мяне. Вашы добрыя пачуцці будуць служыць дадатковым стымулам для захавання бадзёрасці і працаздольнасці».

Пісьмы былога важатага прасякнуты бацькоўскай цеплынёй і добразычлівасцю.

Па праву старэйшага таварыша і былога важатага ён напамінае дзецям пра іх абавязкі, пра слаўныя піянерскія традыцыі. У адным з пісем ён звяртаецца да піянераў: «Вы можаце, зразумела, ганарыцца, бо ваша дружына — адна з самых старэйшых у краіне, таму што яна ўзнікла ў першы год стварэння піянерскай арганізацыі. Але гэта, як вы разумееце, не толькі гонар для вас. Гэта яшчэ накладвае на вашу дружыну абавязак быць вартай не толькі звання старэйшай, але і адной з лепшых і актыўных дружын».

Некалькі гадоў назад Іосіф Ісаевіч Кароткін быў у сваіх родных Журавічах. Захацелася яму паглядзець і на той сасновы лясок над рачулкай Жураўлянкай, дзе ён распальваў з першымі піянерамі кастры і развучваў песні. Але там была пустэча. І вось Іосіф Ісаевіч параіў піянерам: «Можа быць, ваша дружына, — пісаў ён, — узяла б на сябе ініцыятыву і дамовілася з калгасам аб тым, каб на месцы былога бору зноў пасеяць насенне сасны і вырасціць новы бор. Гэта быў бы цудоўны падарунак калгасу, жыхарам мястэчка і вам самім. Разам з вамі вырас бы цудоўны парк, якому можна было б прысвоіць імя юных ленінцаў».

Вучні адгукнуліся на гэтую прапанову. Камсамольцы і піянеры школы, у прыватнасці старшая піянерважатая Ганна Сіліна зрабілі ўсё, каб сёлета пасадзіць лес. Яны ўжо дамовіліся з праўленнем мясцовага калгаса, з лясніцтвам. Пройдзе час, і зноў зашуміць за мястэчкам сасновы барок. Нібы той, дзе першыя журавіцкія піянеры праводзілі зборы пад кіраўніцтвам свайго важатага камсамольца Іосіфа Кароткіна.

**А. ВЯРЦІНСКІ.**

Рагачоўскі раён.

# ЛЕНА СТЭМПКОЎСКАЯ



Герой Савецкага Саюза Алена Стэмпкоўская.

У рэзалюцыі, якую прынялі на сваім сходзе студэнты Ташкенцкага педінстытута імя Нізамі, гаварылася: «У ліпені 1941 года студэнтка нашага інстытута камсамолка Алена Стэмпкоўская добраахвотна пайшла на фронт. У цяжкія асеннія дні 1942 года яна загінула ў баях з нямецкімі захопнікамі на берагах Волгі. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Алене Стэмпкоўскай пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Мы, студэнты-філолагі, якія сабраліся на сход у сувязі з пятнаццацігоддзем з дня яе смерці, просім Фрунзенскі райвыканком горада Ташкента перайменаваць адну з вуліц у вуліцу імя Алены Стэмпкоўскай. Просім таксама ўстанавіць мемарыяльную дошку на будынку інстытута, дзе яна вучылася...»

Цікавым, хоць і нядоўгім было жыццё піянерважатай, камсамолкі Лены Стэмпкоўскай. Нарадзілася яна ў вёсцы Мазуршчына Старобінскага раёна ў 1923 годзе. Тут


ГЕРОЮ СОВЕТСКОГО СОЮЗА

СОЮЗ СОВЕТСКИХ СОЦИАЛИСТИЧЕСКИХ РЕСПУБЛИК

Тов.

ЗА ВАШ ГЕРОИЧЕСКИЙ ПОДВИГ,

ПРЕЗИДИУМ ВЕРХОВНОГО СОВЕТА СССР СВОИМ УКАЗОМ от 1944 г. ПРИСВОИЛ ВАМ ЗВАНИЕ ГЕРОЯ СОВЕТСКОГО СОЮЗА

Председатель Президиума Верховного Совета СССР

Секретарь Президиума Верховного Совета СССР

№

скончыла пачатковую школу, стала піянеркай. У 1933 годзе бацькі Лены пераехалі ў Сярэднюю Азію. У саўгасе «Баяут» дзяўчынка скончыла сямігодку. Калі Лена была ў дзевятым класе, яе прызначылі атраднай важатай шасцікласнікаў. Гэта быў самы недысцыплінаваны і, як гаварылі настаўнікі, «цяжкі» клас у школе. Новая піянерважатая шчыра ўзялася за справу. Не прайшло і трох месяцаў, як шасцікласнікі перамяніліся.

«Аднойчы, — успамінае былая шасцікласніца Нэла Пятроўна Махава, — я захварэла. Кожны дзень наведвала мяне Лена Стэмпкоўская, частавала цукеркамі. Часта прысылала піянераў, каб яны тлумачылі мне хатнія заданні».

У 1940 годзе Лена Стэмпкоўская скончыла дзесяцігодку і паступіла на гістарычны факультэт Ташкенцкага педагагічнага інстытута імя Нізамі.

Прайшоў год. У суботу дваццаць першага чэрвеня Лена на «выдатна» здала экзамен па гісторыі партыі. Яшчэ адзін экзамен — і першы курс закончан. Тады яна абавязкова з'ездзіць у сваю родную Мазуршчыну. Вось што пісала Лена сваёй цётцы Таісе Змітраўне Селядцовай у Беларусь:

«... Здаю апошнія экзамены. Абавязкова прыеду да Вас на цэлае лета. А ці многа ягад у гэтым годзе?».

Але гэтаму не суджана было збыцца. Днём усе ў інтэрнаце былі на нагах. З рэпрадуктараў данасілася: «Цэнтральны Камітэт і Савецкі ўрад выказваюць цвёрдую ўпэўненасць і надзею, што ўвесь савецкі народ узнімецца на абарону любімай Айчыны!»

Некалькі дзён Лена хадзіла маўклівая і задумлівая. А раніцай чацвёртага ліпеня непрыкметна для сяброvак знікла з інтэрната. Па шумнай спякотнай вуліцы яна ішла ў ваенкамат.

«А што, калі адмовяць? — прамільгнула ў яе галаве. — Не, я буду патрабаваць».

— Па якому пытанню? — суха спытаў стомлены маёр.

— Я хачу паехаць на фронт.

— Ку-ды-ы-ы? — працягнуў ён, нарэшце, зірнуўшы на дзяўчыну.

— На фронт, — усё так жа спакойна адказала Лена.

— Заставайцеся лепш у педінстытуце і вучыце сваю гісторыю, — адказаў ваенны.

Доўга прасілася Лена. І маёр, нарэшце, здаўся. Лену накіравалі на курсы радыстаў.

... Горна-стралковы полк, куды трапіла радыстка Стэмпкоўская, займаў абарону на Сталінградскім напрамку. Лютыя маразы, завеі, цяжкія пераходы загартоўвалі характар дзяўчыны, напаўнялі сэрца нянавісцю да ворага.

З першых жа дзён на фронце яна праявіла сябе бясстрашным воінам. Аднойчы, мяняючы пазіцыю, батальён трапіў у акружэнне і залёг. Лена бачыла, як упаў паранены афіцэр Судач. Не гледзячы на страшэнны агонь ворага, дзяўчына вынесла камандзіра ў сховішча.

А потым пад абстрэлам фашыстаў яна прапаўзла больш двух кіламетраў, шукаючы абрыў тэлефоннага провада. Сувязь была адноўлена.

Часта камсамолка прасіла камбрыга Канстанціна Квітко:

— Перавядзіце ў аўтаматчыкі.

Але просьбы яе адхіляліся.

У тыя дні Лена пісала маці:

«Шчаслівая, што знаходжуся на перадавой, я, як толькі магу, абараняю Радзіму. Мне часта прыпамінаецца апавяданне Максіма Горкага пра Данка. Ён вырваў сваё сэрца з грудзей, і людзі змаглі знайсці дарогу ў цёмным лесе. Каб я магла асвятліць сваім сэрцам дзоты ворага, калі нашы байцы ідуць ноччу ў атаку, я зрабіла б так, як Данка».

Гэта здарылася ў памятныя кастрычніцкія дні 1942 года пад Сталінградам.

Падраздзяленне трапіла ў акружэнне. Пяць сутак бесперапынных баёў. І ўвесь гэты час радыстка Стэмпкоўская дзяжурыла са сваёю рацыяй на камандным пункце батальёна.

Ужо тры атакі адбілі нашы воіны ў гэты дзень. Калі гул боя ў чацвёрты раз прыблізіўся да каманднага пункта, Лена выйшла са сховішча. У канаве ляжалі параненыя байцы. Яна падбадзёрыла іх і сказала:

— Крычыце «ўра!». Памажыце таварышам, як можаце. Няхай немцы думаюць, што нас тут многа.

— Ура! — пракацілася навокал, надаючы сіл байцам, якія адбівалі атакі.

Немцы адышлі. Але хутка зноў палезлі ўперад. Лена вярнулася ў памяшканне каманднага пункта да рацыі. Вечарам спынілася сувязь са штабам палка. Лена разабрала рацыю — усё нармальна. Раптам яна ўбачыла немцаў, што беглі да яе. Вось яны ўжо зусім блізка. Лена бачыць іх перакошаныя раты, чуе нахабныя воклічы:

— Рус баба — капут!

«Не, не капут!» — сцiснуўшы зубы, прашаптала камсамолка. Разбіўшы рацыю, яна схапіла карабін і выбегла насустрач ворагам. Перад ёю выраслі тры постаці ў шэра-зялёных мундзірах. Некалькі стрэлаў — і шлях свабодны.

«Хутчэй да сваіх. Яны там, за ваколіцай акапаліся».

Дабегчы да сваіх Лена не паспела. Наперарэз ёй кінуўся гітлеравец і ўдарыў прыкладам. Дзяўчына страціла прытомнасць.

Усю ноч катавалі фашысты камсамолку, каб даведацца, што яна перадавала ў штаб. Але радыстка маўчала. Тады фашысты адсеклі ёй абедзве рукі, выразалі грудзі, а потым пачалі цягаць па вуліцы. Загінула Лена Стэмпкоўская, не сказаўшы немцам ніводнага слова.

... У зашклёнай вітрыне краязнаўчага музея, што створаны вучнямі нашай школы, ляжаць дакументы, якія расказваюць аб жыцці і подзвігу Лены Стэмпкоўскай. Вось фатакопія Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні нашай зямлячцы звання Героя Савецкага Саюза. Побач фатаграфіі.

У мінулым годзе піянеры-летапісцы нашай школы наведалі вёску Мазуршчына. Тут улетку працуе абласны піянерскі лагер. Піянеры сустрэліся з цёткай Лены Стэмпкоўскай Т. З. Селядцовай, запісалі яе расказ пра гераіню-камсамолку.

**В. ВАНЧУКЕВІЧ,**
кіраўнік краязнаўчага музея Чапляеўскай школы.

# СКУПЫЯ СЛОВЫ ЛЕТАПІСУ

Летапіс... Скупыя ягоныя словы. У летапіс заносяць толькі самае галоўнае — тое, што мела ў момант запісу найбольшае значэнне.

Ёсць летапісы, якія складаюцца стагоддзямі. А ёсць і «маладзейшыя». Вось адзін з гэтых «маладзейшых» — летапіс слаўных спраў піянераў дружыны імя Аляксандра Матросава. Першыя радкі ў яго былі ўпісаны рукамі піянераў і камсамольцаў Гродзенскай сярэдняй школы № 6 дзесяць гадоў назад. І калі ў летапісе засталіся толькі кароткія



Вучні 8-га «А» ўжо самі складаюць тэхналагічныя карты, працуючы ў токарным цэху.

звесткі, то ў жыцці былі цудоўныя справы маленькіх грамадзян, якія разам з усім савецкім народам здзяйсняюць велічныя планы Радзімы.

Кароткія, скупыя словы:

1952 год. Піянеры пасадзілі ў школьным двары фруктовы сад, разбілі кветнікі. Гарвыканком прэміраваў дружыну.

1953 год. Рукамі піянераў і камсамольцаў пасаджана шмат дрэў і кустарнікаў на вуліцах у занёманскай частцы горада.

1954 год. Школьныя спартсмены пачалі будаваць свой стадыён, займаць прызавыя месцы на агульнагарадскіх спаборніцтвах. Быў кінуты кліч: «Кожны піянер — спартсмен!».

1955 год. За горадам на плошчы пяць гектараў пасаджаны сад. Ён перададзены рабочым тонкасуконнага камбіната. Юннаты школы занялі першае месца на абласной сельскагаспадарчай выстаўцы.

1956 год. Год добрых спраў. Піянеры ўзялі шэфства над сем'ямі загінуўшых воінаў і над дзіцячымі садамі.

Памагаюць калгасу «Рассвет».

Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў дружыну граматай.

1957 год. Высаджан сквер «40 год Кастрычніка». Пабудавана цяпліца.

1958 год. Створаны піянерска-камсамольскі штаб карысных спраў. Пачалося будаўніцтва майстэрні. З'явіліся працоўныя кніжкі.

1959 год. На заводзе, арганізаваным у школе, працуе каля двухсот піянераў. Яны выконваюць заказы хлебнага і тонкасуконнага камбінатаў, мэблевай і тытунёвай фабрык. Школьны завод — першынец у нашай краіне.

На заводзе аўтазапчастак створана «вучнёўская змена». Тут разам з камсамольцамі старэйшых класаў працуюць і піянеры.

1960 год. Уведзена самаабслугоўванне.

Гімнасты школы займаюць першае месца сярод спартсменаў адзінаццаці саюзных рэспублік і атрымліваюць дыплом I ступені Усесаюзнага Савета спартыўных таварыстваў.

На Усесаюзнай выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі школа атрымала дыплом I ступені.

У Мінску выйшаў і дэманстраваўся тэлевізійны фільм «Малодшы брат вялікіх заводаў».

Уключыліся ў піянерскую двухгодку.

1961 год. Пабудаваны лепшыя ў рэспубліцы вытворчыя майстэрні.

За першынство ў спорце атрымалі пераходны сцяг гарадскога Савета фізкультуры і спорту.

Рамонт школы зрабілі самі.

Сабралі сорак тон металічнага лому для нафтаправода «Дружба».

У гонар XXII з'езда КПСС савет дружыны стварыў «скарбонку камунізма».

1962 год. Сабралі і здалі 20 тон попелу. Школьныя агітбрыгады выступаюць у горадзе і ў саўгасе.

Выконваецца заклік: «Берагчы школьную маёмасць!».

## ІХ ВЫХАВАЛА ПІЯНЕРСКАЯ ДРУЖЫНА

Першыя выпускнікі пакінулі нашу школу ў 1951 годзе. Сярод яе выхаванцаў ёсць людзі розных прафесій. Амаль кожны з іх, пакідаючы школьны парог, пісаў: «Усім самым добрым і радасным я абавязаны школе, піянерскай дружыне і камсамольскай арганізацыі...» Гэта не проста прыгожыя словы. Гэта — шчырая праўда.

... Тамара Аляксеева захаплялася гімнастыкай яшчэ ў піянерскім узросце. У школе яна атрымала званне майстра спорту. Цяпер яе імя вядома за межамі нашай краіны.

...Віктар Мусіенка ў піянерскім гуртку займаўся тэхнікай. Школьны завод быў для яго першай пробай сіл. А потым на сапраўдным заводзе «Электрасвятло» за выдатнае выкананне заказу па газіфікацыі горада Мінска ён быў узнагароджаны Ганаровай Граматай Вярхоўнага Савета БССР.

... Іна Мацвеева рашыла стаць педагогам, калі яшчэ была старшынёй савета дружыны. Цяпер яна настаўнічае ў Ленінградзе.

...Генадзь Цыкун лічыўся ў школе піянерскім «прафесарам». Цяпер ён супрацоўнік Акадэміі навук БССР.

... Захар Гарэлік у школе цікавіўся таямніцай атама. Ён стаў інжынерам у гэтай галіне навукі.




Старшыня савета атрада Жэня Лявонаў апускае рапарт аб слаўных справах піянераў чацвёртага класа.

## ІДЗЁМ У БУДУЧЫНЮ

Жыць, вучыцца і працаваць так, як патрабуе маральны кодэкс маладога будаўніка камунізма — галоўны закон піянераў нашай школы. Савет дружыны рашыў: поўнасцю захоўваць школьную маёмасць. Рашэнне выконваецца. На партах, што пафарбаваны ў светлы колер, ніводнай плямы. Чыста і ўтульна ў класах.

Радуе і шчырая дружба, узаемадапамога піянераў.

У піянеркі Русланы Рыбчанка цяжка захварэла маці. Сяброўкі

Піянеры, вучні чацвёртага класа сярэдняй школы № 6, частыя госці ў падшэфным дзіцячым садзе. Сваім малым сябрам яны чытаюць казкі, вучаць іх маляваць.

Фота В. Дробышава.



Русланы не пакінулі яе ў бядзе. Марыя Чарнецкая, Ала Савасцьянава, Галя Аверчанкава наладзілі кругласутачнае дзяжурства ля ложка хворай. На жаль, ні ўрачам, ні піянерам не ўдалося выратаваць жыццё хворай. Але сваім шчырым спачуваннем піянеры вельмі памаглі дзяўчынцы, якая засталася без маці. Так робяць сапраўдныя сябры.

У светлым будынку камунізма будуць цагліны, пакладзеныя і піянерамі. Гэта будзе працяг школьнага летапісу.

**Я. ЗЛОТНІК,**
дырэктар 6-й сярэдняй школы г. Гродна.

# ВЯСНЯНКА

**«Рэкамендую вам асаблівую ўвагу звярнуць на моладзь, на камсамол... За што ні возьмуцца яны—справа спорыцца».**

З выступлення М. С. Хрушчова на нарадзе работнікаў сельскай гаспадаркі БССР.

Калі дзевяцікласнікі праводзілі свайго важака Зіну Кудраўцаву ў Мінск на Рэспубліканскую нараду работнікаў сельскай гаспадаркі, дык перад развітаннем заклапочана перапытвалі:

— Памятаеш, Зіна, з чаго пачыналі?.. Дык глядзі ж, нічога не забудзь.

Не забудзь! А хіба можа Зіна забыць тое, без чаго не ўяўляе цяпер свайго жыцця — ні сённяшняга, ні будучага. І не толькі яна. Так думаюць усе, хто ўваходзіць разам з ёю ў адзін калектыў — вучнёўскую вытворчую брыгаду Юркаўскай сярэдняй школы Гарацкага раёна. Няхай сабе пакуль што іх нямнога, усяго 36 чалавек. Але ж яны ўжо смела праводзяць доследы, апрацоўваюць 25 гектараў зямлі, якую ім выдзеліў калгас. Праца стала другой школай для вучняў, іх жыццём. Дык хіба ж можна забыць, як усё гэта пачыналася?

... А пачыналася яно, здаецца, зусім нядаўна. Набліжалася вясна. Імклівая і радасная. Уладарна абуджала палеткі. Высцілала ваколіцы сяла першай зелянінай. Не сціхаў птушыны пераззвон.

Вось у такі дзень, гаваркія і вясёлыя, збіраліся вучні ў школу на свой камсамольскі сход. Важнае пытанне рыхтаваліся яны абмеркаваць: чым памагчы калгасу?

Тады, на сходзе, дырэктар школы Васіль Фёдаравіч Закрэўскі і пачаў гаворку аб укамплектаванні вучнёўскай вытворчай брыгады:



**Вось якія пачаткі вырасціла летась Антаніна Тускова.**
Фота **Ф. Чаховіча.**



— Па прыкладу камсамольцаў Бярозкаўскай школы Хоцімскага раёна трэба і ў нас стварыць аграхімлабараторыю. Трэба, каб, скончыўшы школу, вы былі ў родным калгасе вопытнымі паляводамі, механізатарамі, садаводамі...

Горача абмяркоўвалі камсамольцы прапанову дырэктара. Раіліся з бацькамі, гутарылі са старэйшымі таварышамі — студэнтамі сельскагаспадарчай акадэміі, што былі ў калгасе на практыцы. І рашылі дзейнічаць.

— Дзе нам абсталяваць аграхімлабараторыю? — спыталі яны праз некалькі дзён у дырэктара школы.

Памаўчаў дырэктар, падумаў, пажартаваў:

— Хітрыя вы, на слове мяне злавілі. Што ж, няхай будзе па-вашаму...

Юннаты добра памятаюць, як упершыню сабраліся ў сваёй аграхімлабараторыі, дзе настаўніца хіміі Еўдакія Іванаўна Марчанка паказала ім апарат Алямоўскага для вызначэння кіслотнасці глебы. Гэта быў новенькі прыбор, падараваны школе шэфамі з сельскагаспадарчай акадэміі. На першы погляд — нічога ў ім цікавага. Невялічкая чорная скрыначка з наборам кароценькіх прабірак, напоўненых нейкай ружаватай вадкасцю рознай канцэнтрацыі і наглуха запаяных. Але варта было настаўніцы растлумачыць прызначэнне апарата, расказаць, што да чаго, як адразу ж пачуліся нецярплівыя галасы:

— Давайце паспрабуем, Еўдакія Іванаўна. Вызначым кіслотнасць глебы на нашым участку.

І вось ужо разам з настаўніцай і студэнтамі акадэміі Уладзімірам Уэльскім і Валянцінай Навазінскай, якія падахвоціліся памагчы вучням, юннаты бяруць першыя пробы глебы. Распытваюць усё да драбніц. Вярнуўшыся з поля, падоўгу засяджваюцца ў лабараторыі Віктар Серафімовіч, Антаніна Тузкова, Ніна Краўцова, Зіна Кудраўцава... Затое, якой радасцю свіціліся іхнія вочы, калі нарэшце былі атрыманы першыя вынікі — слупкі лічбаў!

— На нашым участку неабходна ўнесці па дзве тоны вапны на гектар!

— Правільна, — пералічыўшы, пацвердзіла настаўніца. —



**Настаўнікі пазнаёмілі вучняў з прыборам, якім лёгка вызначыць кіслотнасць глебы ў палявых умовах.**

А цяпер паспрабуем вызначыць кіслотнасць глебы калгаснага поля.

— Давайце!

Выйшлі ў поле. На той участак, дзе калгаснікі збіраліся сеяць кукурузу. Толькі б не памыліцца! І зноў падоўгу сядзелі ў сваёй лабараторыі. Прасушвалі, узважвалі доследныя порцыі глебы. Апрацоўвалі яе хімічнымі рэактывамі.

Разам са старшакласнікамі за справу ўзяліся і піянеры. Звяно юных кукурузаводаў узначаліла пяцікласніца Галя Шапнеўская.

Ішлі дні, поўныя напружанай працы і гаспадарчых клопатаў. Школа атрымала ад шэфаў новы падарунак — трактар «Беларусь» і грузавую аўтамашыну.

— Хутка ў нас будзе цэлая механізаваная гаспадарка! — радаваліся вучні. — Ды яшчэ якая!

Трэба было падумаць, дзе гэта ўсё берагчы. Вырашылі пабудаваць гараж і павець. Да трактара самі зрабілі прычэп, каб вазіць у поле гной, хімікаты. Дарослыя паступова пачыналі верыць у сілы вучнёўскай брыгады. І не памыліліся.

Восенню юнннаты з гордасцю паказвалі сваім бацькам насенне кукурузы і лубіну. Такія багатыя ўраджаі ў калгасе былі атрыманы ўпершыню. У дзённіках, схемах і дыяграмах юннаты падрабязна расказалі аб сваіх доследах па вырошчванню грэчкі і цукровых буракоў, аб пасадках лесу за ваколіцай сяла і дэкаратыўных дрэў абапал дарог.

Вось пра ўсё гэта і прасілі вучні свайго брыгадзіра Зіну Кудраўцаву расказаць удзельнікам нарады работнікаў сельскай гаспадаркі. Не ўспаміналі толькі пра адно — пра тое, як у час летніх канікул, выбраўшы зручную часіну, яны ездзілі на сваёй аўтамашыне ў Брэст. Па дарозе завіталі ў Салігорск. Набылі там багатую калекцыю мінералаў. А пазней з'ездзілі ў Маскву на Усесаюзную выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі.

Але гэта не так важна. Важна, каб Зіна расказала пра галоўнае: пра вынікі іх працы, пра тое, якімі руплівымі і дбайнымі гаспадарамі яны рыхтуюцца стаць.

Вось чаму, калі Зіна была ўжо ў Мінску, сябры з такой нецярплівасцю чакалі вестак ад яе. На перапынках бегалі ў настаўніцкую і тоўпіліся каля радыёпрыёмніка: ці не перададуць што з нарады?

І, нарэшце, яны дачакаліся...

Па радыё ішла перадача аб нарадзе ў Мінску. І раптам пачуўся ўсхваляваны голас іх брыгадзіра Зіны Кудраўцавай:

— Дарагія таварышы, дарагі Мікіта Сяргеевіч! Дазвольце мне ад імя шматтысячнай арміі юных даследнікаў перадаць сардэчнае прывітанне і гарачую падзяку роднай Камуністычнай партыі за яе вялікія клопаты аб нас і нашым будучым. У Праграме партыі, прынятай XXII з'ездам КПСС, запісана, што цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме. Нам будаваць камунізм, нам прадаўжаць слаўныя справы сваіх бацькоў...

Зіна расказвае аб доследах па вырошчванню грэчкі і лубіну, цукровых буракоў і бульбы, гаворыць, што праца ў аграхімлабараторыі памагае лепш вывучыць хімію, батаніку, фізіку. Па ўсіх гэтых прадметах вучні школы маюць толькі чацвёркі і пяцёркі. Заканчваючы сваё выступленне, яна пад бурныя воплескі ўручае Мікіту Сяргеевічу Хрушчову рапарт аб справах і дасягненнях юннатаў рэспублікі.

І хоць голас Зіны замоўк, вучні яшчэ доўга не адыходзілі ад прыёмніка.

Як і летась, юннаты Юркаўскай школы зноў выйшлі ў поле. Выйшлі, каб сваімі дужымі маладымі рукамі зрабіць родную зямлю яшчэ багацейшай.

**Георгі ШЫЛОВІЧ.**

---

Іван **ГУСЕЎ**

# ПОДЗВІГ

**Нарыс**

— Значыць, задача вам ясная, старшына?

— Так точна, ясная.

— Не забудзьце, «язык» павінен быць штабным работнікам, — падкрэсліў начальнік разведкі.

— Зразумеў, таварыш маёр.

— Тады ўсё. Жадаю ўдачы, — Маёр Грачоў моцна паціснуў старшыну руку і разам з ім выйшаў на вуліцу.

Быў цудоўны цёплы вечар. Пахла талым снегам і веснавой свежасцю. Грачоў і Рыбак некалькі хвілін стаялі моўчкі, услухоўваючыся ў цішыню.

— Ну, шчасліва, — заспяшаўся маёр. — Вяртайцеся хутчэй.

— Дзякую, таварыш маёр, — адказаў разведчык з цемры.

Той жа ноччу, старанна падрыхтаваўшыся да аперацыі, Ульян Рыбак з групай пайшоў на заданне.

Некалькі дзён пра разведчыкаў не было ніякіх звестак. Калі ў штабе злучэння ўжо страцілі надзею на іх вяртанне, у камандзіра дывізіі зазваніў тэлефон. Гаварылі з КП суседняй часці:

— Таварыш першы, толькі што на нашым участку затрымана група людзей. Адзін назваўся старшыной Рыбаком. Гаворыць, з вашай «гаспадаркі». Ёсць у вас такі?

— Ёсць! Ёсць! Зараз вышлю машыну! — радасна закрычаў камдыў.

Неўзабаве Ульян Рыбак, зарослы, у перапэцканым абмундзіра-



**Герой Савецкага Саюза Ульян Аляксандравіч Рыбак.**

ванні, дакладваў камандзіру аб аперацыі.

Шчасліва прайшоўшы варожыя вартавыя пасты, разведчыкі схаваліся ў густым кустарніку. Праляжалі тут столькі, колькі спатрэбілася, каб высветліць арыентыроўку, потым сталі асцярожна прабірацца ў тыл. Світанак застаў у прапахлым балотнай вільгаццю лесе. Ад цёмных яроў патыхала грыбным халадком. Куп'істая зямля спружыніла пры кожным кроку. Пад ёю хлюпала вада. Разведчыкі часта спатыкаліся аб пні і правальваліся ў ямы з вадой.

Нарэшце Рыбак спыніўся.

— Здаецца, дабраліся,— сказаў ён, паглядзеўшы на гадзіннік.

— Занесла ж нас у балота,— заўважыў радыст Іваноў.

— Але, не было клопату...— Кавалёў, які вырас у стэпавым сібірскім краі, незадаволена глядзеў на купіны, паміж якіх блішчэла вада.

...На пятыя суткі ўвагу разведчыкаў прыцягнула машына блакітнага колеру. Яе суправаджалі некалькі ўзброеных матацыклістаў.

«Відаць, важная птушка»,— падумаў Рыбак.

Ацаніўшы свае магчымасці, ён прыняў рашэнне напасці на машыну. Праз мінуту-другую разведчыкі ўжо распрацавалі смелы план. У выпадку поспеху ў рукі да іх павінен быў трапіць каштоўны «язык».

Аднак ажыццявіць намер аказалася нялёгка. Дні ішлі, а блакітная машына, абкружаная матацыклістамі, працягвала ездзіць узад і ўперад па шашы.

— Трэба браць другога «языка», тут у нас нічога не атрымаецца, —пярэчылі некаторыя разведчыкі.

— Атрымаецца!— цвёрда адказваў Рыбак.— Цярпенне ў нашай справе — палавіна поспеху.

Назаўтра, падпільнаваўшы, калі матацыклы ішлі ўшчыльную ля машыны і на дарозе не было нікога, Рыбак шэптам загадаў:

— Падрыхтаваць гранаты!

Як толькі машына параўнялася з засадай, Ульян кінуў пад пярэднія колы звязку гранат. Шлях гітлераўцам назад адрэзаў Кавалёў. З матацыклістамі пакончылі за некалькі хвілін. З-пад абломкаў «мерседэса» Рыбак дастаў партфель, напакаваны штабнымі паперамі, і яго гаспадара, які аказаўся генералам. Гітлеравец быў паранены і аглушаны. Перавязаўшы яго, разведчыкі схаваліся ў лесе.

Гітлераўца давялося несці. Палонны канаў, а разведчыкі рабілі ўсё магчымае, каб даставіць яго ў часць жывога. Бінтоў хапіла толькі на адну перавязку. У ход пайшлі споднія кашулі, насоўкі, ручнікі.

Да передавой дабраліся на сконе чацвёртых сутак. Ноччу пайшлі на прарыў. Вось і траншэі. Злева чулася прыглушаная нямецкая гаворка, наперадзе, каля бліндажа, маячыла фігура вартавога. Узялі направа. Прапаўзлі некалькі метраў і застылі на месцы. Рыпнулі дзверы, і з бліндажа выйшаў гітлеравец, ён пастаяў хвіліну, а затым накіраваўся проста да таго месца, дзе залеглі разведчыкі. Рыбак сціснуў у руцэ нож, але гітлеравец, не даходзячы метры тры, павярнуў назад.

На гэтым выпрабаванні для разведчыкаў не скончыліся. Ледзь яны адпаўзлі ад траншэй, як гітлераўцы адкрылі страляніну. Наша передавая адказала тым жа. Разведчыкі аказаліся паміж двух агнёў. На шчасце, мясцовасць тут была няроўная, і група Рыбака, схаваўшыся, перачакала, пакуль перастрэлка не скончылася.

Праз паўгадзіны пачуўся вокліч вартавога паста нашай баявой аховы.

* * *

У пакой уварваўся свежы паток паветра. Прытрымліваючы рукой лісты паперы, Ульян Рыбак павярнуўся да дзвярэй. На парозе стаяў Кавалёў.

— Прабачце, таварыш старшына, што перашкодзіў. Вас тэрмінова выклікаюць у штаб дывізіі...

— У штаб дывізіі?— ускінуў Рыбак густыя бровы.— Добра, зараз іду.

Ён адклаў убок ручку, скінуў з плеч маскіровачны халат, зашпіліў гімнасцёрку і выйшаў на вуліцу ўслед за Кавалёвым.

— Відаць, нешта важнае, калі сам камдыў выклікае,— заўважыў нехта з разведчыкаў.

На камандным пункце дывізіі, куды Рыбака правёў афіцэр-дзяжурны, было шумна. Налева ад дзвярэй, за вялікім сталом, на якім ляжала аператыўная карта, сядзеў добра знаёмы па партрэтах Маршал Савецкага Саюза. Каля яго, абапіраючыся на спінку венскага крэсла, стаяў камандуючы чацвёртым Украінскім фронтам генерал арміі Пятроў. Яшчэ некалькі незнаёмых Рыбаку генералаў і афіцэраў стаялі з правага боку. Яны пра штосьці ажыўлена размаўлялі, часта ўпамінаючы словы «камень», «Будапешт», «танкавая армія».

— Старшына Рыбак па вашаму загаду прыбыў!—далажыў Рыбак.

— Вельмі дарэчы, падыдзіце сюды, таварыш Рыбак,—запрасіў Ульяна да стала камандзір дывізіі.

— Гэта той самы разведчык, які даставіў праз лінію фронта гітлераўскага генерала,—нахіліўся камдыў да маршала.

Усе прысутныя з цікаўнасцю павярнуліся да разведчыка.

— Вы карту чытаць умееце?— спытаў Рыбака маршал.

— Так точна, умею...

— Выдатна. Растлумачце задачу,—сказаў маршал, павярнуўшыся да камандзіра дывізіі.

— У раёне «Камень»,—камдыў апусціў аловак на сіні квадрат карты,—гітлераўцы пачалі канцэнтрацыю сваіх сіл. Паводле некаторых звестак вядома, што сюды перакінута 8-я танкавая армія «СС» і іншыя часці. Нашаму камандаванню неабходна мець дакладныя звесткі аб колькасці войск праціўніка і напрамку іх далейшага руху. Прынята рашэнне даручыць гэтую аперацыю вам. Справіцеся?

— Спраўлюся, таварыш генерал,—цвёрда адказаў Рыбак.— Калі загадаеце адпраўляцца ў тыл?

— Не пазней заўтрашняй ночы. Падбярыце невялікую групу надзейных разведчыкаў і—у дарогу. Падрабязныя інструкцыі атрымаеце ў начальніка разведкі...

— Заданне цяжкае,—заўважыў маршал,—але выканаць яго трэба абавязкова. Яно вельмі важнае для наступлення ўсяго нашага фронта.

— Загад будзе выканан,—горача прагаварыў Рыбак.

— Жадаю поспеху!

Маршал моцна паціснуў разведчыку руку.

Назад Ульян не ішоў, а ляцеў. Напярэдадні начальнік палітаддзела падпалкоўнік Ляонцьеў уручыў яму партбілет. Думка, што яму даручана такое адказнае заданне іменна цяпер, акрылíла яго. «Зраблю ўсё, што можна, але давер'е камандавання і званне камуніста апраўдаю»,—думаў ён, ідучы ў размяшчэнне ўзвода.

Збіраліся не доўга, але старанна. Падганялі абмундзіраванне, рыхтавалі зброю, аглядалі боепрыпасы. Наступнай ноччу восем разведчыкаў ценямі прамільгнулі міма пастоў баявой аховы і зніклі ў цемры. Рыбак ішоў першы. Замыкалі групу Кавалёў і радыст Іваноў, якіх называлі Патам і Паташонам. І сапраўды, рослы, плячысты Кавалёў і маленькі, шчуплюсенькі Іваноў вельмі нагадвалі вядомых па кіно герояў. Але гаварылі і пра іншае — пра моцную франтавую дружбу, якая існавала паміж гэтымі сібірскімі хлопцамі. Абодва яны былі гатовы аддаць жыццё адзін за аднаго.

Передавая сустрэла разведчыкаў насцярожанай цішынёй. Але кожны ведаў: побач, усяго ў некалькіх кроках, прытаіўся вораг, і кожную мінуту чалавека падпільноўвае смерць. Па сігналу Рыбака папаўзлі наперад. Хутка передавая засталася ззаду. Паглыбіўшыся ў тыл праціўніка кіламетраў на дзесяць, зрабілі прывал.

Пакуль разведчыкі перакусвалі (перад адыходам у тыл ніхто з іх не ўзяўся за вячэру), малодшы сержант Іваноў і радавы Кавалёў раскінулі антэну. Настроіўшы перадатчык, Іваноў прывычна націснуў на маленькі ключ. У эфір паляцелі кропкі і працяжнікі—кадыраваная радыёграма, у якой паведамлялася аб шчаслівым пераходзе праз лінію фронта. Затым Іваноў перайшоў на прыём. У на-

вушніках спявала і свістала на ўсе лады. Але вось да рознагалосай гамы далучыўся новы гук. Ён быў слабы, нібы камарыны піск. Для Іванова гэты піск быў лепшы за самую цудоўную музыку: далёкі карэспандэнт выстукваў яго пазыўныя.

Крыху адпачыўшы, працягвалі шлях. Перад раніцай з поўначы паплылі свінцовыя хмары, пайшоў надакучлівы дождж. Ісці стала цяжка, ногі слізгалі па гліністай глебе, намоклае адзенне скоўвала рухі. Развесці ж вогнішча і абагрэцца нельга было: усюды шнырылі варожыя патрулі.

Наступнай ноччу дабраліся, куды трэба. Падышлі да гары, якая абазначалася на аператыўнай карце ўмоўнай назвай «Камень». Бясконцым ланцугом цягнуліся голыя каменныя глыбы. Толькі дзе-нідзе з расколін падымаліся невялікія дрэўцы. Злева серабрылася рака, справа цягнулася стужка шасейнай дарогі, той самай дарогі, на якой трэба было прасачыць рух праціўніка.

Першыя хвіліны наглядання паказалі, што гітлераўцы сапраўды нешта задумалі тут. З заходам сонца рух на шашы не спыняўся ні на хвіліну: надрыўна раўлі цяжкія грузавікі, рыпелі гусеніцамі артылерыйскія цегачы, нецярпліва сігналячы, праносіліся генеральскія ўсюдыходы, штабныя «мерседэсы» і «опелі». Глуха пагрукваючы кацялкамі, ішлі прапыленыя пехацінцы ў бок Будапешта.

Усю ноч не спыняўся бясконцы паток жывой сілы і баявой тэхнікі ворага. Але танкаў не было. «Няўжо яны ідуць другой дарогай,— ужо каторы раз думаў Рыбак і тут жа адкідваў гэтую думку: — Дарогі больш зручнай няма ў гэтым раёне. Танкі павінны прайсці толькі тут».

Неразлучныя сябры — малодшы сяржант Іваноў і радавы Кавалёў — адышлі ўбок на некалькі кіламетраў і перадалі першую радыёграму ў штаб фронта. «Танкі — галоўнае. Па першаму вашаму сігналу па іх будзе нанесены масіраваны ўдар авіяцыі»,— радыравалі адтуль.

Вялікая насычанасць войск праціўніка, незнаёмая мясцовасць, адсутнасць сувязі з мясцовымі жыхарамі, вельмі ўскладнялі работу. Трэба было спадзявацца толькі на свае сілы. Дзень за днём, праз кожныя дзве гадзіны, пасылала група Рыбака радыёграмы аб прасоўванні войск. Але танкавая армія нібы скрозь зямлю праваліласся. А са штаба нецярпліва запрошвалі звесткі пра яе.

На трэція суткі Кавалёў, суправаджаючы Іванова для чарговай радыёперадачы, звярнуў увагу на гружаныя бочкамі машыны. Прайшоўшы з боку Будапешта насустрач патоку войск, яны непадалёк ад невялікага ўзвышша, названага разведчыкамі «Круглае», зварочвалі з шашы на прасёлкавую дарогу, што вяла ў бок нейкага маёнтка. Пакуль Іваноў вёў радыёперадачу, Кавалёў налічыў дванаццаць такіх машын. «А што, калі танкі схаваны ў маёнтку?» — пранеслася ў галаве.

— Усё можа быць,— сказаў Рыбак, выслухаўшы даклад Кавалёва.— Сёння праверым...

Дачакаўшыся ночы, сталі пасоўвацца да маёнтка. Аўтаматы напагатове: вораг можа напаткацца кожную хвіліну. Вось і маёнтак. Уезд у яго перакрыты шлагбаумам. Каля будкі чарнее сілуэт вартавога. «Кантрольны пост»,— падумаў Рыбак. І сапраўды: ззаду пачуўся шум матораў. Грукнулі дзверцы аўтамашыны, пачулася нямецкая гаворка. Відаць, вартавы правяраў дакументы.

Асцярожна ступаючы, разведчыкі рушылі далей. Прайшлі некалькі дзесяткаў крокаў і зноў замёрлі. Проста на іх ішлі два салдаты ў касках. Паспрабавалі ў іншым месцы прабрацца да маёнтка — і зноў нарваліся на патруль.

«Ахова моцная, значыць, аб'ект важны»,— адзначыў сам сабе Рыбак.

— Танкі. Напэўна танкі,— зашаптаў Рыбаку на вуха Кавалёў, нібы чытаючы яго думкі.

— Магчыма, але трэба праверыць,— таксама шэптам адказаў Рыбак. І вось два смельчакі Рыбак і Кавалёў, старанна замаскіраваўшыся, вырашылі правесці дзень сярод ворага.



Размясціліся ў густым кустарніку на пагорку. Адсюль маёнтак быў відаць, як на далоні. Узышло сонца, і маёнтак ажыў. Грукаючы кацялкамі, пацягнуліся да кухні салдаты. Потым праехала некалькі машын з бочкамі. Яны спыніліся каля доўгіх хлявоў. Салдаты хутка разгрузілі бочкі і пакацілі іх за хлеў. Праз некаторы час адтуль данёсся магутны гул. Сумнення не было: так мог працаваць толькі танкавы рухавік.

— Усё ясна,— зашаптаў Рыбак Кавалёву,— гітлераўцы хаваюць танкі між хлявоў і, магчыма, у хлявах.

Кавалёў згодна кіўнуў галавой.

І яшчэ адно адкрыццё зрабілі разведчыкі: у маёнтку няма цывільных.

Дачакаўшыся цемры, паспяшылі да сваіх. У штаб фронта паляцела радыёграма. У ёй паведамляліся каардынаты знойдзеных варожых танкаў.

У той жа дзень дзве групы «петляковых» і група штурмавікоў нанеслі ўдар па замаскіраваных танках. Выкарыстаўшы замяшанне ворага, разведчыкі захапілі двух палонных — афіцэра і салдата. Гітлераўцы аказаліся сапраўднай знаходкай: яны не толькі паведамілі звесткі аб сваёй часці, але і ўказалі месца размяшчэння двух танкавых падраздзяленняў, што ўваходзілі ў склад 8-й арміі «СС», расказалі шлях іх далейшага руху.

Пад канец сёмых сутак малодшы сяржант Іваноў прыняў умоўны сігнал: разведчыкам было загадана вяртацца назад.

... І вось група Рыбака падышла да варожай перадавой. Больш за суткі наглядалі разведчыкі за гітлераўцамі. Калі былі вывучаны маршрут руху вартавых і патрулёў, час іх змены, сталі пераходзіць лінію фронта. Усё ішло нармальна. Адзін з палонных, забыўшы на папярэджанне, крыкнуў. Гітлераўцы адкрылі агонь. У гэтай перастрэлцы «язык» і варожы вартавы былі забіты, другі вартавы схаваўся ў траншэі. Прагучаў сігнал трывогі. На разведчыкаў абрушыўся шквал агню.

— Наперад! — загадаў Рыбак, і разведчыкі імклівым рыўком дасягнулі «нічыйнай зямлі». Здавалася, небяспека засталася ззаду. Але тут, ускрыкнуўшы, упаў Ульян Рыбак.

— Раніла? — спытаў Кавалёў, кідаючыся да камандзіра.

— Нічога,— прастагнаў Ульян. Ён хацеў быў падняцца на ногі, але востры боль у бядры зноў кінуў яго на камяністую зямлю.

Апрытомнеў Ульян Рыбак у медсанбаце.

* * *

Прайшло шмат гадоў. Цяпер Герой Савецкага Саюза Ульян Аляксандравіч Рыбак жыве і працуе ў саўгасе «Завалочыцы» Глускага раёна.

Зволіўшыся ў 1947 годзе з арміі, ён вярнуўся дадому. Ульян Аляксандравіч, як і ўсе савецкія людзі, ненавідзіць вайну, працуе так, каб наша Радзіма мацнела з кожным днём.

# Навука і культура



М. Несцераў. Аўтапартрэт.

## ВЯЛІКІ МАСТАК

**Да стагоддзя з дня нараджэння М. В. Несцерава**

Лёс кожнага мастака, як і лёс яго твораў, амаль заўсёды залежыць ад той гістарычнай эпохі, калі ён жыў і працаваў. Так было і з вялікім рускім мастаком Міхаілам Васільевічам Несцеравым. Калі ўпершыню пасля Кастрычніка былі арганізаваны выстаўкі яго палотнаў, наведвальнікі здзіўлена перапытвалі: «Няўжо гэта той самы сямідзесяцігадовы Несцераў, які раней ствараў у сваіх карцінах вобразы людзей, адарваных ад знешняга свету?» Так, гэта быў ён — мастак, які пад старасць гадоў убачыў новае жыццё і па-новаму зірнуў на сваю творчасць. Старэйшы па ўзросту, ён стаў адным з самых маладых савецкіх мастакоў па сіле і свежасці свайго таленту.

Нарадзіўся М. В. Несцераў 31 мая 1862 года ў горадзе Уфе. Мастацкую адукацыю атрымаў у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і архітэктуры, некаторы час вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу. Ён быў равеснікам В. А. Сярова і М. А. Врубеля, сябрам І. І. Левітана, таварышам па перасоўных выстаўках В. І. Сурыкава і В. М. Васняцова.

Складаны і супярэчлівы дарэвалюцыйны перыяд творчасці Несцерава. Першыя яго творы «Задушылі», «Дамашні арышт» і іншыя былі напісаны ў духу крытычнага рэалізму. Але неўзабаве мастак захапляецца гістарычнай і, асабліва, рэлігійнай тэматыкай. Ён адыходзіць ад бытавога жанра перасоўнікаў. Карціны «Благавест» і «Вялікі пастрыг» ужо нясуць адзнаку сузіральнасці. Мастак захапляецца рэшткамі патрыярхальнасці і рэлігійнымі ілюзіямі сялянства. Тым не менш, у яго творах гэтага перыяду тонкае адчуванне прыроды спалучаецца з глыбокай характарыстыкай духоўнага свету чалавека. Арганічнае адзінства чалавечых вобразаў з прыродай становіцца асновай яго творчага метаду. Асабліва ярка гэта заўважаецца ў карціне «Пустэльнік».

У 1890 годзе археолаг А. В. Прахаў запрасіў Несцерава ўдзельнічаць у размалёўцы Уладзімірскага сабора ў Кіеве. Пасля гэтага мастак размалёўваў саборы і ў іншых гарадах. Пятнаццацігадовы занятак царкоўным жывапісам забраў у яго шмат творчых і фізічных сіл, але не прынёс ніякага задавальнення.

У 1905 годзе Несцераў перайшоў ад абстрактнага рэлігійнага свету да рэальнасці — пачаў займацца партрэтным жывапісам. Партрэт жонкі быў першым творам, які мастак палічыў вартым аддаць на выстаўку. У 1906 годзе Несцераў напісаў партрэт дачкі. У гэтым партрэце выявіліся вялікія здольнасці натхнёнага жывапісца. Гарманічнае спалучэнне чорнага, зялёнага, чырвонага і залацістага колераў стварае непаўторны акорд, што гучыць, як музыка. Жыццёвае абагульненне, псіхалагічная глыбіня і мастацкая яркасць дазволілі гэтаму твору перарасці рамкі індывідуальнага партрэта. У вобліку амазонкі ярка вылучаюцца рысы, уласцівыя адукаваным рускім дзяўчатам пачатку XX стагоддзя.



М. Несцераў. Партрэт дачкі.

У савецкую эпоху, сцвярджаючы лепшыя традыцыі рускага рэалістычнага партрэта, Несцераў стварыў бліскучую галерэю вобразаў дзеячоў навукі і мастацтва. Пасля партрэтаў А. М. Горкага, польскага мастака Я. Станіслаўскага і Л. М. Талстога, напісаных яшчэ да рэвалюцыі, Несцераў стварае партрэты прафесара А. Н. Северцава, архітэктара А. В. Шчусева, скульптара І. Д. Шадра, мастакоў П. Д. Крона і А. Д. Крона, В. М. Васняцова, народнай артысткі К. Г. Дзяржынскай.

У 1929 годзе сябра Несцерава прафесар А. Н. Северцаў параіў яму напісаць партрэт І. П. Паўлава. Мастак неахвотна адгукнуўся на гэтую прапанову. Прагледзеўшы фатаграфіі вялікага фізіёлага, ён пісаў: «...тыповы твар вучонага, прафесара, твар самавіты, нават прыгожы і... толькі. Я не бачу ў ім прыкмет надзвычайных, прываблівых, хвалюючых маё ўяўленне... і гэта мяне расхалоджвае». У гэтым шчырым прызнанні — творчае крэда Несцерава-партрэтыста, які шукаў для працы над партрэтам стымула больш глыбокага, чым «знешняя самавітасць». Калі Несцераў даведаўся, што І. П. Паўлаў згодзен пазіраваць, ён адразу ж захацеў убачыцца з вучоным. Першая сустрэча рашыла ўсё. «Больш яркай асобы я і ўявіць сабе не мог— успамінаў мастак. — Ён адразу мяне пакарыў, пакарыў назаўсёды. Іван Паўлавіч ні кропелькі не быў падобны на тыя «афіцыяльныя» здымкі, што я бачыў, і пісанне партрэта тут жа ў думках было вырашана».

Несцераў гасціў у Паўлава ў Колтушах, уважліва ўглядаючыся, удумваючыся і прыслухоўваючыся да героя свайго будучага партрэта. Мастак рашыў пісаць партрэт Паўлава не ў кабінеце, а на светлай і прасторнай тэрасе, дзе вучоны любіў працаваць раніцай. Спадзяванні, што «мадэль» будзе сядзець спакойна і цярпліва, не спраўдзіліся. Кніга не заўсёды стрымлівала вялікага вучонага ад успышак яго гарачага тэмпераменту навatара-адкрывальніка. «...Сядзець не любіць. Усё б яму кіпець, бурліць, — з захапленнем расказваў мастак. — Нарэшце сеў за стол, раскрыў свежую кніжку англійскага часопіса. Ну, думаю, будзе спакойна чытаць. Дзе там! Як ударыць кулаком аб стол! Старонку не гартае, а рве! Гэта ён злуецца на аўтара артыкула, які выступае супраць яго вучэння аб умоўных рэфлексах. Даказвае мне бяссэнсавасць пярэчанняў, спрачаецца з ім, пагражаючы акулярамі, абураецца! Ну, на другім партрэце я так і напісаў яго з кулакамі».



М. Несцераў. Партрэт акадэміка І. П. Паўлава.

Дарэчы, прыступаючы да працы над другім партрэтам у 1935 годзе, Несцераў хваляваўся: «Нам абодвум 158 гадоў; ці ўдасца пераадолець усе цяжкасці: для аднаго — пазіраваць, для другога — пісаць партрэт?»

Цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што цяжкасці не перашкодзілі мастаку стварыць адзін з самых глыбокіх і аптымістычных твораў.

Паўлаў намаляваны ў профіль. Адкінуўшыся на спінку крэсла, ён энергічным рухам апусціў на стол свае жылістыя кулакі. У гэтым жэсце адчуваецца вялікі націск, уласцівы вялікаму барацьбіту за новую ідэю. За акном — «Паўлаўскі гарадок» з невялікімі, нібы цацачнымі катэджамі. Па просьбе вучонага Несцераў напісаў яго партрэт на фоне любімых Колтушаў.

Партрэт напісан восенню, але яго свежасць і каларыт нагадваюць вясну, яны поўнасцю адпавядаюць маладосці думак васьмідзесяцігадовага вучонага.

У 1937 годзе Несцераў напісаў партрэт Отта Юльевіча Шміта — кіраўніка савецкай экспедыцыі, што ўпершыню высадзілася на Паўночным полюсе. Мастак паказаў Отта Юльевіча ў рабочым кабінеце ў самы разгар працоўнага дня. У вобразе акадэміка Шміта Несцераў убачыў даўнюю мару смелых людзей аб пакарэнні Ледавітага акіяна. Створаны ім партрэт сведчыць аб вялікім захапленні мастака гераізмам савецкіх людзей.

У 1939 годзе Несцераў пазнаёміўся з В. І. Мухінай — аўтарам славутай скульптурнай групы «Рабочы і калгасніца». Ён адразу рашыў напісаць яе. Вось як расказвае мастак аб рабоце над партрэтам: «...як узялася над глінай арудаваць — уся перамянілася. — Э! — думаю. Дык вось ты якая! Так і нападае на гліну: там ударыць, тут ушчыкне, тут пагладзіць. Твар гарыць. Не пападайся пад



М. Несцераў. Партрэт скульптара В. Мухінай.

руку: прыстукне! Вось гэткай ты мне і патрэбна!»

З усіх работ, якія меліся ў майстэрні Мухінай, мастак выбраў адну — статую бога паўночнага ветру Барэя. І не выпадкова: ён увесь у імкненні ў вышыню, у нястрымным руху. У фігуры Мухінай, наадварот, адчуваецца спакой і прафесійная ўпэўненасць. Надзвычай выразныя рукі скульптара, што кранаюць статую то з цвёрдасцю майстра, то з мацярынскай беражлівасцю. Паказваючы скульптара за працай, Несцераў пераконвае гледача, што творчы поспех — гэта не імгненная ўспышка, а доўгія і цяжкія пошукі. Унутраны воблік Мухінай поўнасцю адпавядае страснаму парыву яе героя. Адначасова партрэт вызначаецца наўмыснай сціпласцю. Цёмны рабочы халат, апрануты паверх лёгкай белай блузкі з прыгожай брошкай, светлыя валасы Мухінай і белы гіпсавы Барэй на блакітным пастаменце ствараюць стрыманую каляровую гаму, якая паглыбляе ўнутраную дынаміку вобраза.

Партрэт В. І. Мухінай — гэта вяршыня партрэтнай галерэі мастака Несцерава. Ён дагэтуль застаецца адным з самых лепшых дасягненняў партрэтнага жывапісу.

Несцераў належаў да тых мастакоў, чыя творчасць не слабела з надыходам старасці, а набывала новую глыбіню і сілу. Чалавек вялікай культуры і таленту, ён заўсёды цікавіўся развіццём савецкага мастацтва, горача і паслядоўна адстойваў рэалізм. «Я веру, што жывы змест стварае форму і стыль, а не наадварот»,—гаварыў мастак, заклікаючы вывучаць жыццё.

Памёр М. В. Несцераў у 1942 годзе. Яго мастацкая спадчына даўно заваявала ўсенароднае прызнанне і атрымала права называцца савецкай класікай.

Ірына **НАЗІМАВА.**

# АТАМНАЯ РАДЫЁТЭХНІКА

На станку — тоўстая металічная пліта. Над ёю, не дакранаючыся да паверхні, плаўна рухаецца нейкае незвычайнае прыстасаванне, і на метале застаецца вузкая, прамая лінія разрэзу. Не чуваць ні звычайнага скрыгату, ні шуму. Няма металічнай стружкі...

Чым жа разрэзана пліта?

Адказаць на гэтае пытанне дапаможа новая галіна навукі — квантавая электроніка, якая займаецца вывучэннем з'яў, што адбываюцца ў свеце малекул і атамаў.

Як выявілася некалькі дзесяцігоддзяў назад, выпраменьванне і перадача энергіі ў мікраскапічным свеце адбываецца не няспынна, а пэўнымі порцыямі — квантамі. Такім чынам, квантавая радыётэхніка — гэта атамная радыётэхніка, бо яна заснавана на выкарыстанні атамных і малекулярных з'яў.

Кожны атам з'яўляецца маленькай электрычнай сістэмай, у якой адмоўныя электроны рухаюцца вакол дадатнага ядра. Пры пэўных умовах такая сістэма можа выпраменьваць электрамагнітныя хвалі строга вызначанай даўжыні. А ці нельга прымусіць большую колькасць атамаў працаваць узгоднена, узмацніць іх радыёхвалі, дасягаючы пры гэтым высокаўстойлівай частаты?

Аказваецца, можна. У 1954—1955 гадах былі створаны першыя квантавыя генератары ваганняў. Яны заснаваны на выкарыстанні працэсаў паглынання і выпраменьвання электрамагнітных хваль, што адбываюцца ў пучку малекул аміяку. Гэта былі так званыя малекулярныя генератары.

Характэрнай асаблівасцю атамных генератараў ваганняў з'яўляецца стабільнасць іх дзеяння. Пабудаваны на базе аднаго з такіх генератараў, астранамічны гадзіннік дазваляе вымяраць час

з дакладнасцю да адной секунды за трыста гадоў. Але і гэтая дакладнасць — яшчэ не мяжа. Разлікі паказваюць, што ў недалёкай будучыні яе можна павялічыць у дзесяткі разоў.

Атамны гадзіннік дазволіў астраномам больш дакладна вывучыць характар вярчэння Зямлі. Аказалася, што Зямля верціцца нераўнамерна і што з цягам часу суткі паступова павялічваюцца. Атамныя гадзіннікі дапамогуць вырашыць і іншыя задачы. Напрыклад, значна павысіць дакладнасць радыёлакацыйных і радыёнавігацыйных прыбораў. Гэта вельмі важна для касмічнай навігацыі.

Побач з надзвычайнай стабільнасцю частаты, атамныя радыёпрыстасаванні маюць яшчэ адну асаблівасць: яны не баяцца холаду і могуць працаваць пры тэмпературы, блізкай да абсалютнага нуля.

Калі ж антэны атамных радыёпрыёмнікаў вынесці за межы зямной атмасферы і змясціць на касмічных караблях або штучных спадарожніках Зямлі, то іх адчувальнасць павысіцца.

Атамныя ўзмацняльнікі могуць працаваць не толькі ў зоне звычайных радыёхваль, але і ў зоне інфрачырвоных праменняў. Інфрачырвоныя, або як іх часта называюць, цеплавыя прамені выдзяляюцца ўсімі целамі, якія існуюць у прыродзе. Іх узмацненне дапаможа стварыць апаратуру прамога бачання. На экранах тэлевізараў можна будзе атрымліваць выразныя абрысы прадметаў у начной цемры, у тумане, у цяжкіх атмасферных умовах.

Але, бадай, найбольш захапляючыя, амаль фантастычныя перспектывы адкрыліся са стварэннем атамных радыёпрыстасаванняў, якія могуць генерыраваць ваганні праменняў бачнага святла.

У аснову стварэння аптычнага выпраменьвальніка, або як яго завуць, лазера, пакладзены цудоўныя ўласцівасці крышталяў сінтэтычнага рубіну.

Невялікі крышталь рубіну цыліндрычнай формы абпраменьваюць неонавай лямпай, святло якой узбуджае электроны ў атамах хрому. Тыя ў сваю чаргу пачынаюць вылучаць порцыі (кванты) чырвонага колеру. Каб узмацніць гэты працэс, плоскія грані рубінавага цыліндрыка пакрываюць срэбнымі плёнкамі, адна з якіх мае маленькую адтулінку. Кванты не могуць адразу вырвацца з цыліндрыка. Яны пачынаюць «мітусіцца» паміж плёнкамі-люстэркамі з велізарнай хуткасцю — трыста тысяч кіламетраў у секунду. Адначасова яны ўзаемадзейнічаюць з іншымі атамамі хрому і выклікаюць выпраменьванне ўсё новых і новых чырвоных квантаў. Працэс набывае лавінападобны характар. Колькасць квантаў вельмі хутка расце. Нарэшце іх становіцца так многа, што яны знаходзяць «акенца» і вузенькім пучком вырываюцца праз яго. Каб паскорыць гэты працэс, узбуджаны неонавай лямпай, рубін асвятляюць слабым чырвоным святлом, нібы напаўняючы яго чырвонымі квантамі. Адбываецца імгненная асляпляльная ўспышка. Чырвоны прамень, што вырваўся з «акенца» сваёй яркасцю ў мільёны разоў пераўзыходзіць яркасць такой жа плошчы сонца.

Рубінавы выпраменьвальнік не адзіны «генератар аптычных радыёхваль». У яго ёсць сваякі. Узмацняльнікамі высокачастотных электрамагнітных выпраменьванняў могуць быць некаторыя вадкасці і газы, а таксама пара металаў. З іх дапамогай можна ўзмацняць не толькі чырвонае, але жоўтае, зялёнае і сіняе святло. У такіх прыстасаваннях ролю ўзбуджальніка выконвае спецыяльна падабранае электрычнае поле.

З фізікі вядома: чым карацей даўжыня хвалі, тым большая частата ваганняў, тым даўжэйшы напрамак выпраменьвання.

Таму высокачастотнае аптычнае выпраменьванне, якое стварае лазер, можна сканцэнтраваць у вельмі вузкім «іголкавым» пучку. Гэта дае магчымасць значна павялічыць дальнасць сувязі — чым танчэй пучок электрамагнітных хваль, тым значней магутнасць выпраменьвання.

З другога боку, чым вышэй частата ваганняў, тым большую колькасць інфармацый можна перадаць з дапамогай электрамагнітнай хвалі. Высокая частата ваганняў святла дазваляе перадаваць па промню лазера надзвычай вялікі аб'ём інфармацыі. Дастаткова сказаць, што па аднаму аптычнаму «іголкаваму» электрамагнітнаму пучку можна адначасова перадаць дзесяткі тысяч тэлевізійных праграм, не гаворачы ўжо аб колькасці тэлефонных размоў.

Высокая канцэнтрацыя энергіі выпраменьвання ў вузкім пучку дазваляе ажыццяўляць сувязь на каласальных касмічных адлегласцях. Дасягнуць такой канцэнтрацыі энергіі ў промні святла, прымяняючы звычайныя аптычныя прыстасаванні, зусім немагчыма.

Вядома, што сканцэнтроўваючы сонечныя прамені з дапамогай спецыяльных люстраў, удалося атрымаць тэмпературу ўсяго да чатырох тысяч градусаў. Прамень аптычнага генератара дае тэмпературу ў шмат разоў вышэйшую. Калі з дапамогай лінз сабраць промні некалькіх аптычных генератараў, то можна атрымаць тэмпературу ў сотні тысяч градусаў.

Прамень лазера мае яшчэ адну своеасаблівасць — велізарны ціск святла. Ужо сучасныя аптычныя генератары на невялікай адлегласці сваім промнем «прабіваюць» пласцінку з даволі трывалага матэрыялу. Разлікі паказваюць, што можна атрымаць ціск святла ў дзесяткі мільёнаў атмасфер.

Савецкі пісьменнік А. Талстой у сваім рамане «Гіпербалоід інжынера Гарына» апісаў фантастычны прыбор з разбуральным промнем святла. Аптычныя генератары з іх іголкавымі пучкамі электрамагнітнага выпраменьвання — гэта здзяйсненне фантазіі на практыцы. Аднак паміж гіпербалоідам і лазерам ёсць істотная розніца. Гіпербалоід павінен даваць прамень са знішчальна высокай тэмпературай. Сіла ж лазера не ў высокай тэмпературы промня, а ў велізарным ціску святла. Гэта дае магчымасць прымяняць аптычныя генератары ў самых розных галінах навукі і тэхнікі. У недалёкім будучым іголкавыя пучкі светлавых хваль будуць апрацоўваць дэталі з любых матэрыялаў, бурыць самыя цвёрдыя горныя пароды, рабіць дакладную зварку, абясшкоджваць бактэрыі. Мала таго. Ужо існуе смелая ідэя выкарыстаць ціск промня святла аптычнага генератара для ўплыву на штучныя спадарожнікі Зямлі, скажам, пераводзіць іх з арбіты на арбіту. Няма нічога дзіўнага і ў тым, што па промню аптычнага генератара мяркуецца, як па проваду, перадаваць электраэнергію.

Такія першыя крокі квантавай электронікі — маладой навукі нашага часу. На думку савецкіх вучоных, атамная радыётэхніка ў наступныя дзесяць — пятнаццаць гадоў атрымае самае шырокае практычнае прымяненне.

**В. КАМАРОЎ.**

# КАЧАНОЎКА

**Сярод люстраных ставоў, акаймаваных зараснікамі чароту і ніцай вярбы, на прыгожых пагорках і кручах Ічнянскага раёна раскінуўся старадаўні парк Качаноўкі. Тут цяпер — дзяржаўны лясны запаведнік, а ў багатым палацы, які належаў панам Тарноўскім, — санаторый.**

**Калісьці хутар, размешчаны на месцы цяперашняга палаца, належаў казаку Прачаю. Кацярыне II спадабалася маляўнічая мясцовасць, і яна падарыла Качаноўку свайму фаварыту графу Румянцаву. Ішоў час. Маёнтак разам з некалькімі навакольнымі сёламі апынуўся ў руках новых гаспадароў, нашчадкаў**



Куток парку ў Качаноўцы.

кароннага гетмана Яна Тарноўскага.

Шэпчуцца векавыя дубы і таполі, клёны і каштаны, што выстраіліся цяністымі прысадамі. Да нядаўняга часу трымаўся лясны асілак, трохсотгадовы дуб, пад якім вечарамі любіў спяваць песні вялікі кабзар Тарас Шаўчэнка. Чатырнаццаць хлапчукоў, узяўшыся за рукі, ледзь абдымалі ствол сівога волата. Але не памаглі ні ланцугі, якімі падтрымліваліся заімшэлыя галіны, ні падпоркі. Дуб састарэў і загінуў.

Т. Р. Шаўчэнка некалькі разоў наведваў Качаноўку. Ён любіў гэтыя мясціны і нават казаў, што «няма ў мяне прытулку, акрамя Качаноўкі». Ён любіў вечарамі сядзець пад дубам, спяваць разам з сялянамі ўкраінскія песні.

Восемдзесят пакояў галоўнага палаца, пабудаванага па праекту архітэктара Кварэнці — вучня вялікага Расстрэлі, ніколі не пуставалі. Да Тарноўскіх прыязджалі госці з розных канцоў краіны. Гаспадар даражыў славай мецэната і лiберала. Ён нават апранаўся ва ўкраінскую кашулю і слуг апранаў у нацыянальныя жупаны. Ля дзвярэй стаялі запарожскія гарматы, а ў залах віселі карціны, купленыя за мяжой ці напісаныя мясцовымі мастакамі. У Качаноўцы захоўвалася багатая калекцыя старадаўняй зброі, казацкай вопраткі і іншых рэчаў, звязаных з гісторыяй Украіны. І калі мы цяпер успамінаем Тарноўскага, дык толькі таму, што ў творчасці вялікіх майстроў мінулага дзівакаваты пан пакінуў пэўны след.

У аповесці «Музыкант» Т. Р. Шаўчэнка піша:

«О, каб я быў вялікім майстрам пісаць! Я напісаў бы агромністую кнігу аб усіх бясчынствах, якія адбываюцца ў с. Качаноўцы!» Ён апісвае нейкага п. Арноўскага, які «акрамя розных палепшанняў па маёнтку, ад якіх мужычкі запішчалі» «завёў у сябе аркестр», «пабудаваў цудоўны тэатр», «завёў тэатральную школу, вядома, прыгонную». І далей: «Калі ўласныя артысткі падраслі і пачалі іграць ролі каханак і адалісак», ён завёў сабе «гарэм накшталт турэцкага султана».

Шаўчэнка не мог паважаць такога чалавека. Але ж ён прыязджае сюды ў 1844 годзе і яшчэ раз—у 1847 годзе. Што вабіла сюды ўкраінскага кабзара? Пасля ссылкі, за паўтара года да смерці, кабзар у апошні раз завітаў у Качаноўку і на развітанне ў альбоме ганаровых гасцей запісаў:

«І стежечка, де ти ходила,
Колючим терном поросла.
21 августа 1859 года.
В Качановке».

Каму прысвечаны гэтыя радкі? Хутчэй за ўсё, пляменніцы Тарноўскага, Марыі Сцяпанаўне Гжэсевіч (Кшэсевіч), па словах Шаўчэнкі, «цудоўнай жанчыне», да якой ён ставіўся па-сяброўску шчыра. Старыя людзі расказваюць, што памятаюць «ласкавую пані Марыю», якую ў маёнтку нібыта называлі «літвінкай». Шаўчэнка многа разоў сустракаўся з М. С. Гжэсевіч і нават захапляўся ёю.

Акрамя таго, у Качаноўцы доўгі час жыў і працаваў адзін з лепшых сяброў кабзара мастак В. І. Штэрнберг і многія іншыя людзі, якіх Шаўчэнка любіў і паважаў. Дастаткова сказаць, што ў Качаноўцы бывалі Глінка, Гогаль, Гулак-Артамоўскі, Марка Ваўчок. М. І. Глінка жыў і працаваў у Качаноўцы ў 1838 годзе. З Шаўчэнкам яны размінуліся. І гэта вельмі крыўдна, бо ў выніку сустрэчы маглі б з'явіцца геніяльныя творы. Шаўчэнка высока цаніў творчасць Глінкі, любіў яго музыку. Але даследчыкі сцвярджаюць, што яны наўрад ці былі знаёмыя. Тым не менш, сярод запрошаных на імяніны Н. Маркевіча (9 мая 1840 года) ёсць прозвішчы аднаго і другога. У гэты ж дзень у Пецярбургу быў напісаны верш «Н. Маркевічу»:

«Бандуристе, орле сизий!
Добре тобі, брате:



Галоўны палац.

Маеш крила, маеш силу,
Е коли літати.
Тепер лети ж в Украіну —
Тебе виглядають».

Як вядома, Н. Маркевіч быў сябрам Глінкі і яго сааўтарам па оперы «Руслан і Людміла». Глінка прыехаў на Украіну падбіраць спевакоў для імператарскай пеўчай капелы. У Кіеве ён забраў з царкоўнага хору (як ні супраціўляўся мітрапаліт — нічога не памагло!) таленавітага спевака С. Гулак-Артамоўскага і прывёз яго ў Пецярбург. Пасля напружаных заняткаў спявак выступіў у рускай оперы і меў вялікі поспех. У 1863 годзе Гулак-Артамоўскі напісаў оперу «Запарожац за Дунаем». Ён жа быў першы выканаўца глінкаўскіх твораў у Качаноўцы. Тут захавалася царква, дзе Глінка дырыжыраваў хорам. Цяпер у ёй клуб.

Глінка, як і Шаўчэнка, не любіў Тарноўскага. «...Усё выдавала ў ім залішнюю карыслівасць бяздзетнага гаспадара, які валодаў 9 000 душ і вялікімі багаццямі», — пісаў кампазітар. Глінка працуе не ў панскіх пакоях, а ў невялікай альтанцы пад высокімі дрэвамі на маляўнічым пагорку. У Качаноўцы былі напісаны партытура «Балады Фіна», «Марша Чарнамора», «Персідскага хору». Акрамя таго, у Качаноўцы Глінка напісаў два рамансы на словы ўкраінскага паэта В. Забілы (які таксама быў госцем Тарноўскага) «Гуде вітер вельми в полі» і «Не щебечи, соловейко». Тут жа быў створаны жартоўны «Гімн гаспадару».

Упершыню ўрыўкі з оперы «Руслан і Людміла» былі пастаўлены ў Качаноўцы сіламі прыгоннага аркестра і хору. Успамінаюць, што пры выкананні «Марша Чарнамора» званочкі замянілі крышталёвымі чарачкамі. Удзельнічалі ў пастаноўцы і госці, такія, як сусед Тарноўскіх П. Скарападскі, пра якога Шаўчэнка пазней пісаў:

«Оцей годований кабан!
Оце ледащо!»

Альтанка Глінкі захавалася да гэтага часу. На століі на сценах яе намаляваны казачныя персанажы з неўміручых опер кампазітара.

На абрывістым беразе става захаваліся руіны нейкай старадаўняй крэпасці. Сярод мясцовага насельніцтва бытавала многа страшных легенд пра яе. Славуты рускіх мастак Макоўскі ўвекавечыў іх у сваёй карціне «Вакханалія».

У Качаноўцы бывалі Шчэпкін, Врубель, Сяроў, Рэпін, Ге, Жамчужнікаў. У 1880 годзе І. Я. Рэпін прыехаў на Украіну працаваць над эскізамі да карціны «Запарожцы пішуць пісьмо турэцкаму султану». Ён замаляваў запарожскую зброю, сабраную гаспадаром, напісаў партрэт Тарноўскага, які стаў адным з правобразаў атамана Сярко.



Альтанка.

Фота аўтара.

У пачатку XX стагоддзя маёнтак купіў «цукровы кароль» Харытоненка, якога Мікалай II пяшчотна называў «залатой свіннёй». Харытоненка падарыў Качаноўку і адзін цукровы завод сваёй дачцы Елене, якая выйшла замуж за князя Урусава, а пасля змяніла яго на прыгажуна-аўстрыйца Оліва.

У дванаццатым нумары часопіса «Огонёк» за 1960 год змешчана сціплая рэпрадукцыя з партрэта Е. П. Оліў работы В. Сярова. Не ведаю, дзе быў напісаны гэты партрэт, але маладая жанчына, намаляваная Сяровым — новая гаспадыня Качаноўкі.

Старыя людзі расказваюць, што да рэвалюцыі доступ у Качаноўку быў забаронены. Вакол парку дзяжурылі «чаркесы» — сваім сялянам паны не давяралі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Качаноўцы быў адкрыты дзіцячы дом, а цяпер — цудоўны санаторый. Парк каля санаторыя адкрыты для ўсіх.

**Мікола АЛТУХОЎ.**



# МІНСКІ АЎТАТУРЫСЦКІ

Набліжаецца сонечнае лета — час адпачынку, падарожжаў і масавых спартыўных спаборніцтваў.

Як жа лепш за ўсё выкарыстаць свой адпачынак? Гэта пытанне кожны вырашае ў адпаведнасці са сваімі схільнасцямі і густамі. Адных вабіць мора, другія мараць пра турысцкія паходы, трэція рыхтуюць свае ўласныя аўтамашыны, матацыклы і матаролеры да падарожжаў па роднай краіне.

Каб дапамагчы аўтатурыстам, у нашай рэспубліцы арганізаваны кемпінгі, дзе створаны ўсе ўмовы для адпачынку.

На семнаццатым кіламетры ад Мінска, ля раз'езда Воўчкавічы, стаіць указальнік: «Да аўтатурысцкага лагера 1 км». Гэта — першы прыпынак для тых, хто пачаў сваё падарожжа па Савецкаму Саюзу з заходніх раёнаў рэспублікі.

Сярод купчастых сосен і беластвольных бяроз раскінуўся маляўнічы гарадок мінскага кемпінга. На бетаніраванай пляцоўцы адначасова можа стаяць каля ста аўтамашын.



Так уладзіліся турысты з Новай Зеландыі.

Вакол лагера ідзе шырокая кальцавая асфальтаваная дарога. Паабапал яе высаджаны каштаны і дэкаратыўны кустарнік. Да палатак пракладзены крыху вузейшыя дарожкі. Каля палатак, вакол пляцовак і па баках дарожак — шмат кветак.

На цэнтральнай алеі лагера збудаваны катэджы. У адным з іх — магазін харчовых і прамысловых тавараў, у другім — пошта і тэлеграф, у трэцім — рэстаран. У аддзяленні сувязі можна заказаць размову не толькі з гарадамі нашай краіны, але і з многімі гарадамі Еўропы. Тут жа размешчаны пункт па абмену замежнай валюты.

Побач з магазінам харчовых прадуктаў — грамадская кухня. Тут да паслуг прыезджых — самыя розныя электрычныя і газавыя пліткі, посуд, зручныя столікі з халадзільнікамі, тытаны з гарачай вадою.

Непадалёку ад кухні стаяць абліцаваныя белай кафляю душавыя кабінкі з гарачай і халоднай вадою.

На пункце пракату за невялікую плату можна атрымаць пасцельныя рэчы, раскладную мэблю, — усё, каб стомлены падарожнік мог добра адпачыць.

На вялікай верандзе — разнастайныя настольныя гульні, а на спартыўнай пляцоўцы заўсёды можна наладзіць імправізаваныя матчы па валейболу і тэнісу.

У лагеры заўсёды ажыўлена, весела, цікава. Тут пачуеш гаворку на розных мовах свету.

Побач з заправачным пунктам размешчана бетаніраваная эстакада для тэхнічнага догляду і абслугоўвання аўтамабіляў.

У вячэрні час з вокнаў рэстарана льецца неонавае святло, у зале на століках, засланых беласнежнымі абрусамі, прыгожа расстаўлены мельхіёравыя прыборы, хрустальныя бакалы, букеты кветак. Людзей прыцягвае сюды не толькі ўтульнасць памяшкання, але і адменная кулінарыя.

Уся тэрыторыя гэтага маляўнічага гарадка электрыфікавана і радыёфікавана.



А вось і савецкія турысты!

Проста ля палатак пачынаецца лес. Велічныя сосны ўверсе спляліся вяршалінамі. У сонечны дзень тут прыемна пахне смалою. Нават пасля праліўных дажджоў у гарадку заўсёды суха — пясчаная глеба добра паглынае вільгаць.

У гутарцы з намі начальнік лагера Мікалай Андрэевіч Рэдзькін расказаў, што мінскі кемпінг заваяваў шырокае прызнанне не толькі аўтамабілістаў Савецкага Саюза, але і турыстаў замежных краін. Толькі за мінулы сезон у лагеры пабывала 6 000 чалавек на 1 600 аўтамашынах.



Першыя сустрэчы, першыя знаёмствы.



Англійскім турыстам спадабаліся савецкія паштоўкі.

Ад сезона да сезона гарадок усё больш прыгажэе. Асабліва шмат зроблена ў гэтым годзе. Пастаўлена 70 новых чатырохмесных палатак, пабудаваны альтанкі. Цяпер у лагеры можа адначасова спыніцца больш 350 чалавек. Сёлета шырэй будуць практыкавацца аднадзённыя калектыўныя заезды экскурсантаў.

У цэнтры ўвагі работнікаў кемпінга — чалавек, клопат пра яго адпачынак.

Усё гэта вельмі падабаецца турыстам.

Вось некаторыя запісы з кнігі водгукаў: «Наш першы прыпынак у Савецкім Саюзе — мінскі кемпінг. Гэта самы сучасны кемпінг з тых, у якіх мы спыняліся. Вялікае дзякуй тым, хто яго зрабіў.

Муж і жонка Мур, Новая Зеландыя».

«Я спадзяюся, што ў будучым у Савецкі Саюз прыедзе яшчэ больш студэнтаў з усіх канцоў свету і будуць сустракацца з рускімі людзьмі. Толькі праз разуменне і сяброўства можа мацнець мір у свеце.

Кемпейн.
Міжнародная студэнцкая турыстычная асацыяцыя (ЗША)».

«Пакідаем вашу краіну з самымі найлепшымі ўспамінамі пра гэтую гасцінную зямлю і асабліва пра яе жыхароў, якія нас зачаравалі.

Французскі турыст Альфрэд Марсель».

Адпачыўшы, набраўшыся новых сіл — зноў у дарогу: глядзець, вывучаць, захапляцца!

**Анатоль ШМАТКОЎ.**



Маладыя мінчанкі на адпачынку.

# ПАВУЦІННЕ ФАШЫЗМУ

У краіне «жоўтага д'ябла» расце агідны спрут. Яго шчупальцы пакідаюць ужо свае сляды-свастыку на сценах дамоў Нью-Йорка і Каліфорніі, Тэхаса і Алабамы. Крывавае пахмелле кружыць галовы новаяўленым «фюрэрам», «фаўндэрам» і іншым фашысцкім вылюдкам, якія называюць сябе крайне правымі або «ўльтра».

Праклятую свастыку корміць яе даўнішні верны абаронца — долар. У чорных справах фашыстаў жывы ўдзел прымаюць «божыя слугі» ўсіх масцей — каталікі, пратэстанты, баптысты. Долар, крыж і свастыка складаюць адзіны саюз.

Фашызм у дзверы Злучаных Штатаў пачаў стукаць даўно. Дучэ Беніта Мусаліні яшчэ ляжаў у пялёнках, калі куклуксклануўцы спальвалі і вешалі неграў. Яшчэ не было мянушкі Гітлер у яфрэйтара Адольфа Шыкльгрубера, а прыхільнікаў міру ў краіне статуі Свабоды тэрарызаваў Амерыканскі легіён.

Шмат гадоў амерыканская рэакцыя вяла кампанію паклёпаў супраць камуністычнай партыі ЗША, жорстка праследавала яе кіраўнікоў і радавых членаў. Цяпер душыцелі свабоды пайшлі на крайнія меры. На падставе прынятага ў 1950 годзе драконаўскага закону Макарэна аб праследаваннях за «падрыўную дзейнасць» кампартыя павінна зарэгістравацца ў якасці «агента замежнай дзяржавы», выдаць уладам спісы сваіх членаў, прадставіць дадзеныя аб сваіх сродках і іншыя звесткі. Калі б амерыканскія камуністы выканалі гэтыя патрабаванні, у дзеянне неадкладна ўступіў бы другі рэакцыйны закон — закон Сміта, згодна якога «агенты замежных дзяржаў» павінны быць пасаджаны ў турмы або высланы ў канцлагеры.

Ніколі яшчэ з часоў Гітлера за прыналежнасць да камуністычнай партыі не пагражала больш жорсткая расправа, чым тая, да якой дадумаліся інквізітары з Вашынгтона. Кожны дзень пропуску рэгістрацыі цягне за сабой нечуванае пакаранне — пяць год турэмнага зняволення і 10 тысяч доларам штрафу.

Пагроза навісла не толькі над камуністамі. У ліку «падрыўных» арганізацый названы Нацыянальны савет амерыкана-савецкай дружбы і шэраг іншых грамадскіх арганізацый.

У той жа час амерыканскія правячыя колы прадстаўляюць поўную свабоду дзейнасці шматлікім фашысцкім і паўфашысцкім

арганізацыям, такім, як «Таварыства Джона Бэрча», «Амерыканскі легіён», «Крыжовы паход хрысціян», «Амерыканская нацысцкая партыя». Ні адну з гэтых арганізацый у Вашынгтоне не лічаць падрыўной, і гэта зразумела: усе яны актыўна служаць інтарэсам манаполій, з'яўляюцца злоснымі ворагамі камунізма.

Вось ён, амерыканскі фашызм без маскі.

## КУМІР ГРАШОВАГА МЯШКА

Уладальнік кандытарскай фабрыкі ў горадзе Белмонце, што ў штаце Масачусетс, Роберт Уэлч любіў здзіўляць сваіх служачых працавітасцю. Звычайна раніцой, неахайны і няголены, ён чакаў іх ля дзвярэй канторы і, кісла вітаючыся, заўважаў мімаходам, што яму зноў прыйшлося працаваць усю ноч. Натхнёныя стараннем свайго боса, бедныя кандытары, як кажуць, «гарэлі» на рабоце. Так працягвалася да таго часу, пакуль начны вартаўнік выпадкова не выявіў, што містэр Уэлч па начах спакойна спіць на мяккім матрацы ў сваім кабінеце. За лішнюю балбатлівасць вартаўніка прыйшлося звольніць, а спектакль спыніць.

На жаль, гэты выпадак не адбіў у Роберта Уэлча ахвоты да меладраматычных эфектаў. Выраб пернікаў і шакаладу здаўся яму справай вельмі празаічнай, і ён знайшоў сабе новы занятак: вырашыў стаць пераемнікам «паляўнічага за ведзьмамі» нябожчыка сенатара Джо Макарці. У снежні 1958 года Уэлч аб'явіў адзінаццаці амерыканцам, якія сабраліся па яго запрашэнню ў горадзе Індыянаполісе, аб тым, што яны прымаюць удзел у новым руху, які мае гістарычнае значэнне. Так была створана антыкамуністычная арганізацыя — «таварыства Джона Бэрча».

Хто такі Джон Бэрч, чым ён «праславіўся»? Яшчэ зусім маладога Бэрча завербавала амерыканская разведка. Перад другой сусветнай вайной яго ў якасці баптысцкага місіянера накіравалі ў Кітай. Калі пачалася вайна з Японіяй, Джон пачаў старанна выконваць шпіёнскія заданні ў кітайскім тыле. Але кар'ера шпіёна ў сутане свяшчэнніка аказалася нядоўгай. У жніўні 1945 года яго забілі. Вось гэты тып, якога ўпрыгожылі арэолам пакутніка, і зрабіўся ідалам Уэлча і яго памагатых.

Былы прэзідэнт ЗША Трумэн у парыве шчырасці назваў бэрчыстаў «куклукскланаўцамі без балахонаў». Даволі трапнае параўнанне! Бэрчысты сапраўды не лічаць патрэбным хавацца за агідную маску белых расістаў. Яны робяць чорныя справы з адкрытым забралам.

«Таварыства Джона Бэрча» не саромеецца ў выбары сродкаў. З дапамогай паклёпніцкіх пісьмаў і тэлефонных званкоў яно тэрарызуе грамадзян, дабіваецца звальнення ўсіх, хто не згодзен з фашысцкімі ідэямі.

У гутарцы з амерыканскім карэспандэнтам Чайлдсам адзін грамадзянін з штата Канзас, які пажадаў на ўсялякі выпадак застацца невядомым, так гаварыў аб дзейнасці бэрчыстаў: «Яны ствараюць ударныя атрады. Сярод ночы звоняць па тэлефоне настаўнікам школ і выкладчыкам мясцовага каледжа і лаюць іх, называючы камуністамі. Яны вярбуюць сваіх шпіёнаў сярод дзяцей, прымушаючы апошніх пераймаць усё, што гавораць іх выкладчыкі ў класе. Загадзя рыхтуюцца спісы ўсіх «падазроных» людзей».

Як некалі гітлераўскія штурмавікі, бэрчысты ўрываюцца ў школы, каледжы, на вечары і сходы, дэбашыраць, хуліганяць, наладжваюць пабоішчы. У штаце Паўднёвая Караліна сотня малойчыкаў уварвалася на вечар моладзі, хуліганіла, лаялася, зневажала прысутных.

Але не падумайце, што члены «Таварыства Джона Бэрча» займаюцца толькі дробным разбоем і хуліганствам. Не! Шмат часу яны адводзяць пытанням так званай вялікай палітыкі. Іх погляды мала чым адрозніваюцца ад поглядаў гітлераўцаў. Яны нават пераўзышлі сваіх духоўных айцоў.



Гітлер, як вядома, называў бальшавізм сваім ворагам № 1. Ён рынуўся ў крыжовы паход на Савецкі Саюз і зламаў сабе шыю. Цяпер Уэлч з тупой і незайздроснай упартасцю працягвае сцвярджаць, што камунізм «пагражае» Злучаным Штатам. А калі так, то трэба тэрмінова пачынаць вайну супраць СССР.

Антыкамунізм заўсёды ішоў побач з фашызмам. Паслухайце, напрыклад, якую праграму прапаведуюць бэрчысты. Яны лічаць сацыяльнае страхаванне, законы аб мінімальнай заработнай плаце, дапамогу асвеце і наогул любыя кущыя капіталістычныя рэформы часткай «камуністычнай змовы» (!?). Але і гэта не ўсё.

Як піша карэспандэнтка агенцтва Юнайтэд Прэс Інтэрнейшнл Бундшу, якой удалося пагутарыць з «фаўндэрам» Уэлчам, апошні «фактычна хацеў бы адмяніць XX стагоддзе... Ён хацеў бы адмяніць усе сацыяльныя і эканамічныя законы, прынятыя ў апошнія трыццаць год». А ўсіх тых, хто лічыць, што трэба неяк прыстасоўвацца да ўмоў XX стагоддзя, бэрчысты разглядаюць як «пешак камуністаў» і «здраднікаў» амерыканскага ладу жыцця. Ці ёсць яшчэ большая мяжа цемрашальства? Ці варта пасля гэтага здзіўляцца, што Уэлч адносіць такіх махровых рэакцыянераў і ворагаў міру, як Джон Фостэр Далес, мільярдэр Ракфелер і нават Эйзенхауэр, да разраду «спадарожнікаў камуністаў».

Замежны і амерыканскі друк аднадушна адзначае, што «Таварыства Джона Бэрча» адыгрывае самую жудасную ролю на палітычнай сцэне ЗША, мае найбольшую сілу. У чым жа справа? Прыблізная колькасць членаў «Таварыства Джона Бэрча» не такая ўжо вялікая — каля 50 тысяч. Але давайце паглядзім, хто ўзначальвае гэтую «самую раз'юшаную групоўку», хто кіруе ўсімі яе справамі?

Як піша журналіст М. Ньюберы, у ліку кіраўнікоў «Таварыства Джона Бэрча» знаходзяцца чатыры былыя прэзідэнты нацыянальнай асацыяцыі прамыслоўцаў, шмат «радавых» мільярдэраў і банкіраў, адміралы і генералы ў адстаўцы, у тым ліку генералы Ведэмейер, Стоун, Лі, Уілоубі, былы старшыня камітэта па міжурадавых адносінах пры Эйзенхауэры Кларэнс Маніон, былы старшыня Вярхоўнага суда штата Арызона Фелпс і шмат іншых асоб высокага рангу. Сярод кангрэсменаў таксама ёсць зацятыя прыхільнікі бэрчыстаў. Рэспубліканцы ад штата Каліфорнія Хістэнд і Руслот публічна прызналі, што яны з'яўляюцца членамі гэтага таварыства. Другія пакуль што трымаюць язык за зубамі, чакаюць больш зручнага выпадку. Характэрна, што з бэрчыстамі адкрыта братаюцца такія махровыя рэакцыянеры ў кангрэсе ЗША, як сенатары Галдуоцер, Істленд і член палаты прадстаўнікоў ЗША Уолтэр. Гэтыя «паляўнічыя за ведзьмамі» шлюць найлепшыя пажаданні бэрчыстам. Сенатар Істленд, напрыклад, які з'яўляецца старшынёй праслаўтай падкамісіі па пытаннях унутранай бяспекі, вітаў «Таварыства Джона Бэрча» як «патрыятычную арганізацыю». Як бачым, у Істленда вельмі своеасаблівае ўяўленне аб «патрыятызме».

Бэрчысты вярбуюць сваіх прыхільнікаў усюды, стараюцца пусціць карэнне, дзе толькі можна.

І трэба сказаць, што ім многае ўдалося. Асабліва вялікі ўплыў «Таварыства Джона Бэрча» сярод ваеншчыны. Нядаўна старшыня сенацкай камісіі па замежных справах Фулбрайт у мемарандуме на імя прэзідэнта ЗША адкрыта пісаў, што «афіцэры абавязковай службы аказваюць падтрымку членам «Таварыства Джона Бэрча», якое можа быць названа неафашысцкім». Пентагон і яго гіганцкая машына вайны асабліва прыцягвае да сябе ўвагу бэрчыстаў, якія імкнуцца расставіць сваіх верных людзей ля кнопак ядзернай вайны, каб трымаць свет на грані катастрофы.

Як бачыце, у абстаноўцы ваеннага чаду і псіхозу амерыканскія неафашысты адчуваюць сябе, нібы рыба ў вадзе

## ЧОРНЫЯ СПРАВЫ І КРЫЖ

...Атэль «Шэратон» у Чыкага даўно ўжо не бачыў такога наплыву «салідных» гасцей, як восенню 1961 года. Сюды для ўдзелу ў з'ездзе з'ехалася каля сямісот прадстаўнікоў усіх правых арганізацый краіны.

Галоўны арганізатар гэтага зборышча Білі Джэймс Харгіс, аднак, вырашыў не парушаць прынцыпаў сваёй асабістай бяспекі і таму ў атэлі не спыніўся. Ён пасяліўся ў цесным салоне аўтобуса, спецыяльна пераабсталяванага пад спальны пакой і забяспечанага ўстаноўкай для кандыцыяніравання паветра.

Сцены залы атэля «Шэратон» аж дрыжалі ад апладысментаў, калі кіраўнік «Таварыства Джона Бэрча» Роберт Уэлч абвясціў свой любімы лозунг:

— У нас рэспубліка, а не дэмакратыя, і мы павінны захаваць яе!

Уэлч тут жа растлумачыў значэнне гэтага лозунга: дэмакратыя — «улада натоўпу, а рэспубліка — «улада закону». Для захавання ў Амерыцы «ўлады закону», трэба добра «страсянуць амерыканскі народ». Другі ўдзельнік з'езда рэспубліканец ад штата Каліфорнія Джон Руслот у сваім выступленні надаў думкам духоўнага пастара больш канкрэтную форму. Ён сказаў:

— Я сцвярджаю, што 70 працэнтаў людзей, якія займаюць дзяржаўныя пасады, — яўныя сацыялісты!

Гэта было ўжо занадта! 700 «сапраўдных амерыканцаў» тут жа вырашылі стварыць новае «Брацтва выратавальнікаў краіны», каб каардынаваць свае дзеянні. Яно будзе мець групы ва ўсіх евангелісцкіх абшчынах.

Кожная з гэтых груп, а іх налічваецца каля трох тысяч, павінна павялічваць паток пісьмаў членам кангрэсу і пераконваць прадпрымальнікаў, каб яны арганізавалі па радыё і тэлебачанню праграмы аб мясцовым патрыятызме, таму што «патрыятызм аплочвае сябе».

Як на любым салідным з'ездзе ў атэлі «Шэратон» былі прыняты рэзалюцыі. Яны прапануюць правесці ў кангрэсе расследаванне «антыкамуністычнай канспірацыі» кампартыі, дабіцца выхаду Злучаных Штатаў з ААН, арганізаваць падтрымку камісіі палаты прадстаўнікоў па расследаванню антыамерыканскай дзейнасці, адмяніць сацыяльнае забеспячэнне і гэтак далей.

На развітанне, як паведамляе карэспандэнт «Нейшнл гардзіен» Лоурэнс Эмеры, дэлегаты атрымалі разнастайныя штампы з лозунгамі, каб ставіць іх на сваіх пісьмах. Лозунгі даволі выразныя: «Езус выратуе!», «Атэізм гэта опіум марксізма», «Расплюшчым Фідэля!» і, нарэшце, «Нарада ў вярхах вядзе да катастрофы».

Арганізатар з'езда Білі Харгіс задаволена паціраў рукі: з'езд прайшоў удала. Ён тут жа аб'явіў новаспечаную кааліцыю «апошняй спробай выратаваць Амерыку».

Гэтаму трыццацішасцігадоваму свяшчэнніку-евангелісту з маленькага гарадка Талса, што ў Аклахоме, як і Уэлчу, даўно не давала спакою сумная слава Адольфа Гітлера. Пырскаючы слінай і нервова жэстыкулюючы, ён абвінаваціў пратэстанцкіх свяшчэннікаў у тым, што яны толькі прыкідваюцца свяшчэннікамі, а на самой справе з'яўляюцца агентамі чырвоных. Яму здавалася, што чырвоныя ўсюды — у малельнях і Белым доме, Капітоліі і Вярхоўным судзе. Што ж датычыць Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, то Харгіс не раз крычаў сваім слухачам: «Утопім гэта гняздо шпіёнаў і сабатажнікаў у Атлантычным акіяне!»

Спачатку гараджане Талса адносіліся да гэтых заклікаў вельмі лёгкадумна — ці мала што вярзе звар'яцелы чалавек! Але Білі Харгіс не супакойваўся. Ён хацеў, каб яго заўважылі людзі, якія мелі ўладу. І дабіўся свайго. «Дзейнасць» маладога евангеліста прыцягнула ўвагу бізнесменаў. Харгіс з'явіўся на палітычным гарызонце. У 1950 годзе ён заснаваў арганізацыю «Крыжовы паход хрысціян», якая з'яўляецца цяпер, паводле яго слоў, «буйнейшай у Амерыцы антыкамуністычнай арганізацыяй». У 40 штатах яна аб'ядноўвае 100 тысяч чалавек. Бюджэт крыжаносцаў — 75 тысяч долараў у месяц. Кожны месяц яны рассылаюць 250 тысяч экземпляраў сваіх кніг.

Адчуўшы салідную падтрымку, Харгіс разгарнуў шалёную дзейнасць і стварыў яшчэ адну фашысцкую арганізацыю, якая называе сябе «Мы, народ».

Наваяўлены фюрэр у сутане свяшчэнніка вырашыў праславіць свой родны горад, зрабіўшы Талс цэнтрам па барацьбе з камунізмам. Тут крыжаносцы XX стагоддзя вырашылі пабудаваць сваю штаб-кватэру. Ужо цяпер гэты штаб мае 50 платных супрацоўнікаў. Харгіс праводзіць гутаркі па радыё і тэлебачанню. І не толькі ў Талсе! Яго штодзённыя пасланні перадаюцца сямюдзесяццю радыёстанцыямі ад Новай Англіі да Заходняга ўзбярэжжа.

Ён носіцца ў сваім аўтобусе з канца ў канец Амерыкі і крычыць:

— Знішчыце камунізм у краіне — і вырашыцца праблема Амерыкі ў адносінах камунізма ў міжнародным плане!

Кажуць, што рыбак рыбака бачыць здаляка. У апошні час на ўсіх фашысцкіх зборышчах «братоў у Хрысце», якія арганізоўваюцца Харгісам, маячыць фігура Уэлча. Старшыня «Таварыства Джона Бэрча» стаў галоўным прамоўцам у крыжаносцаў. Харгіс і Уэлч стараюцца, і па ўсёй Амерыцы, нібы грыбы пасля дажджу, узнікаюць новыя фашыствуючыя групы і арганізацыі.

У Паўднёвай Каліфорніі ёсць арганізацыя «Хрысціянскі крыжовы паход супраць камунізма», якую ўзначальвае Фрэд Шварц. Гэты эскулап па прафесіі, фашыст па прызванню нядаўна дагаварыўся да таго, што аб'явіў выступленні Вялікага тэатра Саюза ССР у Нью-Йорку нічым іншым, як «тактычным прыёмам у «халоднай вайне». Крыжаносцы Шварца сваю галоўную ўвагу сканцэнтравалі на ідэалагічнай рабоце сярод амерыканскіх кіназорак. Яны наладзілі ваяўнічы мітынг пад назвай: «Адказ Галівуда камунізму», які тры гадзіны перадаваўся па тэлебачанню ў 34 гарады. Шварц сцвярджае, што 70 тысяч чалавек уносяць грошы ў касу яго арганізацыі.

У Кліўлендзе група царкоўных кіраўнікоў і прадпрымальнікаў стварыла «Кліўлендскі савет інфармацыі аб камунізме», які павінен «паведаміць раёну аб метадах, гісторыі і небяспецы камунізма».

У Сент-Луісе шэсць епіскапаў і свяшчэннікаў рымска-каталіцкай царквы сталі першымі членамі савета фонда кардынала Міндсенці, які асуджаны за шпіёнскую дзейнасць судом Венгерскай Народнай Рэспублікі. Гэты фонд створан у якасці «антыкамуністычнай групы асветы і дзеяння». Фашыствуючыя епіскапы паведамілі, што «час ад часу ў яго будуць прымацца новыя спецыялісты па стратэгіі і прапагандзе міжнароднай змовы».

## ТОЕ-СЁЕ ПРА «АБУРАНЫХ»

Каго толькі няма сярод амерыканскіх «ультра»! Прамысловыя магнаты і цвёрдалобыя ваенныя, баптысцкія прапаведнікі і студэнты-недавучкі. Аб дзейнасці аднаго такога студэнта Фрэнка Макгі хочацца расказаць больш падрабязна. Некалькі месяцаў назад гэты трыццацідвухгадовы ёлуп, які так і не змог стаць юрыстам, стварыў у Тэхасе «Канвенцыю нацыянальнага абурэння». Вось як апісвае зборышча «абураных» часопіс «Ньюсуік»:

«Пад апладысменты і крыкі 1 800 дэлегатаў «Канвенцыі нацыянальнага абурэння» моцны тэхасец пакінуў сваё месца ў глядзельнай зале і накіраваўся да сцэны каласальнай мадэрнісцкай мемарыяльнай залы ў Даласе, штат Тэхас. На ім чорныя каўбойскія боты, карычневая шатландская кашуля і яркі гальштук, у руцэ — белы капялюш велізарных памераў, яго худая фігура, поўная спакойнай рашучасці, надае яму падабенства да Гары Купера.

Тэхасца прадставіў Том Андэрсан з Нэшвіла, які сам толькі што быў выкліканы з залы. Эвотс Хэйлі, «вялікі патрыёт», падышоў да мікрафона і, расцягваючы словы, паведаміў, што праехаў за шэсць гадзін чатырыста міль, каб трапіць на гэты сход са свайго дому ў Каньоне.

— Я нядаўна ўступіў у рады спальвальнікаў кніг, — загнусавіў ён пад задаволеныя воклічы прысутных, якія ведалі яго як чалавека, што зусім нядаўна запатрабаваў забраць са школ некаторыя кнігі, у тым ліку адну па музыцы.

— Том Андэрсан паказаў сябе тут умераным, — працягваў Хэйлі. — Ён хоча толькі абвінаваціць старшыню Вярхоўнага суда ЗША Эрла Уорэна ў дзяржаўным злачынстве, а я за тое, каб павесіць яго. (Смех.)»

Каментарыі, як кажуць, лішнія. І так відаць, чым займаецца «Канвенцыя нацыянальнага абурэння», заснаваная студэнтам-недавукам. Можна было б не надаваць значэння руху «абураных», або супер-патрыётаў, як яны сябе называюць, а, прасцей кажучы, фашыстаў. Але нават штотыднёвік «Ньюсуік», рэдакцыю якога наўрад ці можна западозрыць у сімпатыях да дэмакратычных свабод, выказвае трывогу з прычыны хуткага росту гэтай арганізацыі. «Абураныя» правялі ўжо сходы ў 90 гарадах краіны, яны выстаўляюць шэраг ультракансерватыўных патрабаванняў, падтрымліваюць заклік «Таварыства Джона Бэрча» прызнаць дзяржаўным злачынцам старшыню Вярхоўнага суда Уорэна, які адмоўна адносіцца да дзейнасці крайне рэакцыйных арганізацый на той падставе, нібыта суддзя «схіляецца да камунізма».

«Зусім відавочна, — робіць вывад часопіс, — што «Канвенцыя нацыянальнага абурэння», таксама як і іншыя арганізацыі, якія хутка размнажаюцца, мае вопытных кіраўнікоў і добра фінансуецца». Шчырае прызнанне!

## «МІНІТМЕНЫ» БЯРУЦЦА ЗА ЗБРОЮ

...У ваколіцах горада Колінсвіла ў штаце Ілінойс нядаўна пачуліся гарматныя залпы і трэск аўтаматаў. Гэтую страляніну адкрылі на сваіх «манеўрах» атрады паўфашысцкай арганізацыі «мінітменаў».

У часы барацьбы амерыканскага народа за свабоду і незалежнасць Злучаных Штатаў так называлі сябе патрыёты, якія першымі ўзяліся за зброю. Цяпер сцягам «мінітменаў» хоча прыкрыць сваю дзейнасць фашысцкі зброд.

Верхавод «мінітменаў» Робер Балівар дэ Пью называе сябе не інакш, як «нацыянальным камандуючым». Ён заявіў карэспандэнтам, што яго «армія» налічвае ў розных раёнах Злучаных Штатаў 25 тысяч членаў і ўзброена аўтаматамі, 57-міліметровымі мінамётамі, 60-міліметровымі марцірамі, супрацьтанкавай ракетнай устаноўкай. Акрамя Колінсвіла, як хваліцца дэ Пью, «мінітмены» паспелі правесці «палявыя манеўры» і ў іншых месцах. Яны вучацца ваенным дзеянням, лічачы сябе «апошняй лініяй абароны супраць камунізма».

— Трэба перастаць раздумваць над тым, — заявіў гэты «нацыянальны фюрэр», — ці пачнецца трэцяя сусветная вайна ці не і калі. Яна пачалася ўжо, мы загразлі ў ёй па вушы.

Закончыўшы двухдзённыя «вучэбныя палявыя манеўры» ў штаце Місуры, дэ Пью больш грунтоўна растлумачыў суайчыннікам задачы сваёй арганізацыі. Аказваецца, бліжэйшая мэта «мінітменаў» — стварэнне ўсеамерыканскай сеткі шпіянажу.

Каб пераканаць будучых кліентаў у саліднасці сваёй «фірмы», Роберт дэ Пью падняў заслону таямнічасці, якую напускаюць на сябе «мінітмены». Аказваецца, гэта ўзброеная арганізацыя складаецца з вялікай колькасці тайных груп па 10 — 15 чалавек. Іх удзельнікам прысвоены нумары і кожны ведае не больш дзесяці працэнтаў астатніх членаў арганізацыі. Дзеянні груп накіроўваюць «рэгіянальныя каардынатары», якія ў сваю чаргу падпарадкаваны «нацыянальнаму штабу». Ён знаходзіцца ў горадзе Індэпендэнс, штат Місуры.

Дэ Пью ўзмоцнена рэкламуе сваіх галаварэзаў як людзей «высокіх маральных перакананняў, з бездакорнай рэпутацыяй». Але вось як выглядаюць яны на самай справе.

«Рэгіянальным каардынатарам» у паўднёвай частцы штата Ілінойс быў назначан Рычард Лочлі з Колінсвіла, які шмат разоў арыштоўваўся за розныя

---

# НАСТАЎНІК І СЯБАР

**Да 50-годдзя мастака С. П. Каткова**

Сярод мастацкіх палотнаў у беларускім аддзеле Усесаюзнай мастацкай выстаўкі 1961 года вялікую ўвагу наведвальнікаў прыцягваюць пейзажы мастака С. П. Каткова. Гледачоў хвалюе бадзёры настрой імклівага жыцця, перададзены аўтарам, а мастакоў-прафесіяналаў прымушаюць задумацца сродкі, якімі ён перадае сваё бачанне жыцця.

А калі б мы — глядач і мастак — сустрэліся на персанальнай выстаўцы Сяргея Пятровіча ў залах Саюза мастакоў Беларусі, то, убачыўшы каля трохсот яго работ, напісаных за дваццаць з лішнім гадоў, зразумелі б душу аўтара, адчулі б яго жаданне паказваць жыццё светлымі і суровымі, ласкавымі і мужнымі фарбамі. Гэты цудоўны запал—умець размаўляць колерамі, выказваць свае думкі моваю фарбаў—заўсёды спыняе наведвальнікаў ля палотнаў мастака. Уражвае яго імкненне «задумаць» кожную карціну, а не скапіраваць убачанае, мэтанакіраванасць кампазіцыі кожнага твора.

Нам, майстрам «балотна-перапесачных» матываў і пахілых хацін, не шкодзіла б павучыцца ў Сяргея Пятровіча, як трэба адлюстроўваць у сваіх творах сучасную Беларусь.

Юная і радасная творчасць мастака. Юны і радасны ён сам, хоць больш чвэрці стагодддзя аддаў выхаванню самых маленькіх мастакоў — дзяцей. Многія з нас, выпускнікоў мастацкіх навучальных устаноў Мінска, Масквы, Ленінграда, Віцебска, самі ўпершыню «нюхалі» фарбу і задумваліся над карцінамі пад сяброўскім поглядам Сяргея Пятровіча. Таму ад усёй душы дзякуем яму за гэта.

**У. СТЭЛЬМАШОНАК.**

Малюнкі, якія ў першыя пасляваенныя гады я паказваў кіраўніку мастацкай студыі пры Мінскім палацы піянераў Сяргею Пятровічу Каткову, былі слабыя. Пра гэта я здагадаўся значна пазней. А тады, пры першым знаёмстве, уважліва разглядаючы мае работы, Сяргей Пятровіч падбадзёрыў мяне, даў слушныя парады і заўвагі. З надзеяй на поспех я ўзяўся за маляванне, бо ў такім узросце вельмі многае залежыць ад педагога. У гэтым я пераканаўся яшчэ раз, калі наведаў нядаўна рэспубліканскую выстаўку творчасці дзяцей. Большасць малюнкаў, якія прыцягнулі ўвагу наведвальнікаў, належала вучням Сяргея Пятровіча. Таленавіты мастак, чулы настаўнік і сябар, ён шмат сіл аддае выхаванню мастацкага таленту дзяцей, развіццю іх творчасці.

Шчыра ўзрадавала нас, былых яго вучняў, юбілейная выстаўка самога Сяргея Пятровіча. Тут і замалёўкі ваенных гадоў, і пейзажы, якія паказваюць прыгажосць старажытнай архітэктуры, і нашы сённяшнія новабудоўлі. Усё гэта сведчыць аб творчым гарэнні мастака, аб цеснай сувязі з часам, з жыццём. Існуе вядомы афарызм: «Калі можаш не пісаць — не пішы». Сяргей Пятровіч не можа не пісаць, таму што не ўяўляе жыцця без творчасці.

**Марк ДАНЦЫГ.**

крымінальныя злачынствы. Калі карэспандэнты спыталі ў дэ Пью, чаму яго выбар выпаў на гэтага чалавека, «нацыянальны камандуючы» нахабна заявіў: «Гэта было свайго роду выражэнне давер'я Лочлі».

Роберт дэ Пью ліхаманкава вярбуе новых «салдат», прычым не скупіцца на грошы. Нядаўна ў модным атэлі «Дэнвер-Хілтан» у горадзе Дэнвер ён наладзіў сустрэчу са сваімі будучымі «партызанамі».

Як сцвярджае Роберт дэ Пью, «мінітмены» не маюць непасрэднай сувязі з «Таварыствам Джона Бэрча». Але ж дзеянні і выказванні яго шайкі нічым не адрозніваюцца ад задум «фаўндэра» Уэлча. Гэта аднаго поля ягады.

## ПА СЛЯДАХ ЗВАР'ЯЦЕЛАГА ЯФРЭЙТАРА

Вакханалія, пачатая з мэтай «умацавання міру з дапамогай вайны» і апраўдання драконаўскіх мер макартыстаў, якія мараць пасадзіць усіх камуністаў за турэмныя краты, прыцягвае галоўным чынам па-мілітарысцку настроеных ваенных і прамыслоўцаў. І хоць верхаводы фашысцкіх арганізацый не адважваюцца адкрыта называць сябе паслядоўнікамі Гітлера і Мусаліні, іх нахабнасць расце. У Арлінгтоне на адным з будынкаў красуецца шыльда: «Штаб Амерыканскай нацысцкай партыі. За ўваход без дазволу — куля ў лоб. Няпаўналетнім уваход забаронен». Адсюль ва ўсе канцы Амерыкі ідуць пісьмы, упрыгожаныя свастыкай. Да пісьмаў прыкладзены бланкі заяў аб уступленні ў партыю і «Кіраўніцтва для байцоў». У ім чорным па беламу напісана, што амерыканская нацысцкая партыя «працягвае справу немца Адольфа Гітлера».

Нядаўна ў штаб-кватэры амерыканскіх нацыстаў пабываў карэспандэнт штотыднёвіка «Ньюсуік». Дакументы рэпарцёра старанна праверыў «лейтэнант» Бернард Дэвіс, затым яго прапусцілі ў дом. У адным з пакояў ён убачыў амерыканскі сцяг у акружэнні двух нацысцкіх сцягаў. Чатыры свечкі асвятлялі бронзавы барэльеф Адольфа Гітлера. Побач, на стале, ляжала кніга верхавода амерыканскіх нацыстаў Джына Лінкольна Ракуэла, якая носіць фанатычную назву: «Цяпер увесь свет будзе наш».

Нават газетчык, які прывык нічому не здзіўляцца, крыху атарапеў, убачыўшы такое. Але вось як ён сам апісвае тое, што адбылося далей:

«Ракуэл, высокі, дужы чалавек 43 год, спусціўся па лесвіцы (прыхільнікі сустрэлі яго крыкам «Зіг хайль!» і нацысцкім прывітаннем) і пачаў манатонны маналог: «Камунізм ёсць зборышча злачынцаў з усяго свету, узначальваемае яўрэямі... натоўп слабавольных людзей. Таксама, як і містэр Уэлч, я ўпэўнены, што Эйзенхауэр — камуніст».

Малойчыкі са свастыкай на рукавах адкрыта распаўсюджваюць фашысцкую літаратуру, пагражаюць прагрэсіўным палітычным дзеячам. Паліцыя іх не чапае.

Зусім нядаўна нацысты вырашылі наладзіць мітынг на Юніён скверы ў Нью-Йорку. Загадчык ньюйоркскімі паркамі Ньюбалд Морыс адмовіўся выдаць ім дазвол. Нацысты падалі на Морыса ў суд. Вось яна, амерыканская «свабода» ў дзеянні!

Верхавод нацыстаў Ракуэл збіраўся нават выставіць сваю кандыдатуру на выбарах губернатара штата Віргінія. Калі ашаломленыя такой нахабнасцю карэспандэнты звярнуліся да яго за тлумачэннем, Ракуэл здзівіўся: што ж тут такога? Ці ж нацысты не маюць партыі? А калі маюць, значыць, будуць выстаўляць сваіх кандыдатаў на розных выбарах.

Прылаўкі многіх амерыканскіх магазінаў і кіёскаў завалены кнігамі са свастыкай на вокладцы.

Галівуд зрабіў гадаванцаў звар'яцелага фюрэра галоўнымі героямі сваіх фільмаў. Да паслуг любога — камплекты пласцінак з прамовамі Гітлера, ноты, песні і маршы трэцяга райха.

Атрутныя зерні нацызму знаходзяць спрыяльную глебу сярод моладзі.

Паводле паведамленняў друку, толькі ў адным з 12 падручнікаў па гісторыі для каледжаў адносна падрабязна расказваецца аб нацысцкім рэжыме ў Германіі.

Паводле патрабавання фашыстаў яўных і замаскіраваных ва ўсіх муніцыпальных і сярэдніх школах намячаецца ўвесці курс «аб пагрозе камунізма».

У Фларыдзе новы закон патрабуе, каб да верасня 1962 года ва ўсіх сярэдніх школах быў уведзен 30-гадзінны курс — «амерыканізм супраць камунізма». Заканадаўчы сход штата Луізіяна зацвердзіў 30 тысяч долараў штогод на правядзенне семінараў для вучняў сярэдніх школ па пытаннях «тактыкі і стратэгіі камунізма». У многіх іншых штатах вывучэнне падобных курсаў або абавязковае, або настойліва рэкамендуецца заканадаўчымі сходамі і ўпраўленнямі па пытаннях асветы.

І ўсё ж амерыканскія «ўльтра» не ў сілах заглушыць цікавасць радавога амерыканца да ідэй камунізма. Вось, напрыклад, з якой просьбай звярнуўся нядаўна да маскоўскіх студэнтаў Роберт Хант з Каліфорніі:

«Мы пачалі вывучаць, — піша ён, — курс антыкамунізма. Тое, што нам гавораць, не вельмі нас пераконвае. Многія сумняваюцца ў тым, што яны чуюць. Прашу прыслаць мне выступленні старшыні Хрушчова і іншыя дакументы, прынятыя на XXII з'ездзе камуністаў у Маскве».

Свядомыя прадстаўнікі маладога пакалення Амерыкі ведаюць, якую небяспеку нясе з сабой фашызм. Нядаўна ў амерыканскім маладзёжным часопісе «Нью харайзонс фор юс» быў змешчан артыкул, у якім гаварылася: «Мы павінны быць цвёрдымі, каб манапалісты ўбачылі, што карты Бэрча і іншых «ўльтра», на якія яны ставяць, — фальшывыя. Адзін шлях да гэтага ляжыць праз узмацненне барацьбы за мір і разгром «ультра»-правых. Калі мы прайграем у барацьбе за мір, ахвярай стане моладзь. Хто, як не наша моладзь, будзе гінуць у акопах ад смертаносных праменняў атамнай зброі? Адраджэнне рэакцыйных сіл у эру вадароднай бомбы трэба спыніць. Іншай альтэрнатывы не можа быць!»

У Вашынгтоне вялікая група моладзі апублікавала заяву, у якой, у прыватнасці, гаворыцца: «Мінітмены з таварыства Джона Бэрча і дзіназаўры Бары Голдуотэра сёння патрабуюць, каб трэцяя сусветная вайна была пастаўлена на парадак дня. Але мы лічым, што амерыканскі народ не дапусціць, каб яго запалохваннем уцягнулі ў атамную вайну. Мы лічым, што час прафсаюзнаму руху, неграм і іншым меншасцям, а таксама моладзі, па якой мілітарызацыя ўдарыць перш за ўсё, падняць свой голас і дабіцца, каб да яго прыслухаліся».

Працоўная Амерыка, Амерыка простых людзей, выходзіць на барацьбу з фашызмам.

Аднак урад Кенэдзі па сутнасці патурае «ўльтра». На адной з прэс-канферэнцый прэзідэнту задалі пытанне: што намераны прадпрыняць урад у сувязі з паведамленнямі аб грашовых субсідыях «правым экстрамісцкім» групам? Ён адказаў наступнае: «Я не хацеў бы ўмешвацца ў права любога чалавека прадастаўляць свае грошы або падтрымку любому руху па яго выбару пры ўмове, што ён дзейнічае ў рамках права, у рамках існуючых законаў ЗША». Красамоўная заява! З яе вынікае, што фашыстаў не трэба чапаць, бо іх дзейнасць праходзіць у рамках законаў ЗША. Але ж як тут не ўспомніць зноў, з якім ганебным стараннем той жа ўрад Кенэдзі праследуе камуністычную партыю, стойкага абаронцу інтарэсаў амерыканскага народа.

**У. МІХАЙЛАЎ,**
**Г. НАВІЦКІ.**

*Крытыка і бібліяграфія*

**Міхась ЛАЗАРУК**

# ШЛЯХІ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ




I

Выйшла «Анталогія беларускай паэзіі». Упершыню на кніжных паліцах з'явіліся гэтыя тры ёмістыя, хоць і невялікага фармату томікі, дзе сабраны лепшыя скарбы паэтычнага слова на беларускай мове. Бадай, не будзе перабольшаннем сказаць, што беларуская паэзія можа павіншаваць сябе: выхад Анталогіі — сапраўднае яе свята.

Гэта — не пустыя словы. Яшчэ якіх-небудзь паўвека назад беларуская паэзія была прадметам спрэчак прыхільнікаў і скептыкаў, арэнаю барацьбы яе стваральнікаў з душыцелямі нацыянальнага паэтычнага слова, а ёй ужо чатыры з палавінай стагоддзі, і яна сёння налічвае (па Анталогіі) больш за сто трыццаць аўтараў! Праўда, гэтая лічба вельмі нераўнамерна кладзецца на пройдзены нашай паэзіяй шлях: сто прыпадае на апошняе паўстагоддзе і толькі каля трыццаці — на ўвесь папярэдні час. Але тут ужо канчаецца «арыфметыка» і за лічбамі паўстае гісторыя. Яна пачынаецца тымі часамі, калі беларускі народ знаходзіўся пад страшэнным уціскам і прыгнётам, у культурным заняпадзе і адсталасці, і даходзіць да сённяшніх дзён, калі творчы геній нашага народа дасягнуў небывалага ўзлёту.

Першыя тры з паловай — чатыры стагоддзі — гэта перыяд пакутлівага існавання нашай паэзіі і літаратуры ў цэлым. І натуральна, што ён не мог быць уквечаны шматлікімі талентамі. Толькі некалькі імён дайшло да нас з тых часоў, калі паэзія вымушана была то апранацца ў багаслоўскія рызы (Ф. Скарына, раннi С. Полацкі), то станавіцца служкай пры дварах магнатаў (А. Рымша, якому па невядомых прычынах не знайшлося месца ў Анталогіі). Таленты гінулі, «невядомыя, непрызнаныя, неаплаканыя», пакідаючы пасля сябе адзін-два творы, а часцей — зусім бясследна. Іх праследавалі, душылі — спачатку польская шляхта, потым царскае самаўладства. І ўсё ж, нягледзячы на гэта, паэзія, літаратура жылі, распаўсюджваючыся вусна або ў перапісаных няўмелай рукой спісках.

Чытаеш першы том, у якім змешчана ў асноўным дакастрычніцкая паэзія, і ўвесь час чуеш запеў выдатнай коласаўскай паэмы:

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
Ад казак вечароў,
Ад песень дудароў,
Ад светлых воблікаў закінутых дзяцей,
Ад шолаху начэй,
Ад тысячы ніцей,
З якіх аснована і выткана жыццё
І злучана быццё і небыццё,—
Збіраўся скарб...

Так, гэта даволі бедны, разгублены па дарогах стагоддзяў скарб, якому пагражала невядомасць і які збіраўся і зараз яшчэ збіраецца гісторыкамі літаратуры па вершу, па радку ў адно цэлае. Сумная гэта карціна, як сумнай па гучанню была і паэзія тых часоў, выступаючы часта як песня-плач, песня-скарга, песня-праклён.

Бо ў Крошыне пан сярдзіты,
Бацька кіямі забіты,
Маці тужыць, сястра плача.
Дзе ж ты пойдзеш, небарача?—

як пісаў Паўлюк Багрым. Але плакала песня не заўсёды. Яна і смяялася. Калі ўзяць паэзію XIX стагоддзя, у ёй напэўна будуць пераважаць творы камічнага жанру («Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», «Панская ласка», «Вясна, голад...» і г. д.). У гэтым, мабыць, ёсць глыбокая логіка.

Тут міжволі ўспамінаецца легенда з паэмы Якуба Коласа «Рыбакова хата». Паслаў пан аканома спагнаць са сваіх прыгонных па два злоты. Народ стагнаў, плакаў, гнуўся, але грошы аддаў. Паслаў пан аканома ў другі раз. Людзі лаяліся, крычалі, клялі пана, але зноў заплацілі даніну. І вось прыходзіць аканом у трэці раз. На гэты раз народ сустрэў яго смехам. Задумаўся пан:

Стагналі людзі, то — нічога,
Клялі — і гэта не бяда,
Калі ж смяецца грамада,
То смех такі гаворыць многа.

Тыя невядомыя аўтары, што пісалі сатырычныя гутаркі і вершы, нібы прадчувалі, што хутка абудзіцца ў народзе вялікая сіла, што ўслед за імі прыйдуць такія неспакойныя і моцныя духам людзі, голас якіх нельга будзе заглушыць. І яны прыйшлі. Багушэвіч, Лучына, Гурыновіч, Тапчэўскі, Абуховіч,— цэлае пакаленне паэтаў. Гэта ўжо былі не аматары мастацкага слова на «мужыцкай» мове, а свядомыя стваральнікі беларускай паэзіі са сваёй праграмай, з акрэсленымі мэтамі. Гэта былі паэты, якія глыбока адчулі «роднага слова сілу святую» (Я. Лучына) і хацелі выкарыстаць яе для дабра народа.

Іх паэзія, як і паэзія іх папярэдніка В. Дуніна-Марцінкевіча, стаяла яшчэ дзесьці на граніцы паміж пісьмовай літаратурай і фальклорам. Яны пісалі яшчэ, можа, не зусім самастойна, у саўтарстве з народам, але гэта быў вельмі правільна выбраны шлях, самы плённы з усіх, бо паэзія, не раўнуючы з прозай, па прыродзе сваёй вельмі залежыць ад песенна-паэтычных народных традыцый, яна асабліва чулая да спецыфікі народна-паэтычнага мыслення. Цесная зблiжанасць з фальклорам не толькі не замінала ёй у росце, як гэта было ўжо ў тыя часы з беларускай прозай, што часта ішла ўслед за казкай альбо бытавым анекдотам, а наадварот, паэзія багушэвічаўскага перыяду, запазычваючы ад народных песень жанравыя і сюжэтна-кампазіцыйныя асаблівасці, набывала і вялікае ідэйнае напаўненне, вобразную яснасць, мастацкую выразнасць і натуральнасць.

Па нейкай нядобрай звычцы мы глядзім на паэзію Багушэвіча і яго паслядоўнікаў як на нешта такое, што ўжо цалкам належыць мінуламу, гісторыі. А між тым, за некалькі сыраватым і можа крыху архаічным моўным матэрыялам твораў Багушэвіча часта хаваецца такая скандэнсаванасць і афарыстычнасць думкі, такая маштабнасць паэтычнага светабачання, такое пранікненне ў жыццёвы матэрыял, якім могуць пазайздросціць некаторыя сённяшнія паэты. Багушэвіч быў несумненна мастак, і гэта праяўляецца ў тым, як па-рознаму, але заўсёды з вялікім

мастацкім эфектам ён паказвае свайго героя: то буйным «на ўвесь кадр» планам, калі здаецца, што гэты мужык сваімі латамі і лахманамі засланяе паэту ўвесь свет; то, напрыклад, у такім вось ракурсе:

З камаровы нос сякерку
Сціснe, крэкне, замахае, —
Зробе пушчу, як талерку,
Свет дрывамі закідае.

Трэба мець вельмі востры паэтычны зрок, каб так убачыць працавітага, вякамі крыўджанага мужыка-волата і мужыка-мураўя! Ды ці адзін гэты прыклад сведчыць аб майстэрстве Багушэвіча? І таму, відаць, не варта гэтую паэзію адносіць да архіўных каштоўнасцей, на ёй можна вучыцца і сёння.

Многія выдатныя якасці паэзіі Багушэвіча ўнаследавалі паэты наступнага пакалення, якія выступілі ў пачатку XX стагоддзя.

Але пачатак XX стагоддзя азнаменаваўся не толькі прыходам у літаратуру новага пакалення пісьменнікаў. Гэта быў перыяд магутнага ўздыму творчых сіл народа, супраць якога не ўстаялі вякамі мураваныя запоры і плаціны. Абуджаная рэвалюцыяй 1905—1907 гг. беларуская паэзія, як рака ў мора, хлынула па пракладзеным гісторыяй рэчышчы, несучы свае здабыткі ў скарбніцу сусветнай культуры. І ўжо тады выявілася, што гэтая рака паўнаводная, што ёй не змялець і не перасохнуць, бо яе жывілі глыбінна-народныя крыніцы, бо яна шмат чэрпала і ўбірала ў сябе са скарбніц паэтычнай культуры многіх народаў і ў першую чаргу братніх — рускага, украінскага, бо яна, нарэшце, ужо тады была голасам не толькі працоўнага сялянства (Купала, Колас, Цётка, Бядуля, Гурло, Журба, Буйла і інш.), але і рабочых-рамеснікаў (Гартны) і прагрэсіўнай інтэлігенцыі (Багдановіч).

Пятнаццаць аўтараў прадстаўляюць гэтую паэзію. Але якія яны розныя! Сярод іх ёсць такія, што пісалі больш плугам па раллі, чым алоўкам па паперы (Стары Улас і А. Петрашкевіч), і радавыя, сціплыя працаўнікі пяра (К. Буйла, Я. Журба, А. Гурло, А. Дзяркач, Г. Леўчык). Урэшце — такія, аб якіх многа гаворыцца, пішацца ва ўсіх падручніках па гісторыі літаратуры. Гэта — Цётка, мастацкая роля якой, і ў прамым і ў пераносным сэнсе, заключалася ў тым, што яна «дарабіла «Скрыпку» для багушэвічаўскай музыкі; гэта — М. Багдановіч, які для беларускай паэзіі шырока адчыніў акно ў сусветную літаратуру; гэта Я. Купала і Я. Колас — сапраўдныя волаты духу, якія ўзнеслі беларускую паэзію на новую ступень мастацкага развіцця. Але што можна сказаць пра гэтых майстроў слова ў агульным аглядзе з выпадку выхаду Анталогіі?.. Перачытваеш яшчэ раз так добра знаёмыя іх вершы і думаеш: як усё-такі звужана ўяўляе сабе шырокі чытач і Я. Купалу, і Я. Коласа, і М. Багдановіча, і г. д. Гэта ж факт, што ўся «разнастайнасць» ведаў пра выдатных майстроў слова да апошняга часу ўкладвалася ў адно «класічнае» і ўстойлівае словазлучэнне, якому, дарэчы, столькі ж гадоў, колькі і вульгарнаму сацыялагізму: што Купала (або — гэта ўсё роўна — Цётка, Колас, Багдановіч, Гартны і г. д.) паказваў цемру, галечу, забітасць беларускага мужыка і ў адрозненне ад Багушэвіча **адкрыта** клікаў народ на барацьбу. Па гэтаму «прызнаку» Купалу ад Багушэвіча, дапусцім, яшчэ можна адрозніць. А вось чым яны адрозніваюцца адзін ад другога, напрыклад, лірыка Я. Купалы ад лірыкі Я. Коласа? Гэта пакуль што застаецца тайнай і для чытачоў і для даследчыкаў. Мы эмацыянальна ўлоўліваем розніцу паміж мякка-разважлівай, лагоднай, хаця і з успышкамі гневу, наскрозь рэалістычнай, «зямной» лірыкай Я. Коласа і нястрыманастраснай, дынамічнай, рамантычна-ўзнёслай лірыкай Я. Купалы. Але гэта яшчэ патрабуе глыбокага асэнсавання.

Купала — вялікі паэт. Але ў чым яго веліч? У тым, што ён ставіў важныя сацыяльныя праблемы? Безумоўна. Але ж Цётка і Цішка Гартны — таксама ставілі іх. Карацей кажучы, ведаюць чытачы, у тым ліку і вучнёўская моладзь, нашых класікаў вельмі аднабакова. Гэтыя веды прывязаны толькі да аднаго кола тэм. А гэтага ж мала! Ды і ўвогуле такі падыход да мастацкай творчасці няправільны.

Гаворачы пра Пушкіна-лірыка, мы маем на ўвазе і яго вольналюбівыя вершы, яго «Пасланне ў Сібір», і яго цудоўную любоўную лірыку. Паспрабуйце ўявіць паэта без «Я помню чудное мгновенье»! А вось Купалу, выходзіць, — можна прадстаўляць толькі адной групай вершаў. А шматлікія вершы яго інтымнай лірыкі так сарамліва абходзяцца, як быццам гэта нешта нявартае ўвагі сур'ёзных людзей. І вельмі правільна зрабілі ўкладальнікі Анталогіі, змясціўшы сярод лепшых купалаўскіх твораў і інтымна-лірычныя, напрыклад, яго цудоўную паэму-«ідылію» «Яна і я», што раней звычайна трапляла ў разрад: «і іншыя».

У тым і заключаецца сіла Купалы, што ён — паэт выключна шматгранны, што ў яго лірыцы знайшлі сваё выяўленне самыя разнастайныя праявы духоўнага жыцця народа. У ёй знайшло сваё адлюстраванне, дарэчы, і псіхалагічнае, асабістае жыццё паэта з яго ўзлётамі і сумненнямі, жыццё складанае, багатае, часам вельмі супярэчлівае. І ад гэтага не трэба абстрагавацца. А купалаўскае майстэрства — яго вобразнасць, рытм, магутная энергія яго радка, яго праца над рыфмай — тут такая яшчэ цаліна! Ці, скажам, гукавая арганізацыя верша:

Наспелая постаць шчаслівых
пасеваў
За вёскай на сонным лясоў
рубяжы,
Ссівелы ўжо колас схінула
к мяжы
У сумным шаптанні: «Дзе, жнеі
мае, вы?»
(«Жніво»).

Але пакуль ніхто гэтых купалаўскіх «сакрэтаў» не раскрыў. Гэта, бадай, самая недаследаваная праблема дарэвалюцыйнай літаратуры. І як ні дзіўна, найбольш востра яна выступае ў дачыненні да найвялікшага з нашых паэтаў. На жаль, не знайшлося яшчэ крытыка, якому паэт «давеўся» б і праз яго раскрыў іншым, у прыватнасці маладым нашым паэтам, таямніцы свайго майстэрства.

Наша беларуская паэтычная класіка мае тую асаблівасць, што яна непарыўна звязана з жывым літаратурным працэсам. У асобе Купалы, Коласа, Бядулі, Гартнага яна пераходзіць у сённяшні дзень нашай літаратуры. Не ў метафарычным, а ў прамым сэнсе, яна ў пераважнасці — факт жывой літаратуры, і як да такой мы павінны ставіцца да яе. Гэтая спадчына яшчэ чакае слова крытыкі, якая б з вышыні сённяшняга дня глянула на яе і паказала, як многа ніцей звязвае яе з сучаснай паэзіяй, і якія з гэтых сувязей неабходна асабліва ахоўваць.

Прачытаны першы том Анталогіі... Як прынята ў рэцэнзіях, трэба даць ацэнку зместу, падбору твораў і г. д. Што ж, яна будзе самай станоўчай. Сапраўды, і ўкладальнікі, і рэдактары тома падышлі да справы па-гаспадарску, сур'ёзна, разумна, даўшы ў асноўным поўную карціну беларускай паэзіі дарэвалюцыйнага (і часткова савецкага) перыяду. Вядома, можна было б спрачацца па асобных творах, чаму ўключаны яны, а не другія, не горшыя за іх творы, але ўрэшце гэта справа прыватнага характару. Тут, несумненна, маглі выявіцца і густы рэдактараў, укладальнікаў. Гэта натуральна. Незразумела другое: чаму ў гэты даволі бедны аўтарамі том зусім не трапілі некаторыя творы і паэты? Мы маем на ўвазе таго ж А. Рымшу, аб якім ужо гаварылася вышэй, некаторыя ананімныя вершы канца XVI і XVII ст.ст., лірычны верш «А чым жа твая, дзеванька, галоўка занята» — Я. Баршчэўскага? А між тым — гэта цікавыя факты гісторыі. Верш Я. Баршчэўскага «А чым жа твая, дзеванька, галоўка занята», напрыклад, гэта першы ўзор інтымнай лірыкі ў нашай літаратуры. І несумненна, яго варта было ўключыць у Анталогію. Разумны, гаспадарскі, марксісцкі падыход да літаратурнай спадчыны, падыход да літаратуры як да мастацтва з яго спецыфічнымі асаблівасцямі павінен быў выявіцца і тут, як ён увогуле

выявіўся ў Анталогіі і асабліва ў другім і трэцім томе, дзе прадстаўлена паэзія савецкага часу.

## II

Вядома, Анталогія нават у малой меры не магла ахапіць усё найлепшае ў нашай савецкай паэзіі, але яна, на наш погляд, добра выяўляе асноўныя яе асаблівасці, яе здабыткі.

Калі чытаеш другі і трэці тамы Анталогіі, знаёмішся з аўтарамі і іх вершамі, змешчанымі ў гэтых тамах, міжволі ўспамінаецца нядаўняе мінулае... Якая розніца! Не, мы маем на ўвазе не колькасць імён, якія былі тады ва ўжытку, хоць гэта першае, што ўражвае чытача Анталогіі. Яшчэ якіх-небудзь дзесяць гадоў таму назад ва ўсіх зборніках паэзіі побач з добрымі творамі на першы план ставіліся такія, якія не вызначаліся мастацкімі вартасцямі, хоць крытыка называла іх у першую чаргу і характарызавала як лепшыя за адно толькі імя, памянёнае ў іх. Але той час мінуў, і мы можам цвяроза ацаніць дасягненні нашай літаратуры. А яны, гэтыя дасягненні, вялікія.

Два тамы Анталогіі могуць даць вельмі пераканаўчы адказ усім зласлоўцам і ворагам літаратуры сацыялістычнага рэалізму на іх выпады і папрокі ў тэматычнай і стылявой аднастайнасці нашай паэзіі.

Колькі аўтараў! І якія яны розныя! Гартаеш старонкі Анталогіі, нібы старонкі гісторыі: такія яны важкія, змястоўныя. Так, у гэтых творах, што ўключаны ў другі і трэці тамы, — эмацыянальная, мастацкая, жывая гісторыя беларускага народа эпохі сацыялізма з яе гераізмам і супярэчнасцямі, цяжкасцямі і перамогамі сусветна-гістарычнага значэння. Дваццатыя, трыццатыя гады, перыяд Айчыннай вайны, пасляваенны перыяд да XX з'езда партыі і перыяд пасля яго — вось этапы гэтага вялікага шляху, кожны з якіх мае сваё непаўторнае аблічча. у нейкай меры свой стыль, сваіх паэтаў.

Дваццатыя гады, да якіх належыць большасць аўтараў, прадстаўленых у другім томе, — самы складаны перыяд, перыяд нараджэння і, калі можна так сказаць, дзяцінства савецкай паэзіі з усімі ўласцівымі гэтаму ўзросту хваробамі, перыяд вострай ідэйнай і эстэтычнай барацьбы, пошукаў адказу на пытанне, якой павінна быць новая савецкая паэзія. У паэзіі 20-х гадоў скрыжаваліся самыя разнастайныя погляды, адносіны да паэтычнай творчасці, тэндэнцыі і г. д. Але пры ўсёй разнастайнасці канкрэтных асаблівасцей паэзіі тых часоў, на нашу думку, у ёй вельмі выразна вырысоўваюцца тры асноўныя лініі, тры асноўныя тэндэнцыі.

Першая з іх — лінія на прамое прадаўжэнне класічных традыцый, другая — накіраваная на рашучы перагляд старой спадчыны і стварэнне зусім новай рэвалюцыйна-пафаснай паэзіі і трэцяя — захапленне настраёва квяцістымі вершамі з рознымі «дасянямі», «кілімамі», «бомамі», «вэлюмамі» і г. д. Іх, гэтыя тэндэнцыі, часта атоесамліваюць з кірункам дзейнасці трох літаратурных арганізацый 20-х гадоў — адпаведна — «Полымем», «Маладняком», «Узвышшам». Але гэта не зусім правільна. Гэтыя тэндэнцыі выяўляліся ва ўсіх арганізацыях і ў паэтаў розных пакаленняў, аб чым могуць сведчыць: творчасць некаторых маладнякоўцаў, якія схіляліся да настраёва-дэкаратыўнага верша, творчасць З. Бядулі, які шукаў новага стылю ў рэчышчы пафасна-рамантычнай маладнякоўскай паэзіі, паэзіяй «узвышэнца» К. Крапівы, што развівалася ў класічнай традыцыі.

Самай плённай з адзначаных трох тэндэнцый, трэба сказаць, была першая, якая звязана з імёнамі Я. Купалы і Я. Коласа. Спакойна-ўраўнаважаны, мы б сказалі, мудры падыход нашых класікаў да задачы стварэння новай савецкай, сацыялістычнай літаратуры вынікаў з іх вопыту папярэдняй рэвалюцыйнай творчасці, з цвёрдага разумення таго, што спецыфіка паэзіі як чалавеказнаўства застаецца галоўнай і ў новую эпоху, а новыя формы гэтай паэзіі будуць выпрацаваны паступова, вырастуць з глыбокага асваення новага зместу. Сваёй паэтычнай дзейнасцю яны пераканаўча пацвердзілі гэта, даўшы ўзоры новай сацыялістычнай паэзіі і сваёй творчасцю, сваім прыкладам накіроўваючы дзейнасць паэтаў малодшага пакалення. Няма патрэбы даказваць — аб гэтым яскрава сведчыць Анталогія, — што ў пошуках, характэрных для 20-х гадоў, найменшыя «непрадукцыйныя выдаткі» былі ў пісьменнікаў, якія сур'ёзна ставіліся да класічных традыцый — Я. Купалы, Я. Коласа, К. Крапівы, Ц. Гартнага і інш., — і што менавіта на гэтым шляху чакалі ўдачы, добрыя знаходкі і многіх іншых паэтаў — У. Дубоўку, Я. Пушчу, П. Труса, А. Дудара, У. Хадыку.

Другая з адзначаных плыней, ці тэндэнцый, якой аддалі вялікую даніну многія маладнякоўцы і немаладнякоўцы на чале з М. Чаротам, была супярэчлівай. З аднаго боку, яна адыграла вялікую станоўчую ролю, выпрацаваўшы добрую традыцыю актыўнага стаўлення да жыцця, яна заўсёды характарызавалася добрымі суб'ектыўнымі намерамі быць на ўзроўні гэтага новага жыцця; з другога — яна вельмі рэдка дасягала гэтага ўзроўню, часта збіваючыся на павярхоўны паказ жыцця ў гучных, але разам з тым эмацыянальна і псіхалагічна бедных творах. Многія вершы тых год слаба ўздзейнічаюць на нашы думкі і пачуцці не таму, што яны былі цесна звязаны са сваім часам і належаць яму. Сапраўдная паэзія не ведае такой абмежаванасці. Прычыны, відаць, у іншым. Тут — і недастатковая інтэлектуальнасць гэтай паэзіі, і абыякавае стаўленне да паэтычнай культуры мінулых эпох, вузкасць вобразаў, няўважлівасць да канкрэтных праяў жыцця, а часам і разлік на невысокі ўзровень чытача, вульгарна зразуметая «пралетарскасць» як інтэлектуальная непатрабавальнасць, просталінейнасць і г. д. Вось чаму многія паэты, якія праславіліся ўжо ў 20-я гады, прадстаўлены ў Анталогіі пазнейшымі сваімі творамі.

Гэтыя слабасці нашай ранняй паэзіі асабліва добра відаць з вышыні сённяшняга дня. Але не трэба думаць, што мы схільны прыніжаць значэнне паэзіі 20-х гадоў. Зусім не. Вартасці тагачаснай паэзіі добра былі відаць і ў тыя часы, і сучасная крытыка, паказваючы слабасці гэтай паэзіі, не робіць адкрыццяў. Вось як характарызаваў такую паэзію М. Горкі ў 1928 годзе: «Калі чытаеш вершы сучасных паэтаў, — пісаў ён, — гэтыя вершы здзіўляюць багаццем халоднай брусаўскай рыторыкі або маякоўскай «рэвалюцыйнай лірыкі», але у іх зусім адсутнічае жанр, факт, адсутнічае дзеючы чалавек».

Гэта былі часта творы, аб якіх можна было гаварыць, як аб вершаваных, але не як аб сапраўднай паэзіі, дзе павінны быць у адным сплаве думка, карціна, эмоцыя, рытм. Яны не задавальнялі цалкам гэтым патрабаванням і аказаліся бяссільныя перад часам.

Бесперспектыўнай, няплённай была ў паэзіі 20-х гадоў трэцяя тэндэнцыя, якая выяўлялася асабліва ў творчасці такіх паэтаў, як Т. Кляшторны, В. Маракоў, С. Дарожны, Ю. Лявонны і інш., надзвычай схільных да паглыблення ў настрої, да расквечвання верша і абыякавых да глыбокай думкі, якая арганізоўвала б паэтычныя творы і адначасова забяспечвала б імунітэт перад чужымі ўплывамі. З-пад пяра гэтых паэтаў выйшла столькі «кармазынавай» каламуці, што яна літаральна захліствала ўсё лепшае ў іх творчасці. І так прадаўжалася ў іх аж да канца 20-х гадоў, калі захапленне «пялёсткавай замяццю» і «васільковымі россыпамі» змянілася пад уплывам крытыкі на нешта супрацьлеглае, на апяванне толькі красы фабрычных камінаў, супрацьстаўленне гэтай красы традыцыйнаму пейзажу, калі гэтыя паэты з адной крайнасці кінуліся ў другую, і настроі саступілі месца бяздумнай, пафаснай дэкламацыі, рыторыцы.

І ўсё ж, пры ўсіх сваіх слабасцях і зрывах ідэйнага характару, аб якіх ніяк нельга забываць, беларуская паэзія 20-х гадоў уяўляла сабой цікавую з'яву як пача-

так новай літаратуры, літаратуры сацыялістычнага рэалізму. Праз усё наноснае, чужое ў ёй прабіваліся здаровыя парасткі, вельмі цікавыя стылявыя разнавіднасці, якія зусім не проціпаказаны паэзіі сацыялістычнага рэалізму, якія маглі паспяхова развівацца ў рэчышчы адзінага метаду, узбагачаючы савецкую літаратуру. Але да гэтага была безуважлівай, абыякавай дагматычная крытыка, якая мастацкае адзінства савецкай паэзіі ўяўляла як аднолькавасць яе стылявых адзнак. І калі, скажам, Дубоўка пісаў не так, як Александровіч, а Глебка не так, як Чарот, то хтосьці з іх абавязкова памыляўся, выходзіў за межы стылю савецкай паэзіі і г. д. Вульгарызатарская крытыка, якая, дарэчы, сама была вельмі нясталай, слабай, няздольнай выхоўваць, не ўлічвала, што паэзія тых часоў — гэта пераважна творчасць моладзі, з уласцівымі ёй няўстойлівасцю голасу, адсутнасцю вопыту і што празмерныя захапленні і нават зрывы тут не з'яўляюцца чымсьці звышнатуральным. Адзін з тагачасных маладых паэтаў, Ю. Таўбін, вельмі слушна пісаў тады:

Мы не майстры — куды ніжэй.
Яшчэ нізкая наша якасць.
Мы — прадвеснікі новых дзей
Лепшых сейбітаў і ваякаў.
Але ўсё ж такі мы ўсе жывём,
Трохі робім свае работы,
Спатыкаемся і ўстаём
І ўнікаем фальшывай ноты.

(«Падсумак»)

Паэзія 20-х — пачатку 30-х гадоў несумненна ў меру сіл сваіх рабіла добрую работу, рыхтавала глебу для наступных пакаленняў. Яна і сама дала нашай літаратуры нямала цікавых твораў, таленавітых аўтараў, якія актыўна працавалі тады або працуюць цяпер. К. Крапіва, М. Чарот, П. Броўка, П. Глебка, А. Александровіч, У. Дубоўка, А. Дудар, Я. Пушча, П. Трус, М. Лужанін, У. Хадыка, А. Звонак, З. Астапенка і многія другія — цяжка нават пералічыць, а кожны ж з іх мае сваё паэтычнае аблічча, свой твар, сваю біяграфію. Многае з напісанага імі несумненна вытрымала выпрабаванне часам, а галоўнае — самі паэты вытрымалі выпрабаванне на вернасць сацыялізму, нашаму ладу жыцця. Іх паэзія і зараз прадаўжае працаваць на карысць савецкага народа.

Няма сэнсу ў размове аб Анталогіі яшчэ раз гаварыць пра шкоду, якую нанёс нашай паэзіі культ асобы. Бясспрэчна, што суквецце талентаў у нашай літаратуры было б куды багацейшым, паэзія б мела несумненна большыя здабыткі, калі б яна не панесла такіх вялікіх чалавечых страт, не растрачвала свой пафас, сваю эмацыянальную энергію на не вартае намаганняў усхваленне адной асобы. Але тым не менш, трэба сказаць, што і ў той перыяд, у 30-я гады, наша паэзія мела істотныя здабыткі. Іменна к гэтаму часу ўжо практычна складваецца і тэарэтычна акрэсліваецца метад сацыялістычнага рэалізму, нараджаецца, пераадолеўшы ранейшыя слабасці, паўнакроўная лірыка, аплодненая глыбокімі сацыялістычнымі і патрыятычнымі ідэямі.

А мы сабе сеем, сеем
Пшаніцу, і радасць, і кветкі, —

пісаў тады Я. Купала, жадаючы гэтым падкрэсліць, што сацыялізм, перамогшы ў нашай краіне, прынёс савецкім людзям паўнату жыццёвага самавыяўлення, упэўненасць у сваім добрым лёсе, нарэшце, паўнату шчасця, адчуванне гарманічнасці чалавечай асобы і свету, як удакладняе паэт гэтую думку ў другім цудоўным сваім вершы «Лён»:

Сэрцу лёганька было,
Цэлы свет — вясёлы рай,
Хоць і восень, а святло
Так і льецца цераз край.

Але самае галоўнае, што зрабіла паэзія 30-х гадоў, — гэта тое, што яна стварыла вобраз новага, савецкага чалавека. Паэзія 20-х гадоў, пры ўсёй сваёй разнастайнасці і рознастылёвасці, мела сваёй асноўнай задачай — даць адчуванне новай эпохі і разам з тым стварыць грунт, аснову для будучай велічнай карціны — пераўтварэння чалавечага грамадства. І яна гэтую задачу паспяхова вырашыла. Паэзія 30-х гадоў увяла ў гэтую карціну і паставіла на першы план чалавека — непасрэднага творцу гісторыі, новага жыцця. Карціна з абагульнена-рамантычнай стала рэалістычна-канкрэтнай, набыла канкрэтны чалавечы змест. Гэтую задачу, акрамя нашых выдатных народных паэтаў Я. Купалы і Я. Коласа, паспяхова рашалі і паэты малодшага пакалення — А. Куляшоў, П. Броўка, П. Глебка, П. Панчанка і інш., творы якіх і цяпер здзіўляюць чытача чысцінёй сваіх пачуццяў, глыбокай чалавечнасцю, радасным светаадчуваннем. Кожны з іх знаходзіў патрэбныя фарбы, інтанацыі, каб паказаць свайго героя ў непаўторна-прыгожы час здзяйснення мар і спадзяванняў, час урачыстасці сацыялізма.

У гумарыстычным вершы П. Глебкі «Вясёлыя песні» гераіня, простая дзяўчына, нібы жартам заяўляе свайму ганарыстаму сябру:

Табе мо невядома,
Які ў мяне пасаг? —
Заводы,
Шахты,
Домны
І русая каса.

І ў гэтым дасціпным жарце была не «доля праўды», а ўся моцна адчутая праўда нашага жыцця, якое абуджае такую вялікую чалавечую вартасць у простага савецкага працаўніка.

Гэтай вялікай праўдай напоўнены сэрцы і куляшоўскіх герояў і гераінь вершаў і паэм «Музыка», «Бюро даведак». «На сотай вярсце», «У зялёнай дуброве» — твораў, якія гэтак жа, як і купалаўскія вершы так званага «Ляўкоўскага цыкла», найбольш поўна выяўляюць вартасці нашай паэзіі 30-х гадоў — яе пранікненне ў самыя розныя сферы жыцця, яе шматгранную арганічнасць як паэзіі сацыялістычнага грамадства. І такія якасці нашай паэзіі з'явіліся невыпадкова. Яны былі прамым вынікам і яскравым сведчаннем таго, наколькі плённы быў той магістральны шлях савецкай паэзіі, па якім яна ішла да сваёй сталасці, — шлях сацыялістычнага рэалізму.

Зусім не выпадкова, што калі ў хуткім часе на долю гэтай паэзіі, як і на долю ўсяго савецкага народа, выпала жорсткае выпрабаванне, яна, нават у няпоўным складзе сваіх творцаў, выдатна спраўлялася з задачамі ідэйна-эмацыянальнага ўзбраення народа. Творчасць большасці нашых паэтаў перыяду Айчыннай вайны была такім узлётам, які даваў падставу з упэўненасцю гаварыць аб сталасці нашай паэзіі. Вайна з бязлітаснай суровасцю выверыла ўстоі, на якія абапіралася гэтая паэзія, выверыла яе змест, думкі, пачуцці: гэта былі думкі і пачуцці цэлага народа. Вайна зрабіла нашу паэзію яшчэ больш уважлівай да простага чалавека, да яго духоўнага жыцця. Суровыя выпрабаванні ўнеслі ў яе атмасферу выключнай даверлівасці да людзей, шчырасці:

Краіна мая, радасць мая,
Песня мая маладая...

Гэта — Панчанка.

Беларусь мая родная,
Як жа я рвуся яшчэ раз
Пеша ўсю цябе змераць,
Увесь і чабор твой і верас!..
Сэрца просіць шляхоў,
Што цяжкім маім ботам пад сілу;
Наглытацца хачу туманоў,
Твайго ветру і пылу...

Гэта — Куляшоў.

Знаю, сціхнуў бы боль,
Каб напіўся жывіцы
З той крыніцы,
Што смагу таліла не раз,
Каб чабору таго,
Каб тае медуніцы,
Каб паветра з бароў,
Што пад Мінскам у нас.

Гэта — П. Броўка, паэт, які калісьці, у пачатку 30-х гадоў, як і некаторыя другія, у нейкай меры падзяляў думку, што для савецкай паэзіі чужой і неўласцівай з'яўляецца ўсякая пачуццёвасць, што традыцыйны пейзаж ужо эмацыянальна зжыў сябе і на змену яму павінны прыйсці суровыя індустрыяльныя пейзажы.

Паэзія перыяду Айчыннай вайны, паўтараем, выпрацавала выключна правільны тон, правільны падыход да жыцця, да чытача.

І ці не тым тлумачыцца сённяшні поспех П. Броўкі, што ён размаўляе з чытачом на той ноце, на якой былі напісаны лепшыя яго творы перыяду Айчыннай вайны. І ці не на гэтай ноце размаўляе з чытачамі ўся наша сённяшняя паэзія, якая пасля XX і XXII з'ездаў партыі ачысцілася ці, правільней кажучы, ачышчаецца ад бяздушнай, халоднай рыторыкі (якую, дарэчы, трэба адрозніваць ад вельмі патрэбнай нам і цяпер публіцыстычнай лірыкі).

Вядома, сённяшняя паэзія ў параўнанні з паэзіяй ваеннага часу, эмацыянальна і тэматычна багацейшая, разнастайнейшая, гэта — новы этап нашай літаратуры. Але несумненна, што яна мае найбольшую сувязь і пераемнасць з выпрабаванай, мужнай і шчырай паэзіяй суровых год барацьбы. Яна засвоіла ад апошняй глыбокую адказнасць перад народам за кожнае слова і таму стала яшчэ больш патрэбнай людзям.

Я ведаў, што ты — бліскавіца,
Што хмары рассекла;
Я ведаў, што ты вызваленне
З няволі і пекла,

што ты — «вясновая кветка», «разведчыка след», «дружба і радасць», «чорствага хлеба скарынка і сок вінаграду» — гаворыць М. Танк, падсумоўваючы свой вопыт у вершы «Паэзія», і прадаўжае:

А ты аказалася большым:
Ты — кроў, што пульсуе па жылах,
Ты — сонца, якое
Прасторы святлом азарыла;
І без чаго, як без маці
Або без радзімы,
Ні нараджацца, ні жыць
На зямлі немагчыма!

Гэта вывад з вопыту не аднаго М. Танка. Танк толькі сфармуляваў яго, і ён стасуецца сёння ўжо нават не толькі да стваральнікаў паэзіі, але і да яе чытачоў, да савецкіх людзей, якія будуюць самае развітае духоўна і інтэлектуальна камуністычнае грамадства.

Этапы, пройдзеныя нашай паэзіяй, маюць не аднолькавае значэнне, пакінулі не аднолькавы след у гісторыі, і працэнт паэтычнага браку не заўсёды быў прапарцыянальны інтэнсіўнасці пошукаў (найменшы ён быў, бадай, у час Айчыннай вайны). Але несумненным з'яўляецца тое, што кожны новы этап у развіцці нашай паэзіі быў рухам наперад, да тых вяршынь, якіх яна дасягнула сёння, да той высокай эмацыянальнай і інтэлектуальнай культуры, якой вызначаюцца лепшыя творы М. Танка, П. Броўкі, У. Дубоўкі, А. Куляшова, П. Панчанкі і інш.

Калісьці Ф. Багушэвіч, уводзячы свайго вельмі яшчэ простага чытача ў сферу складаных грамадскіх адносін, раскрываючы яму «хітрую механіку» тагачаснай дзяржаўнай машыны, царскага суда, вельмі моцна спрашчаў усе гэтыя з'явы, звяртаўся нярэдка да «хатняй», бытавой сімволікі.

І які вялікі крок зрабіла наша паэзія, якая сёння здольна пранікаць у самыя складаныя з'явы, не спрашчаючы іх, не баючыся быць незразумелай чытачу!

Сучасная беларуская паэзія... Яна ўяўляе сабой настолькі багатую і разнастайную з'яву, што без яе нельга ўявіць сабе духоўнай культуры савецкага народа. Стваральнікамі гэтай паэзіі з'яўляюцца пісьменнікі розных пакаленняў, характараў, мастацкіх стыляў. Тут і ўжо немалады гадамі, але малады душой У. Дубоўка — паэт з надзвычай тонкім і вострым адчуваннем харaства нашага жыцця; і схільны да глыбокіх роздумаў М. Танк, чый верш, пругкі, нібы сціснутая спружына, здольны ў малым аб'ёме ўмяшчаць надзвычай вялікі змест, выклікаць багатыя асацыяцыі; і П. Броўка з яго насычанай вострымі праблемамі лірыкай, якую можна назваць паэтычным барометрам сучаснасці; і разважліва-філасафічны, строгі ў формах П. Глебка; і А. Куляшоў з яго ўменнем ствараць шырокія эпічныя карціны, своеасаблівай манерай разгортваць мастацкія тропы, метафары да размераў цэлай паэтычнай кампазіцыі. А заўчасна памёршы паэт-рэвалюцыянер, добры майстра верша В. Таўлай, уважлівы і адчувальны да мовы М. Лужанін, надзвычай метафарычны, жывапісны А. Вялюгін!



А такія «добрыя і розныя» паэты, як М. Аўрамчык, В. Вітка, А. Звонак, М. Хведаровіч, А. Астрэйка, А. Бялевіч, У. Корбан, А. Зарыцкі, К. Кірэенка — колькі іх у нашай паэзіі!

Сярод іх — лірыкі і эпікі, публіцысты і песеннікі, сатырыкі і гумарысты. Іх сумеснымі намаганнямі і стваралася наша сучасная паэзія, паэзія наватарская па свайму характару, якая адлюстравала ў сваіх творах грандыёзны рух нашага народа да камунізма, яго барацьбу за мір, за шчасце ўсяго чалавецтва.

Нарэшце, самае маладое пакаленне беларускіх паэтаў, якое з'яўляецца не толькі нашай надзеяй, зменай старэйшым, а ўяўляе сабой ужо вельмі сур'ёзную мастацкую рэальнасць, унушальную і па колькасці аўтараў, і па якасці іх працы.

Арыфметыка і паэзія — розныя рэчы. З дапамогай арыфметычных падлікаў, вядома, нельга меркаваць аб стане паэзіі, але ў дадзеным выпадку, пры размове пра Анталогію, бадай, нельга абысціся без лічбаў, таму што яны маюць вельмі паэтычны змест. За апошняе дзесяцігоддзе ў нашу паэзію прыйшло (лічым па Анталогіі) больш як 20 аўтараў, што ўжо зарэкамендавалі сябе як здольныя паэты.

Мы звычайна ў якасці прыкладу вялікага прытоку сіл у нашу літаратуру называем 20-я гады, калі моладзь, разбуджаная і ўзнятая да творчай дзейнасці Кастрычніцкай рэвалюцыяй, літаральна хлынула ў літаратуру. Але ж, калі ўлічыць, што ў 20-я гады творчы парыў моладзі, яе паход у культуру выявіўся галоўным чынам у галіне літаратурнай працы, а зараз ён мае больш шматбаковае выяўленне, што ў літаратуру ідуць людзі, якія адчуваюць прызванне толькі ў гэтай галіне чалавечай дзейнасці, то можна смела сказаць, што сучасны прыток свежых сіл у паэзію можна параўнаць з 20-мі гадамі. А гэта, дарэчы, з'яўляецца найлепшым пацвярджэннем таго, як абудзілі творчую энергію народа XX і XXII з'езды нашай партыі, якія магутны штуршок для развіцця нашай паэзіі і літаратуры ў цэлым далі гэтыя падзеі сусветнагістарычнага значэння.

З боку ж майстэрства сённяшнія маладыя аўтары несумненна намнога пераўзыходзяць сваіх аднагодкаў з першага паслярэвалюцыйнага дзесяцігоддзя. Хіба, можна, напрыклад, гаварыць аб маладосці (у сэнсе няспеласці) аўтара, чытаючы верш С. Гаўрусёва «Спёка», дзе паэт так стала і арыгінальна «паваpочвае» тэму пра засуху:

Зямля, ці для таго ты ўсё расціла,
Каб прычакаць расчараваных жней?
Дарэмна, сонца, ты перасвяціла, —
Свяціць і сонцу трэба разумней.

Сталымі па свайму майстэрству з'яўляюцца і вершы Р. Барадуліна, пра якія нямала ўжо сказана ў нашай крытыцы.

Вядома, нельга сказаць, каб **усе** змешчаныя ў Анталогіі вершы маладых ужо задавальнялі самым высокім патрабаванням, якія ставяцца да паэзіі. Асобным з іх яшчэ нестае арыгінальнасці задумы, арганічнасці мастацкага мыслення. Назіраюцца выпадкі, калі замест глыбокай паэтычнай ідэі, якая натуральна вынікала б з верша, чытачу падносяцца «мудрыя» сентэнцыі, калі праз такія вершы вельмі ўжо прасвечваюць тэхналогія, «паэтычныя прыёмы» і г. д. Але пераважная большасць іх — мы маем на ўвазе, у прыватнасці, вершы С. Гаўрусёва, Р. Барадуліна, П. Макаля, У. Караткевіча, У. Нядзведскага, Е. Лось, А. Наўроцкага і інш. — гэта сапраўдная паэзія. І для таго, каб першыя зборнікі маладых паэтаў мелі ў сабе творы, падобныя да змешчаных у Анталогіі вершаў Р. Барадуліна, С. Гаўрусёва, У. Караткевіча або самага апошняга ў Анталогіі, такога сардэчнага, мяккага, «дзявочага» верша «Роднае слова» Дануты Бічэль, нашай паэзіі трэба было прайсці вялікі шлях, трэба было дасягнуць высокай інтэлектуальнай і мастацкай культуры, узбагаціцца вопытам другіх літаратур. А дарэчы, — многія нашы маладыя паэты прыйшлі ў літаратуру, ужо маючы вышэйшую адукацыю. Аб гэтым маглі толькі

марыць дарэвалюцыйныя пісьменнікі і пісьменнікі 20-х гадоў, якія ўзбіраліся на Парнас без дастатковага ўзбраення культурнымі дасягненнямі чалавецтва і таму, натуральна, часта спатыкаліся, нават падалі на гэтых нялёгкіх сцежках.

... Дачытан трэці том Анталогіі. Перад намі прайшло дзесяткі імён, сотні вершаў, якія складаюць аснову савецкай паэзіі. І міжволі ўзнікае пытанне: а што з'яўляецца самым характэрным, самым істотным для ўсіх гэтых твораў розных паэтаў, якія адлюстравалі розныя этапы нашага жыцця?

Тут яшчэ раз трэба сказаць аб глыбокай вернасці нашай паэзіі ідэям камунізма, аб ідэйным багацці, аб паўнакроўным жыцці нашай паэзіі, аб яе маральным здароўі і чысціні, аб яе маладосці.

Кажуць, што людзі, якія паляцяць у космас з хуткасцю святла, не будуць старэць і праз дзесяткі гадоў вернуцца на Зямлю такімі ж маладымі, як і паляцелі. Добра было б дачакацца такога часу, калі гэта будзе пацверджана жыццём. Але напэўна так яно і будзе. Гэтую гіпотэзу ўжо цяпер можа пацвердзіць наша паэзія, якая, паўстагоддзя назад нарадзіўшыся ў другі раз, развіваецца з небывалай хуткасцю і таму зусім не старэе — яна такая ж маладая, як і ў часы свайго нараджэння. Яна стала толькі духоўна значна багацейшай. Ды ёй інакшай і быць нельга на велічнай арбіце камунізма.

## *Родныя прасторы*



***Светлая, бялюткая хмурынка.***
***Маладосці светлая пара!***
***У руках трапечацца касынка —***
***Трапяткога ветразя сястра.***
***Леглі сонцам вытканыя сцежкі***
***Наўпрасткі ў шчаслівы, светлы дзень.***
***Сонечныя у вачах ўсмешкі.***
***Хай жа цень на іх не упадзе.***

**Фотаэцюд студэнта БДУ А. Шрубка.**

*З блакнота падарожніка*

**ZaH**

**MIROSLAV ZIKMUND A JIŘÍ HANZELKA**

**Іржы ГАНЗЕЛКА, Міраслаў ЗІКМУНД**

# ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

## КАЛЯ СЦЕН ІЕРЫХОНСКІХ

З Амана да Мёртвага мора вядуць дзве шашы. Лепшая і карацейшая з іх, якая праходзіць праз Наур, — зусім новая. На ёй устаноўлены шчыты з малюнкам — двое паціскаюць адзін аднаму руку. Гэтым Міністэрства грамадскіх работ Іярданіі даводзіць да ведама аўтамабілістаў, што шаша пабудавана «з дапамогай» Злучаных Штатаў Амерыкі. Аднак кожны ведае, што Амерыка фінансавала будоўлю толькі дзеля таго, каб забяспечыць сабе ў Іярданіі рашаючы ўплыў, калі англічане страцілі тут ласку.

Другая шаша праходзіць паўночней — праз Салт і Эрыху.

Усходні бераг — гэта пустэча, спаласаваная ярамі. Нечакана гэтая пустэча змяняецца шэра-блакітнымі ўзгоркамі з мергелю, а за імі — і рака Іярдан. Мы спадзяемся ўбачыць скалы, на фоне якіх старажытныя мастакі малявалі хударлявую постаць Іаана Хрысціцеля, што крапіў язычніка Ісуса вадой з гэтай свяшчэннай ракі. Але скал няма, толькі лабірынт нейкіх кратовых нор — ідэальнае месца для хлапчукоў, для іх гульняў у хованкі і ў разбойнікаў.

Потым з'яўляюцца жалезныя канструкцыі маста з перасцярогай: «фатаграфаваць забаронена». Да 1918 года тут стаяў стары турэцкі мост, яго ўзарвалі самі туркі, адступаючы перад англічанамі. Пераможца, генерал Эдмунд Аленбі, пабудаваў новы мост і ахрысціў яго сваім імем...

На мосце Аленбі нібы стаіць фокуснік, які ўзняў сваю чароўную палачку і вымавіў: «Пекла, застанься ззаду, рай, адчыніся перада мной!» Пейзаж раптам застракацеў свежай зелянінай — гаямі апельсінавых дрэў, сікамор і фінікавых пальмаў, якія аддзелены ветраломам з кіпарысаў і сосен ад яблыневых і абрыкосавых садоў. Алеі таполяў і эўкаліптаў акружаюць палі арахісу, капусты, памідораў. І ўсю гэтую раскошу ўпрыгожваюць гірлянды найярчэйшых кветак.

Вось ён, зямны рай — Зямля Абяцаная!

Сярод гэтага раю, але ўжо зноў на схілах атрутна-жоўтых скал, ляжыць Эрыха. Зараз тут налічваецца каля дзвюх тысяч жыхароў. Яшчэ дзве тысячы чалавек размешчаны ў часовых хацінках на паўднёвай ускраіне — гэта бежанцы з Палесціны, так званыя «новаіярданцы».

Больш за ўсё вас здзіўляе тое, што на вуліцах Эрыхі можна сустрэць неграў і метысаў — нашчадкаў колішніх рабоў, вывезеных з Афрыкі і берагоў Персідскага заліва. У Іярданіі яны перайшлі ў мусульманскую веру і з'яўляюцца зараз паўнапраўнымі грамадзянамі краіны — расавай дыскрымінацыі тут няма. Каб давесці сваю расавую цярпімасць, кароль Абдула ўзяў сабе за трэцюю жонку — негрыцянку. У народзе яе празвалі Чорнай каралевай.

Можа гэта зроблена для таго, каб у неграў далёкага Гарлема выклікаць думку, што і ў іх ёсць Зямля Абяцаная, што той самы Іярдан, дзе калісьці гуляў дэмакратычны дабрадзей Пан Бог, які меў пачуццё гумару і выдумку на розныя штучкі, — цяпер стаў граніцай паміж светам рабоў і светам свабодных людзей...

Пабылі мы, вядома, і каля славутых сцен іерыхонскіх. Яны стаяць і сёння. У 1907 годзе нямецкая археалагічная экспедыцыя выявіла частку крэпасных



Каля сцен Іерыхонскіх.

сцен даўжынёй каля васьмісот метраў. Да іх можна прайсці (заплаціўшы ўваходную плату ў пяцьдзесят філсаў) па лесвіцы ад Ільіной крыніцы, іскрыстую ваду якой аўтацыстэрны развозяць па ўсёй ваколіцы. Крутая лесвіца спускаецца на глыбіню каля пятнаццаці метраў. Над ёй узнімаецца круглая вежа, па якой яшчэ сёння можна прасачыць, якія важкія цаглiны выкарыстоўвалі будаўнікі ханаанскага Іерыхона. У сярэдзіну гэтай вартавой вышкі вядзе вузкі калідор, які падпіраюць жалезныя бэлькі. Добра яшчэ, што мы ў іярданскай пустыні схуднелі, інакш бы між імі і не пралезлі. Пра наведвальнікаў з больш буйнай камплекцыяй ніхто не падумаў, і яны вымушаны яшчэ каля ўваходу рабіць паварот «кругом марш» і лезці па стромай лесвіцы назад.

Калі мы вярнуліся да сваіх машын, аўтацыстэрны ўжо ад'ехалі. Да крыніцы Ільі крочыла калона жанчын з высокімі збанамі на га-

---

Працяг. Гл. № 1.

ловах. Яны ішлі лёгка і элегантна і ў сваіх белых муслінавых накідках нагадвалі жрыц. Набраўшы вады ў збаны, яны ўзнялі іх спачатку на плячо, затым на галаву — і з той жа элегантнасцю газелей накіраваліся назад.

Раптам адна з іх спатыкнулася аб камень, маланкава ўскінула рукі да галавы, але ўжо было позна, на зямлі ляжалі рознакаляровыя чарапкі. І рукі бязвольна павіслі ўздоўж цела.

Яна стаяла над чарапкамі, быццам камячок гора. Арабская Афрадзіта. Накідка спаўзла ў яе з галавы, адкрыўшы на хвіліну прыгожы тварык і аголеныя плечы. Але Афрадзіта тут жа спахапілася, адным рухам накінула муслін на галаву і пабегла даганяць сваіх сябровак.

## АКЦЫЯНЕРНАЯ КАМПАНІЯ

У праціле глым баку ад іерусалімскіх умацаванняў, на захадзе, размешчана Яфская брама. Яна была пабудавана ў 1898 годзе па загаду султана Абульхаміда дзеля таго, каб яго дарагі сябар імператар Вільгельм III мог уехаць у святы горад на кані з большай пампезнасцю.

Відаць, імператарская парадпасць зрабіла вялікае ўражанне. Да гэтага часу іарданскія стражнікі не страцілі звычай насіць вільгельмаўскія шлемы з вострым чатырохкантовым грамаадводам.

Аднаго мы ўбачылі на Крыжовым шляху каля будынка з трохмоўным надпісам: «Турма Хрыста». Над уваходам красаваўся надпіс на грэчаскай мове, злева — на англійскай, справа — ламалася нямецкая готыка. Праваслаўны манах павёў нас па аблупленай лесвіцы глыбока ўніз, у падзямелле, дзе ўсё прапахла цвіллю. Там ён паказаў нам келлю з высечанай у скале лаўкай, а ў лаўцы — дзве адтуліны.

— У іх былі заціснуты святыя ногі Хрыста, калі ён сядзеў тут у турме, — сказаў манах, набожна жагнаючыся, і пацалаваў камень. Потым сунуў нам у рукі па тонкай свечачцы, каб мы лепей бачылі, і заінкасаваў за гэта належную пошліну.

Калі мы вылезлі на свет божы, то заўважылі яшчэ чацвёрты надпіс на будынку. Авальная медная дошчачка аб'яўляла, што ў Хрыстовай турме размешчан філіял Атаманскага банка.

У паўночных сценах Іерусаліма — тры брамы. Самай большай і самай вядомай з'яўляецца Дамаская. Тут раскінулі свае палаткі гандляры гароднінай і прадаўцы парнаграфічнай літаратуры. Спусціўшыся па лесвіцы, якая вядзе ад брамы, вы можаце выбіраць: альбо накіравацца на Крыжовы шлях або на рынак Хан Эз-Зайт.

Хан Эз-Зайт выглядае амаль так, як бочка селядцоў: адзін на адным, выпадковыя прахожыя прадзіраюцца паміж пакупнікамі, тыя накідваюцца на турыстаў. І над усім зборышчам людзей, заціснутым у шэры каменны тупік, стаіць незмаўкальны галас. У паветры разносіцца неймаверная сумесь розных, добрых і дрэнных, пахаў. Усё якраз гэтак жа, як і на кожным іншым арабскім базары.

Адсюль ужо толькі некалькі крокаў да месца, якое называецца Кальварыя.

* * *

О вы, наіўныя ўяўленні аб крыжовых шляхах са святымі абразкамі!.. Аб пілігрымах, якія ідуць ад аднаго паўстанку да другога... Над галовамі іх — высокае веснавое неба з жаўранкавай песняй, вакол зелянее рунь, і аднекуль з гары, з свежапабеленай вясковай каплічкі, даносіцца цілібомканне званоў...

Да сапраўднай, іерусалімскай, Кальварыі трэба ісці праз гаманлівы арабскі рынак па шырокім брукаваным тратуары, над якім тырчыць чатырохгранная вежа мінарэта з паўмесяцам. Тут на вас накінецца зграя надаедлівых правадпікоў, якія, размахваючы паперамі, даводзяць, што толькі яны маюць паўнамоцтвы яго каралеўскай вялікасці, што яны заплацілі належны падатак і таму могуць вам расказаць, як там яно было з тым Хрыстом.

Потым вы пройдзеце браму, і справа выгляне сspляценне жалезных траверсаў, убітых у чатыры бетонныя сцяны.

Гэта фасад храма гробу божага. Жалезныя бэлькі пастаўлены ў 1927 годзе, калі Іерусалім патрэсла землетрасенне, якое не пакінула ніякага месца для цудаў.

У сярэдзіне ў храме — цемра, фактычная і духоўная. Ніколі ў жыцці не бачылі мы нічога настолькі містычнага, панурага і непрыветлівага. Капліцы і ратонды, слупы і алтары — усё безнадзейна змрочнае. Наведвальнікі ходзяць са свечкамі ў руках уздоўж сцен, у якіх фанатычныя крыжаносцы высеклі многія тысячы крыжыкаў, каб гэтым здабыць сабе збавенне ад грахоў. Па лесвіцах і лесвічках то ўгару, то ўніз, пераходзілі з адной каплічкі ў другую, а ў самую святую, што пасярод ратонды ў заходняй частцы храма, трэба ісці такім вузкім праходам, што ў ім два чалавекі не размінуцца. Гэта анёльская капліца, за ёй трэба праціснуцца праз яшчэ адну такую вузкую шчыліну, і перад вамі — гроб божы.

— Зірніце, браты, — прапануе здаўленым голасам гід з тварам ліслівага фарысея, — на гэтым камені сядзеў анёл, які ўзнёс Ісуса на неба. А цяпер, браты, вы павінны працягнуць руку да святога каменя, на якім ляжала цела Хрыста пасля таго, як было знята з крыжа. З гэтага моманту вы хаджы! — ён бярэ вашу руку і сілком прыкладвае яе да халоднага каменя нішы...

За месца гробу божага зацята змагаліся крыжаносцы з магаметанамі, і тыя, і другія так стараліся заваладаць ім, што тут засталіся адны руіны. Тым не менш, вам сёння пакажуць месца, дзе Хрыстос быў зняты з крыжа (у мармуровай падлозе — круглая адтуліна, каля яе — медная дошчачка), дзе адбылося апошняе памазанне, дзе ён устаў з мёртвых (у мармуры шчыліна шырынёй у дзесятак сантыметраў). Уся тэрыторыя храма забіта панікадзіламі, вечнымі агнямі (якія не свецяць), мошчамі, магіламі святых і каштоўнасцямі. Толькі каля абраза панны Марыі — склад каштоўных каменняў вартасцю ў сем мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.



Купал храма на святой скале, разбураны ў час палесцінскай вайны, цяпер абкладваецца пазалочанымі плітамі.

У Іерусаліме маюць свае рэзідэнцыі аж тры патрыярхі — рымска-каталіцкі і два праваслаўных, армянскі і грэчаскі, два прэлаты (копцкі і мараніцкі), англіканскі біскуп, якім 6 студзеня 1959 года ўпершыню ў гісторыі стаў араб, іарданец па імені Наджыб Кубаі, далей лютаранскі пробашч, эфіопскі абат і невядома колькі яшчэ розных саноўнікаў. І ўсе гэтыя цэрквы на працягу стагоддзяў змагаліся за тое, каб ім належаў хоць бы кавалак храму гроба божага.

Быццам нейкае акцыянернае таварыства хрысціянскіх цэркваў!

Жалезныя бэлькі, якія пастаўлены перад храмам, — шматзначны сімвал: яны падпіраюць не толькі фасад будынка, але і ўсю гэтую заблытаную мешаніну забабонаў і людской прастаты і даверлівасці.

## ПАДЗЕЛЕНЫ ІЕРУСАЛІМ

Сённяшні план Іерусаліма нагадае вам сярэдневяковую крэпасць, сцены якой з захаду абмывае балоцістая рака. У некаторых месцах рэчышча ракі робіцца больш шырокім, нібы яна не можа цячы далей, — але ўсё ж потым знаходзіць сваю дарогу.

Берагамі гэтай ракі з'яўляюцца лініі, на якіх у 1948 годзе спыніліся арабскія і ізраільскія войскі. На лініях напісана: «Граніца перамір'я», на патаўшчэннях — «Нічыя зямля». На некаторых картах гэтая назва замяняецца больш эўфемістычнай: «Пад кантролем ААН».

Іерусалім — гэта горад, падзелены амаль так, як Берлін. Па абедзвюх яго частках шпацыруюць салдаты ў сіняй форме з літарамі «ААН» на пагонах, патрулі раз'язджаюць па горадзе ў элегантных аўтамашынах, з якіх вытыркаюцца гнуткія антэны радыёперадатчыкаў.

Паміж абедзвюма часткамі да сённяшняга дня пануе варожасць. З аднаго сектара ў другі нельга нават пазваніць па тэлефоне, паміж імі наогул няма ніякай сувязі. Тры з васьмі іерусалімскіх брам слепа ўзіраюцца ў нічыю зямлю, абкручаныя калючым дротам. Толькі двойчы ў год — на каляды і вялікдзень — хрысціяне з ізраільскай часткі Іерусаліма маюць магчымасць прайсці ў арабскую частку, ды і то праз адну толькі Міндальную браму. Гэтым жа шляхам яны павінны вярнуцца і назад. Калі б хто-небудзь паспрабаваў нелегальна прабрацца з Іярданскага Іерусаліма ў яўрэйскі, ён назаўсёды развітаўся б не толькі з Іярданіяй, але і з усімі арабскімі краінамі, якія згодна трымаюцца адна за адну і не даюць права на ўезд уласніку пашпарта, у якім пастаўлена ізраільская віза.

Ну, калі мы не можам ступіць на зямлю гэтага другога Іерусаліма, дык, прынамсі, хацелі б мець яго здымак. Аднак з вежы лютаранскага касцёла, што насупраць храма гробу божага, ізраільскі Іерусалім не схопіш нават і тэлеаб'ектывам. Відаць толькі прысадзісты будынак атэля «Цар Давід», сям-там развяваюцца сцягі прадстаўніцтваў, якія перабраліся з Тэль-Авіва ў Іерусалім, калі сюды пераехаў ізраільскі ўрад. Але нічога больш.

Зайшлі ў касцёл святой Тэрэзіі, вежа якога не толькі вышэй за лютаранскую, але і бліжэй да Ізраіля — усяго якіх-небудзь сто метраў ад агарожы.

— Што вы, што вы! — спалохана перажагнаўся свяшчэннік. — Вы спачатку павінны прынесці пісьмовы дазвол ад камандавання ААН. Але і пасля гэтага я не хацеў бы браць вас на сваё сумленне. — Ён зноў перажагнаўся. — Яўрэі адразу ж пачынаюць страляніну. Шэсць год назад адзін таксама хацеў сфатаграфаваць Дамаскую браму, а яго застрэлілі!

Але хто больш за ўсё сумуе па «ўкрадзеным» горадзе, дык гэта старыя рэлігійныя яўрэі. Свой сум яны не могуць выплакаць каля Сцяны слёз — яна засталася за глухой заслонай з калючага дроту і сініх мундзіраў ААН. Там, дзе стагоддзямі сыны Майсея аплаквалі пагібель Іерусаліма, разбіваючы сабе лоб аб масіўныя каменныя пліты, сёння велічная цішыня і спакой. Кот грэецца на сонейку, вось ён падрапаў лапкай па радку старажытных пісьмёнаў, высечаных на камені рукой чалавека многа стагоддзяў назад, і ўскочыў на праціглеглую сцяну. За ёй жывуць арабскія бежанцы, якія аплакваюць свае дамы, пакінутыя ў ізраільскай частцы Палесціны.

Толькі дзеці арабаў нічога яшчэ не разумеюць у гэтай блытаніне і бесклапотна гуляюць у квача каля старажытнай Сцяны слёз.

## ПРАЙДЗІЦЕ ПА ЯГО ШЛЯХУ!

У канцылярыі іярданскага пасольства ў Бейруце, дзе мы чакалі віз на права ўезду, вісеў каляровы плакат. Над чырвонымі купаламі цэркваў і прыветлівай зялёнай садоў Іерусаліма красаваўся надпіс: «Перад вамі Алівецкая гара, адкуль Ісус Хрыстос узнёсся на неба. Прайдзіце па яго шляху!»

Сапраўды, з Алівецкай гары цудоўны від на Іерусалім. Толькі тут вы адчуеце яго пластыку, яго велічнасць — горад пануе над Кедронскай і Іясафацкай далінамі. Усюды — цэрквы з хрысціянскімі крыжамі, мінарэты з паўмесяцам, а на заднім плане — сінагогі з шасцікутнай зоркай. Усё перамешана разам, мяжу праводзяць толькі агарожы.

Трыццаць чатыры вежы ўзнімаюцца над зубцамі сцен Іерусаліма, якія цягнуцца на чатыры кіламетры. І вышэй за ўсіх выпінаюцца цыбуліны цэркваў, размешчаных на святой скале.

Каля дарогі, уздоўж якой цягнуцца старыя мусульманскія могілкі, — сучасны Храм нацый, за яго сценамі пачынаецца Гефсіманскі сад. Там — руская царква Марыі Магдаліны, пабудаваная па загаду Аляксандра III для «вящей славы божией». Мы пазванілі каля дзвярэй, нам адчыніла маладзенькая манашка, прыгожая дзяўчынка год дзевятнаццаці. На нашу падзяку і пытанне, як трапіць на Алівецкую гару, яна адказала таксама па-англійску, але ў гэтых некалькіх словах вельмі моцна прагучаў рускі акцэнт. Мы загаварылі парусску.

Яна спынілася, нібы аглушаная маланкай. Твар яе заліла чырвань, рукі задрыжалі. Усхвалявана, адрывіста яна расказала, як прайсці на гару, і затым адважылася спытаць, адкуль мы. Ці не з Расіі...

Вакол нас цягнуліся доўгія рады магіл з помнікамі, на якіх было многа рускіх імён. Стары, дарэвалюцыйны правапіс не змяняўся нават тады, калі дата сведчыла, што нябожчыка хавалі нядаўна, некалькі год назад, ужо значна пазней заканчэння Вялікай Айчыннай вайны. У Гефсіманскім садзе стаяла магільная ціша, толькі ледзь чутна шапацела лісце на аліўкавых дрэвах. Быў сонечны поўдзень.

Мы доўга яшчэ глядзелі на дзяўчыну. І яна некалькі разоў трывожна азірнулася, адыходзячы ад нас па сцяжынцы, якая гублялася за магільнымі помнікамі. Нам было шкада яе — яна нагадвала нам некага з тых, хто тлеў у магілах пад карэннем аліў, хоць у



Па ваду да Ільіной крыніцы.

жылах дзяўчыны і цякла маладая дзявочая кроў.

Мы ўспомнілі вясёлых масквічак і ленінградак, якія радасна і горда праходзяць па стадыёну ў Лужніках — іх думкі былі ў зусім іншым свеце.

Над вежамі-цыбулінамі царквы Марыі Магдаліны паплыў глухі пахавальны звон.

* * *

За дзень да Новага года сонца над Акабскім залівам заходзіць у 18-35. На сваім невысокім шляху яно схіляецца спачатку да неабсяжнай раўніны Вадзі-Муса, а потым хутка саслізгвае за ўзгоркі, што бягуць ад самага Чырвонага мора. Ні Абдул Рахман, наш канавод, ні пятнаццацігадовы праваднік Мухамед не разумеюць нашага захаплення рамантычным сконам дня і залацістай лавінай колераў, якая паволі спаўзае з фасада храма Эд-Дэір, пакуль нарэшце не знікае ў пяску. Яны па-арабску і па-англійску звяртаюцца да нас, просяць, каб мы канчалі фатаграфаваць і збіраліся ў дарогу. Нават кожнага па імені клічуць, — за дзень, праведзены разам з намі, даведаліся, як каго завуць, — а калі і гэта не памагае, пачынаюць у самых энергічных выразах тлумачыць, што да лагера, адкуль мы на досвітку выехалі, добрыя дзве гадзіны хады. І, наогул, яны хочуць есці і піць.

— Коні дык хоць атрымалі па ахапку сена ў поўдзень, ды яшчэ па дарозе сям-там паскублі травы. А мы? Ледзь трымаемся на нагах...

Мы адчуваем сябе не лепш. Жменю фруктаў, што мы ўзялі на дарогу, даўно ўжо з'елі. Але мы не зважаем на зморанасць, нас гоніць наперад цікавасць да той незвычайнай красы і зграбнасці, якой вызначаецца каменнае цуда, пабудаванае ў фантастычным лабірынце скал. Даўно ўжо трэба было падумаць аб вяртанні, мы ведалі, што нас чакае нялёгкая дарога з небяспечнымі лагчынамі і такімі вузкімі цяснінамі, праз якія ледзь прабярэцца чалавек. Але на другім канцы гэтага лабірынту, як у казцы аб зачараваным замку, быў славуты Эд-Дэір, высечаны ў скалах храм — каштоўны скарб набацеяў, які стагоддзямі хаваецца ад людскога вока.

### ГНЯЗДО РАЗБОЙНІКАЎ

Зімою ў Амане попыт на турыстаў расце. Шаферы таксі нудзяцца без работы і ахвотна распачынаюць гутарку. Ну, вядома ж, яны ведаюць дарогу ў Петру, кожны з іх там быў ужо сотню разоў, але гэтая дарога — зусім не мёд. І не дзіўна, што з 1812 года, калі Буркхардт — першы еўрапеец — убачыў гэты цуда-горад, высечаны ў ружовых скалах, там мала што змянілася — дарога да Петры такая ж кепская, як і раней. Машынай? Цяпер, калі пачаліся дажджы? Шаферы пераглянуліся, у іх позірках была непрытоеная насмешка. Дзівакі, хіба яны не ведаюць, што праз некалькі кіламетраў за Аманам канчаецца асфальт, а за ім пойдзе дарога, якая прыдатная — і то не вельмі — толькі для аслоў і вярблюдаў. За Керакам вы наогул можаце загрузнуць у багне. Каб гэтае балота высахла, патрэбны па меншай меры тры сонечныя дні.

— Або, — заўважыў адзін з шафёраў, выцягваючы скамечаную карту Іярданіі, — можна ехаць праз пустыню, па шпалах чыгункі. Гэта зусім надзейны спосаб, поезд праходзіць там адзін раз у дзень. Я так ездзіў прынамсі з пяцьдзесят разоў. А да трасяніны можна прывыкнуць.

Мы паехалі праз Керак.

Што і казаць, наша дарога была не багатая на прыгоды — за два дні мы не сустрэлі ніводнай машыны.

За Мадэбай дарога двойчы пагружаецца ў глыбокія каньёны Вадзі-Зарка і Вадзі-Муджыб. Нідзе больш, за выключэннем лагчын у нагорным плато Цэнтральнай Эфіопіі, мы не бачылі такога дзікага хараства. Яно і прыгнятае вас, і захапляе. Наганяе страх і ў той жа час пераносіць вас некуды ў далёкія прасторы па-за нашай планетай, якія чалавецтва толькі пачало заваёўваць.

На дне даліны Муджыб стаяла прыемная цішыня, тут не чуваць было пранізлівага свісту халоднага ветру, як наверсе; апрача таго, зайшло сонца, і нам не хацелася ехаць далей. Пераначуем вось тут, за мостам, каля заезнага доміка, які выглядае, як прытулак разбойнікаў.

Нас паклікалі ў хатку выпіць па арабскаму звычаю шклянку чаю і расказаць, што мы за людзі.

У кутку цёмнай хаціны раўло радыё, выкідваючы лавіну гнеўных слоў. Людзі за сталом узбуджана крычалі, спрачаліся з дыктарам, замахваліся кулаком на старэнькую скрыначку рэпрадуктара. Потым старэйшы павярнуўся да скрынкі і адзіным рухам прымусіў дыктара замоўкнуць.

— Калі б мне яго далі, я б яго задушыў, — сказаў ён раз'юшана, ставячы чай на стол.

— Каго гэта?

— Галоўнага пракурора, які ў Багдадзе судзіць удзельнікаў масульскага паўстання.

Паміж іншым, ён пахваліўся, што гады два назад служыў у аднаго англійскага палкоўніка.

— Нягоднік! Я мог яго забіць ужо за тое, што ён англічанін. Але ж гэта быў мой прыяцель, і я толькі абакраў яго. Я ўзяў у яго пад ахову чатыры тысячы долараў.

Мы ўзняліся: ці не лепей заплаціць самім?

Але пра плату ён і слухаць не хацеў. Як так, мы ж яго прыяцелі!

Сумленны разбойнік — цікава!

(Працяг будзе).

Пераклад з чэшскай мовы
**А. МАЖЭЙКІ.**





# ПАЗЫЎНЫЯ Ў ЭФІРЫ



**Тацяна і Георгі Радзіён ля свайго кароткахвалевага прыёмніка.**

У Мінску і ў іншых гарадах рэспублікі можна бачыць над дамамі металічныя спляценні — антэны. Па іх беспамылкова вызначыш: тут жыве радыёаматар, адсюль ва ўсе канцы зямлі ляцяць кароткія сігналы азбукі Морзэ. Партрэт Папова, мноства правадоў, радыёапаратура — так выглядае пакой кароткахвалевіка.

Гадзінамі сядзіць спартсмен ля радыёстанцыі, прымаючы і пасылаючы сігналы сваім далёкім сябрам з усіх кантынентаў. Патрэбна валодаць вялікай вытрымкай, каб вось так цярпліва, доўгія гадзіны сядзець за сталом.

Георгі Радзіён, каржакаваты хлапец з высокім ілбом і разумнымі вачамі, у клуб ДТСААФ прыйшоў з цвёрдым намерам стаць спецыялістам сваёй справы. Гэта было ў 1956 годзе, Георгі вучыўся тады ў політэхнічным інстытуце. Часу вольнага ў Георгія было не многа, і ўсё ж ён здолеў выкройваць гадзіну-другую ў дзень на сур'ёзнае вывучэнне радыётэхнікі.

Настойлівасць, вялікая воля да перамогі, вопыт — вось тыя якасці, якія неабходны кожнаму спартсмену. Валодае гэтымі якасцямі і Георгі. Яму ўдалося наладзіць шматлікія сувязі з далёкімі сябрамі. У сямейным альбоме Георгія — больш двухсот дыпломаў і грамат. Атрымана шмат паштовак. Яны ідуць з Амерыкі, Аўстраліі, Афрыкі — з усіх кантынентаў і краін свету. Почырк Радзіёна таксама ведаюць многія зарубежныя радыёаматары.

Ля радыёстанцыі часта садзіцца і жонка Георгія — Таня. Разам яны працавалі на калектыўнай радыёстанцыі ДТСААФ, пазнёміліся, назаўсёды звязалі сваё жыццё. У іх ужо ёсць дзеці, і яны з маленства захапляюцца радыётэхнікай. Цяпер Радзіёны ў клуб прыходзяць учацвярых...

Часта пра вядомага спартсмена гавораць: «талент». А спытайце вы самога спартсмена, і ён скажа: «Талент? Не, праца, напружаная, штодзённая прыносіць поспех». І так не толькі ў спорце, а і ў рабоце, вучобе. Нездарма ж пра Георгія так цёпла гавораць і таварышы па рабоце ў канструктарскім бюро мотавелазавода, дзе ён працуе. І тут, як і ў эфіры, ён шукае, эксперыментуе. І на працы ў яго — заўсёды поспехі.

... Кароткія сігналы, нібы аўтаматныя чэргі, сыпле эфір. Здаецца, у гэтым аднастайным патоку кропак і працяжнікаў нельга знайсці якую-небудзь заканамернасць, немагчыма разабраць таропкую размову далёкага субяседніка. Але радыёаматар, узброіўшыся алоўкам, запісвае тэкст. «Усім, усім, усім!» — падае пазыўныя карэспандэнт. Валянцін Бензар тут жа адказвае яму: «Добры дзень, дарагі сябар! Вялікі дзякуй за выклік. Я вас чую ў Мінску добра...» І зноў кароткія сігналы напаўняюць пакой: «Вялікі дзякуй за адказ. Чую вас у Празе выдатна. Мяне завуць Мразек».

Звычайная размова. Спартсмены-радыёаматары ўстанавілі сувязь. Яны абмяняюцца паштоўкамі. А бываюць і іншыя сігналы.

«У Грэцыі захварэў чалавек. Завуць яго Георгігіас Балтас. Выратаваць яго можа толькі лякарства, якое ёсць у СССР...» Трывожны сігнал атрымалі спартсмены. Дзесьці памірае чалавек. І яны, звычайныя спартсмены-радыёаматары, могуць выратаваць яго жыццё. Адразу ж паляцела паведамленне — шукаем патрэбнае лякарства. Шукалі ўсю ноч. А раніцой сярэбраная птушка панесла лякарства ў далёкую Грэцыю. Прайшоў некаторы час, і зноў раздаліся пазыўныя радыёаматара з Грэцыі. Вось яго словы: «Я не толькі дзякую і радуюся за сябра. Я захапляюся вашым народам!»

І гэта не першы выпадак, калі кароткахвалевікі выратавалі жыццё чалавеку іншай краіны. Спартсмены Мінскага радыёклуба ДТСААФ пасылалі лякарства ў Балгарыю. Яны не адзін раз былі пасрэднікамі ў наладжванні сувязі паміж палярнікамі і Масквой.

Эфір жыве сваім цікавым жыццём. Падаюць аб сабе весткі ўсё новыя і новыя карэспандэнты. Па іх пазыўных Валянцін Бензар беспамылкова вызначыў, з якой яны краіны. Тут і французы, і японцы, і чэхі, і індыйцы, і палякі, і нават аўстралійцы. Вось пульс сігналу ледзь-ледзь чуваць. Валянцін напружвае слых, імкнецца як мага дакладней настроіцца на хвалю. Сігналы мацнеюць, растуць. Гаворыць аператар з Мірнага: «Усе адчуваюць сябе добра. Шлём прывітанне беларускім дтсаафаўцам. Дапамажыце звязацца з Масквой тэлеграфам. Я буду працаваць з 17.00 да 18.00. Усе адчуваем сябе выдатна». Валянцін тут жа адказвае: «Перадайце шчырае прывітанне зімоўшчыкам, жадаем выдатных поспехаў у рабоце. Просьбу вашу выканаем».

Валянцін Бензар яшчэ школьнікам знайшоў дарогу ў радыёклуб. Цікаўны хлапчук разам з іншымі дтсаафаўцамі складаў схемы радыёстанцый, майстраваў іх. Цяпер у Валянціна самая сучасная радыёстанцыя. Ён асвоіў работу на адной бакавой паласе. А гэта адкрыла вялікія магчымасці для правядзення рэдкіх і надзвычай далёкіх сувязей. Сёння ж яшчэ нямногія кароткахвалевікі могуць пахваліцца сувязямі з аператарамі ў Паўночным Ледавітым акіяне і з Савецкай арктычнай экспедыцыяй. А Валянцін размаўляў з імі не адзін раз. Ён завязаў трывалую сувязь з востравам Дзіксан, мысам Чалюскіна, Антарктыдай.

— Мая мэта, — расказвае Валянцін, — пастаянна ўдасканальваць якасць сваёй работы ў эфіры.

Спартсменаў часта падпільноўвае няўдача. Шмат іх меў і Уладзімір Якубовіч. Часта псаваўся прыёмнік (а здавалася, усё было так дакладна спланавана, зроблена!), гарэлі засцерагальнікі, замыкала электраправодка. І ўсё ж свае няўдачы Уладзімір сустракаў, як і належыць спартсмену. Ён ніколі не адчайваўся.

Першы дэтэктарны радыёпрыёмнік Уладзімір змайстраваў яшчэ тады, калі насіў чырвоны гальштук. Гэта быў першы прыёмнік у вёсцы. Потым у хаце з'явіўся лямпавы. Вялікай школай для юнака сталі гады службы ў радах Савецкай Арміі. А пасля дэмабілізацыі ён вырашыў сабраць сваю ўласную кароткахвалевую радыёстанцыю. І сабраў. Кожны вінцік, кожны вузел зроблены ў ёй самім спартсменам. Цяпер пазыўныя мінскага радыёаматара — УЦ2БУ, ведаюць многія кароткахвалевікі свету. Уладзімір выканаў нарматыў першага спартыўнага разраду.

А вось ткачыха з камвольнага камбіната Іна Позняк. Неяк заўважыла яна аб'яву, у якой паведамлялася аб адкрыцці курсаў радыётэлеграфістаў. Запісалася. Новая, незнаёмая справа захапіла яе. Адной з першых выканала яна нарматыў трэцяга разраду. Рашыла дамагчыся большага. Пастукалася ў дзверы рэспубліканскага радыёклуба. Прайшоў некаторы час, і яна выйшла ў эфір. Цяпер Іна Позняк устанавіла больш, чым 500 сувязей, размаўляла з Францыяй, Англіяй, Амерыкай, Афрыкай, савецкім Далёкім Усходам. Работніца камвольнага камбіната мае свае пазыўныя — УЦ22182.

Няспынна расце колькасць радыёаматараў у рэспубліцы. Станцыі кароткахвалевікоў паявіліся і ў вёсцы. Выйшлі ў эфір спартсмены з вёсак Прылукі, Дзераўня, даўно ўжо абсталяваўся, набыў вядомасць смілавіцкі спартсмен Фёдар Салаўёў і іншыя.

... Ярка гараць рознакаляровыя агеньчыкі станцыі беларускіх кароткахвалевікоў. Нясецца імклівы перастук азбукі Морзэ. То выйшлі ў эфір людзі цікавай прафесіі. Поспехаў вам, настойлівыя!

**М. ЧАХОЎСКІ.**




**З усіх канцоў свету атрымліваюць Таццяна і Георгі вось гэтыя карткі, што прысылаюць ім кароткахвалевікі пасля ўстанаўлення сувязі.**

Фота **С. Чырэшкіна.**

# *Шахматы*

Пад рэдакцыяй міжнароднага майстра
**А. СУЭЦІНА.**



Віктар Купрэйчык.
Фота **А. Дзітлава.**

# РАСЦЕ ЗМЕНА

Сягоння ў шахматным раздзеле часопіса мы раскажам пра самых юных, пра тых, чый спартыўны шлях яшчэ наперадзе. Праўда, кожны з іх мае ўжо нямала сыграных турнірных партый у школьных гуртках, палацы піянераў і нават у сценах Рэспубліканскага шахматнага клуба. Нават у самых юных шахматыстаў нашай сталіцы паўнакроўнае шахматнае жыццё не спыняецца ні на хвіліну.

Магчыма, што ў тых, каму цяпер шахматы здаюцца абсалютна неабходным заняткам, у далейшым з'явяцца іншыя захапленні: тэхнікай, медыцынай, літаратурай... Але будзем спадзявацца, што яны не пакінуць шахматнай гульні зусім і хоць гадзіну ў тыдзень на працягу ўсяго свайго жыцця будуць аддаваць шахматам.

Мне здаецца, што нашы дзіцячыя спартыўныя шахматныя гурткі перш за ўсё павінны імкнуцца на шахматным «матэрыяле» выхоўваць у школьнікаў такія якасці, якія адначасова будуць спрыяць і паспяховай вучобе ў школе і развіццю працоўных навыкаў. Шахматы маюць моцны ўплыў на фармаванне характару чалавека. Яны выхоўваюць здольнасць да працяглай і напружанай сканцэнтраванасці ўвагі, да разумовай працяглай працы, спрыяюць сабранасці думкі. Наогул, шахматы патрабуюць моцнага характару, таму што дасягненне майстэрства ў гэтым відзе спорту — справа нялёгкая.



Сярожа Бягун вядомы ў 21-й школе як добры шахматыст.

Ёсць дзеці з выключнымі шахматнымі здольнасцямі: яны хутка пачынаюць заўважаць усе незвычайныя камбінацыі ў партыях, хутка запамінаюць гаму дэбютных варыянтаў і г. д. На жаль, нярэдка захапленне шахматамі адрывае іх ад вучэбных заняткаў, перашкаджае рабіць хатнія заданні, а ў выніку развівае аднабаковае мысленне, паслабляе волю. У далейшым гэтыя рысы характару адмоўна адбіваюцца і на «шахматным» развіцці такіх дзяцей.

Вывад адзін: добрая, старанная вучоба ў школе — неабходная ўмова для кожнага юнага аматара шахмат.

Сярожу Бегуну чатырнаццаць год. Ён вучыцца ў 8 класе 21-й сярэдняй школы горада Мінска і моцна захапляецца шахматамі. Рэгулярна наведвае шахматны гурток Палаца піянераў, часта вечарамі, як на свята, ідзе ў Рэспубліканскі шахматны клуб. «Як ты вучышся?» — пытаемся мы ў Сярожы. «Большасць—пяцёркі. Троек вядома, няма», — адказвае ён. «А ўсё ж, з таго часу, як заняўся шахматамі, ці не стаў ты горш вучыцца?» «Зусім наадварот, я цяпер нават лепш вучуся, чым раней», — сказаў Сярожа. «А ў чым жа яны табе памаглі?» «Напрыклад, у матэматыцы. Я стаў «шахматным спосабам» уяўляць рашэнне задач, і матэматыка зрабілася намнога цікавейшай», — сур'ёзна і ўдумліва прамовіў Сярожа.

Сярожа Бягун не па гадах удумлівы, дысцыплінаваны і разам з тым — жвавы па натуры. Ён любіць «ганяць» футбол, катацца на каньках. Займаецца ў валейбольнай секцыі «Спартака» ў майстра спорту Л. Шчукінай.

Як шахматыст Сярожа Бягун яшчэ вельмі малады. Але ён заўсёды імкнецца рашыць партыю прыгожай камбінацыяй — а гэта першы парастак шахматнай творчасці, аснова ўдасканалення.

Вось паглядзіце, як закончыў Сярожа адну са сваіх партый.

**Партыя Бягун—Гарадзецкі**

Белыя знаходзяць прыгожы фарсіраваны шлях да перамогі ў гэтым з першага погляду зусім роўным становішчы.



1. Фb7! Сс7, 2. Фс8+ Крg7 (на 2. ...Cd8 было б 3. Ke6!), 3. Ф : c7+ Ф : c7, 4. Ke6+, і белыя выйгралі фігуру.

Цікава, што ў Бегуна ёсць густ у шахматнай кампазіцыі. Першую са складзеных ім задач мы прыводзім ніжэй.

Заўсёды наведвальнік шахматнага клуба і Фелікс Ліўшыц. Яму трынаццаць год. Як і Бягун, ён вучыцца ў 21-й школе, у 6 класе. І таксама — адзін з лепшых вучняў школы.

Саша Ключ, вучань 8 класа 61-й сярэдняй школы, як і Фелікс, імкнецца дагнаць Бегуна па спартыўнаму разраду. Бягун ужо мае першы разрад, Саша і Фелікс — другі. А гэта—вялікая дыстанцыя ў юнацкіх разрадах!

Але пакуль што ўсіх іх апярэдзіў іх самы малодшы сябар — дванаццацігадовы Віця Купрэйчык. Ён у гэтым годзе не толькі заваяваў першы разрад, але надзвычай добра праведзены

гульні на юнацкім першынстве рэспублікі і стаў чэмпіёнам сярод юнакоў. Цяпер Віця — самы юны першаразраднік Беларусі. Нават ва ўсім Савецкім Саюзе не шмат знойдзецца яго аднагодкаў, якія так добра гуляюць у шахматы, як ён.

Віця вельмі маленькага росту, але ён вельмі заўзяты! Нездарма ён любіць розныя спартыўныя гульні, і асабліва хакей — гэтую чыста мужчынскую гульню!

А ў шахматах Віця перш за ўсё верыць у атаку, якую пераважна вядзе лёгкімі фігурамі. Пешкі пакуль не карыстаюцца яго любоўю. Што ж, прайшло каля трох стагоддзяў перш чым шахматныя тэарэтыкі (Філідор) зразумелі значэнне пешкі — гэтай «душы шахматнай гульні». І, канешне, у Віці больш чым дастаткова часу, каб зразумець значэнне гэтых фігур. А пакуль што можна «плаваць» у моры камбінацый, накшталт нашых продкаў — прыхільнікаў школы рамантызму.

Ужо з ранняга ўзросту трэба ўважліва прыглядацца да асаблівасцей мыслення юных шахматыстаў, таму што фармаванне стылю пры сістэматычных занятках адбываецца вельмі хутка.

Эстафета шахматных пакаленняў ідзе бесперапынна. Міжволі ўспамінаюцца першыя крокі Валодзі Літвінава, Алега Бермана, Аліка Капенгута, Роберта Збароўскага. Цяпер ім па 18—20 год, і яны з'яўляюцца кандыдатамі ў майстры. У кожнага — свой, асаблівы стыль гульні. А якіх-небудзь пяць год таму назад усе яны былі яшчэ пачынаючымі шахматыстамі.

Шкада толькі, што некаторыя з маладых здольных шахматыстаў, дасягнуўшы высокага разраду кандыдата ў майстры, усё менш аддаюць увагі вучобе ў школе ці ВНУ. З выдатнікаў яны робяцца вельмі пасрэднымі вучнямі і нават дрэннымі студэнтамі.

Праблема прыходу новага пакалення шахматыстаў у нашай рэспубліцы вельмі сур'ёзная. Да гэтага часу нашы юныя шахматысты яшчэ далёкія ад сучасных патрабаванняў майстэрства. Праўда, у Беларусі растуць маладыя шахматныя майстры— наша змена.

У заключэнне рашыце задачу, складзеную Сярожам Бегуном. Белыя пачынаюць і робяць мат у два хады.



# Гумар і сатыра

## ВЯСНОВЫЯ НАСТРОІ






Вясна ідзе.





Янка! А чаму ты яшчэ маміны галошы не ўзяў?



Веснавы міраж.




Імгненна-касмічная халтураграфія.



— Брахаць ці не?
— Памаўчы лепей... Усё роўна ён выкруціцца.



Не для яго прыйшла вясна...



Без слоў...






— З таго часу, як Сяргей набыў акваланг, я не магу ў ванне памыцца.
— Не гаруй, дарагі, цяпер і ў возеры можна мыцца.



— Ці ёсць у вас лязо?
— Як бачыце...












Трое на адным месцы, затое дружныя.

Мал. У. Лося. У. Конаша. А. Кійранена.

## ЗМЕСТ



### На арбіту камунізма



### Слаўны юбілей піянерыі



### Навука і культура



### Крытыка і бібліяграфія



### З блакнота падарожніка



### Спорт



### Шахматы



### Гумар і сатыра



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А гармонік грае, грае...»**





**Люда Лобан, 9 год. Дзяўчынка з кветкамі.**
Мінскі палац піянераў.



С. Каткоў. Растворны вузел Полацкага нафтабуда.



М. Несцераў. За прываротным зеллем.

